ЯНКА КУПАЛА

# ЗБОР ТВОРАЎ

ТОМ ДРУГІ

*ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ*

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ЯНКА КУПАЛА

# ЗБОР ТВОРАЎ

ТОМ ДРУГІ

*ШЛЯХАМ ЖЫЦЬЦЯ*

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1926

# АД ВЫДАВЕЦТВА.

Том 2-і „Збору Твораў“ Я. Купалы ўкладзены з вершаў, напісаных у 1910—1913 г. г. і першы раз выданых у 1913 г., а другі раз—у 1923 г. ў зборніку „Шляхам Жыцьця“. Шырокаграмадзкі характар поэзіі Я. Купалы бадай нідзе не праявіўся з такой сілай, натхненьнем і мастацтвам, як у вершах гэтага пэрыоду яго творчасьці. Агідныя праявы тагочаснае царскае рэакцыі, якая ярмом падвойнага ўціску—соцыяльнага і нацыянальнага—душыла беларускіх працаўнікоў, выклікалі ў песьняра магутнае полымя абурэньня і ненавісьці да старога ладу. Загартованая ў гэтым полымі творчасьць Я. Купалы пяруновымі ўдарамі б‘е па падмурках гэтага старога ладу. Але мала гэтага! Мала бічаваць і бурыць старое! Трэ‘ апраменіць бляскамі сваёй поэзіі тыя, быць можа яшчэ нявыразныя абрысы новае будучыны, якая павінна прыйсьці на зьмену гніламу, спарахнеламу. Трэ‘ заклікаць працоўныя гушчы ісьці ў змаганьні насустрач гэтай новай будучыне. І Я. Купала з усёй агністасьцю і парыўчасьцю свайго мастацкага таленту паказвае ў вершах гэтага пэрыоду (1910—1913 г. г.) набліжэньне новага, сьветлага і радаснага жыцьця і магутным голасам прарока кліча беларускі працоўны народ рваць ланцугі няволі і шукаць сваёй „кветкі шчасьця“. І ў сучасны момант, калі прароцтвы песьняра пачалі ажыцьцяўляцца, калі беларускі працаўнік, вольны соцыяльна і нацыянальна, будуе сваю Савецкую Рэспубліку, у якой нямінуча знойдзе „кветку шчасьця“, гэтыя вершы Я. Купалы каштоўны ня толькі сваёй нязвычайнай мастацкасьцю, але яны захоўваюць яшчэ ўсю сваю актуальнасьць і грамадзкую значнасьць.

## ЧЫМ ХАТА БАГАТА

Усяго па крысе
Знойдзеце вы гэтта,—
Пры сасе, пры касе
Собрана за лета.

Шчырым сэрцам, душой
Складана ня хітра,
Знама—свой, не з якой
Там „зьвёздкай“ ці мітрай.

Што-нібудзь мо‘ ня так—
Прашу прабачэньня;
Трудна ў рыхт—часу брак,
Мазалiста жменя.

Мо‘ і радасьць тут—госьць,
Больш нуды праклятай;
Вось бярэце, што ёсьць,
Чым хата багата.

Што у думках я меў,
Кепска даць ня браўся,
Хоць, як скованы леў,
Туды-сюды рваўся...

Людзі мруць, а ўсё ждуць
Багатшай уроды,
Мо‘ і к нам прыбягуць
Шчасьнейшыя годы.

О, тады сноп у сноп
Жніва наша будзе...
Сотня коп, мільён коп...
Дзівуйцеся людзі!

А цяпер, што цяпер?—
Бывайце здаровы!
Чэсьці дайце прымер
Для радзімых словаў.

## ПЕСЬНЯ МАЯ̀

Песьня мая ня ўзышла сярод кветак,
Кветак цьвітучага вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыцьцё пасярод палыньня.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Сьнежныя буры тулілі зімой.

Песьня мая ня ўсьпінае атласаў,
Выдумкай хітрай у сьвет не ляціць,—
Знацца ёй досьць з беларускаю красай—
Лесам шумеці, касою званіць.

З думкамі ходзіць забранага краю,
Служыць і верыць у лепшы усход...
Бо, калі гасьне паходня старая,—
Новую заўтра распаліць народ.

Песьні маёй не патрэбны сьвятліцы
У княжацкіх хорамах слухаць музык,
Коціцца-ўецца свабоднай крыніцай
К сонцу і зорам, прастор дзе вялік.

Ёй не патрэбна ўсясільных прынука,
Службы лякайскай ня знае яна:
Воля жывая ёй вечнай зарукай,
Волі нязьмернай—служба адна.

Песьня мая ня шукае прывету,
Ласкі ў скурганеным сэрцы чыім,—
Вецер свабодны з далёкага сьвету
Стрэне, праводзіць адпевам сваім.

З небам і ніваю ў дружбу заходзе,
Слухае бору адвечнай жальбы,
Водклікі лове ў бурлівым разводзьзі,
Ў зорках шукае жыцьця варажбы.

Песьня мая не зачэпе сягоньня
Думкай сваёю ўсіх хат і сяліб,
Зваленых хат і людзей у прыгоне,
Ўсходным зярном неабсеяных скіб...

Час, як крыніца, ідзе, не марудзе...
Кіне стары дзень жыцьцём кіраваць,
Новы дзень прыдзе, і новыя людзі
Будуць пачатую думку снаваць.

Песьня мая ня шукае чырвонцаў —
Будучнасьць гэткіх ня знойдзе ў ёй плям,—
Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.

Пеці, і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Ўсю Беларусь—неабнятну, як мора,
Ўбачыць у ясным, як сонца, сьвятле.

## ГРАЙЦЕ, ПЕСЬНІ

Ці то позна, ці то рана,
Чую нейкую напасьць;
Дзе ні стану, дзе ні гляну—
Думка ўсюды голас дасьць.

Неба, сонца, месяц, зоры,
Людзі, пушча, ўся зямля,
Ўсё да сэрца штось гавора,
Ўсюды бачу моц жыцьця;

І пагодай, непагодай
Не магу драмаць, чакаць:
Так і хочацца заўсёды
Песьню вечную снаваць;

Добрай доляй, дзіўнай казкай
Сон палошыць з хат нямых,
Пацяшаці сонца ласкай
І старых і маладых;

Зваці, клікаць на пакосы,
На нязьмераны прастор,
Хай зазвоняць сьмела косы,
Грукне ў лесе хай тапор;

Хай цярэбяць, косяць, звоняць,
Клік пускаюць на ўвесь сьвет,
Аж няўлады ўсе разгоняць,
Ляжа чысты роўны сьлед.

Гэтак, покі сэрца чуе,
Што ня час у шапку спаць,
Грайце, песьні, хай красуе
Наш загон і сенажаць!

## СВАЯКОМ ПА ГУТАРЦЫ

Шлю вам песьняй, братнім словам
Здароўканьне, людзі:
Не гасеце веры, што вам
Жыцца лепей будзе.
Вы ня зломкі, вы ня зноскі,—
Вы народ магучы:
Ваша панства—вашы вёскі,
Пан ваш—труд жывучы;
Ваша слава не ў палацы,
Ня ў княжацкай мітры,
А на роднай ніве, ў працы
Карыснай, няхітрай.
Вашы скарбы не ў ядвабнай
Магнацкай саеце,
А ў сярмязе непавабнай,
Старшай на ўсім сьвеце.
Вашы рукі хоць абіты—
Пясок на іх значан,
Але хлеб, імі здабыты,
Для ўсіх бел і смачан.
Слава вашай гэткай сілы
Вочы ўрагом коле,
Сьведкай сьвежыя магілы,
Што сыпе няволя.
Сьведкай—прадзедаў шкілеты,
Курганы з кустамі,
Сьведкай—песьні воклік гэты,
Сьведкай—вы з сьлязамі.
Дык хай-жа вас не асіле
Зьверства непагоды,
Распусьцеце сваё крыльле,
Як і ўсе народы.
Рухне крыўда, праўда ўстане,
Ворагаў адстраша,
Будзе долі панаваньне
На зямлі на нашай.

## ПАЛЯЦІ, МАЯ МЫСЬЛЬ...

Паляці, мая мысьль,
Лётам сокала
І прагледзь гэты сьвет
Кругом-вокала.

Лётам сьветлай зары
Па-над стрэхамі—
Сып надзеяй жывой
І пацехамі.

Пей аб волі людзям
Думкі цудныя,
Уміляй іх жыцьця
Сьцежкі трудныя.

Залатыя сны ім
Няхай рояцца;
Няхай жаль на душы
Супакоіцца.

Гоняць хай ад сябе
Цьмы нядольныя,
І рука у руку
Пойдуць вольныя.

Так ляці, эй, ляці,
Мысьль свабодная!
А ты міла спаткай,
Зямля родная.

## РВІСЯ, ДУМКА!..

Покі старасьць неўдалая
Костак з ног ня вале,
Рвіся, думка маладая,
Туды, вышай, далей!

К таей праўдзе ненапраснай:
К шчасьцю і свабодзе;
Рвіся, покі будзе ясна,
Покі будзе годзе!

Гарапашна, непрасьветна
І ў душы і ў хаце,
Стане горай няпрыветна,
Калі будзем спаці.

Дык жывуча, скокам-бокам,
Покі сэрца точыш,
Рвіся, думка, ненарокам,—
Знойдзеш, чаго хочаш!

Рвіся! рвіся! дый старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
Ні за што на сьвеце.

## ЗА СВАБОДУ СВАЮ...

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю;
У вагонь, у ваду
Я за ёю пайду.

Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
Як свабоду хаваць,
Злыбядзе аддаваць.

Ў сэрцы, ў думках сваіх
З самых лет маладых
Я яе ўзгадаваў
І сваёю назваў...

Гэй ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!
Гэй ты, гэй, бор, шумі,
А свабодзе грымі!

Гэй ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
Па ўсёй чыста зямлі!..

## НА ЖАЛЕЙЦЫ

I

З шумам бораў, ясакораў,
Ой, гаю, ой, гаю,
На жалейцы-дабрадзейцы
Думку дум зайграю.
Ой, зайграю, запытаю,
За што, за якое
Плачуць песьні, як ня трэсьне
Сэрца маладое?
Ці у маці я дзіцяцей
Ня быў, не хаваўся?
Ці замала уздыхала,
Як з ёю прашчаўся?
Ці ніколі ня меў долі
У чужой хаціне,
Ці я ў полі ня меў волі
Пры чужой скаціне?
Ці мо' сілы, божа мілы,
Калі не хапала,
Як з сахою ці з касою
Ваюю, бывала?..
Ці-ж то гэта, там, праз леты,
Як умру з надзеяй,
Мае косьці ў дзікай злосьці
Вецер не разьвее?
Не разьвее, не расьсее,
Каб і сьлед ня ўзьняўся,
Што гаротны і маркотны
Па сьвеце бадзяўся?
Эх, жалейка-дабрадзейка,
За што, за якое
Плачуць песьні, як ня трэсьне
Сэрца маладое?

## II

Я ня пушчаю сьпяваю
Песьні-казкі аб Дунаю,
Хоць-та сэрца з пушчай рвецца,—
А пад грушаю пахілай,
Што над бацькаўскай магілай,
Граю толькі на жалейцы.
Я ня звон, што час нам ліча
І на веча праўду кліча,
Хоць-та сэрца звонам б'ецца,—
А па шчасьці пахаваным,
Над ракою, пад туманам
Граю толькі на жалейцы.
Я ня вецер вольны, спраўны,
Што пяе свабодай слаўнай,
Хоць-та сэрца к славе рвецца,—
А ў цянётах павучыных,
На расстайных пуцявінах
Граю толькі на жалейцы.
Не на гусьлях звонкіх баю
Аб забраным недзе краю,
Хоць-та сэрца к гусьлям рвецца,—
А на спасьвеным узгорку,
Углядаючыся ў зорку,
Граю толькі на жалейцы.
Я ня гром, што сьветы крыша
І людзям законы піша,
Хоць-та сэрца громам б'ецца,—
А паціху, чуць чуваці,
У чужой забыты хаце,
Граю толькі на жалейцы.
Граю, граю і чакаю
Ўсходу сонца з-за Дунаю,
Калі мора ўскалыхнецца,
Калі песьню, гымн вясёлы,
Нашым нівам, нашым сёлам
Я зайграю на жалейцы.

## КАБ Я КНЯЗЕМ БЫЎ...

Каб я князем быў ўладарным
Гэтых ніў і хат,—
Быў-бы князем гаспадарным,
Вёў-бы добры лад;
На пасадным месцы-б селі
Права і закон,
Праўду вечную ўсе-б мелі—
Вечавы свой звон.
Не цягнуў-бы я з падданых
Крыўдай соль і хлеб,—
Кожны сам сабе ад рана
Малаціў-бы цэп.

Каб я сонцам залацістым
Плаваў над зямлёй,
Быў-бы сонейкам вячыстым
Летам і зімой.
Не лажыўся-б на разлогі
Непраглядны цень,
Асьвятляў-бы ўсе дарогі
Ў ночы і у дзень.
Гадаваў-бы ў вечным цьвеце
Поле і лугі,
Распаліў-бы ўсе на сьвеце
Путы-ланцугі.

Каб я рэчкай быў міжгорнай
На зямлі маёй,
Быў-бы рэчкай жыватворнай
Для старонкі ўсёй.
Ажыўляючай крыніцай
Быў-бы на яву,
Чыстай, шклістаю вадзіцай
Змыў-бы сон-траву.

На засушаныя кветкі
Клаўся-бы расой,
І каціўся-б праз палеткі
Сьветлай паласой.

Каб я птушкай быў крылатай,
Пець і лётаць мог,
Быў-бы птушкай незаклятай,
Па расе ня сох,
Груганом-бы я ня крумкаў,
Не наводзіў сьлёз,
А на крыльлях нашу думку
Да бога-б панёс.
Крыўду—ведзьму нашых межаў
Беднату і цьму,
Усё-б па праўдзе, як належа,
Вылічыў яму...

## ПЕСЬНЯ СОНЦУ

Вольным гоманам хвоек высокіх,
Туманамі санлівых нізін,
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе, як адзін!

Распусьці залацістыя косы,
Схаладзелы загон ацяплі,
Акваці лугавыя пакосы,
Ўсходы новыя сей на зямлі.

З непатульнай, пакорнай зямліцай
Заручыся, шлюб вечны вазьмі,
Разьлівайся люстранай крыніцай
Між даламі, гарамі, людзьмі...

Рассыпайся па сёлах, па нівах
Брыльлянцістай ажыўчай расой;
У вясёлках купайся цьвятлівых,
Ласкай сэрца, душу супакой...

Як, у сьвята купальскае, сонца,
Свой жывы абнаўляеш паглёд,
Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе сумны народ!

Хай нам явары вечныя думы,
Думы-байкі шасьцяць, шалясьцяць,
І нясуцца хай гэтыя шумы,
Па бел-сьвету ляцяць, хай ляцяць!..

Дык глянь з хорамаў вольных, высокіх
Да Крывіцкіх туманных нізін...
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе, як адзін!

## ПЕСЬНЯ-БАЙКА

З-за далёку, з-пад усходу
Віхар мчыцца ў непагоду,
Байкі сее маладыя;
Думка чуе, думка ные...

Ціха... Бачце: штось віднее,
Льлецца нейкая надзея,
Штосьці едзе з новым сватам,
З новым шлюбам з хаты ў хату...

Скінь лахманец непазорны
Пыл згані з аконцаў чорны,
Пыл зьмяці хутчэй з аконца,—
Шэпні-клікні: сонца! сонца!..

Быццам з песьняй, быццам з ласкай,
З чараўніцкай нейкай казкай,
З-за далёку, з-пад усходу
Віхар мчыцца ў непагоду...

## ПРАД СЬВІТАНЬНЕМ

Ціха... Бачце: штось варушыцца,
Штось паўстаці хоча;
Пералытасьць гнецца, крушыцца,
Новы сьвіт шапоча.

Сонца з цемрамі змагаецца;
Мох зьлятае з хат і пунь;
Даль за даляй ажыўляецца;
Ўсходзе ядраная рунь.

Дрыгацяць напасьці-пошасьці,
Аціхаюць совы,
Разьнімаюцца з паношасьцяй
Крыльлі груганові.

На курганішчы спускаюцца
Туманы жывой расой,
І па пустках расплываюцца
Бесканечнай паласой.

Доляй-мачыхай прыдаўленых
Зоры аклікаюць,
Ля магілішч акрываўленых
Валахі чакаюць.

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны узьняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацьвіла, расьцьвіла доўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацякла няспыняная.

Паплыла, пацякла з сьветлай казкай жыцьця
Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак—карона твая,
Ўся сама—ясната лебядзіная.

Зіхаціш і гусьлярскаю песьняй зьвініш,
Узьнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонешні ўперад ісьці ня пыніш,
І глядзіш сьмела ў будучнасьць тайную.

Сьмела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцьвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Ня пужае сумежны дакучны сусед,
Ня пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўленьня павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасьць, што лепшы дзень родзіцца.

Ўжо ня так тапары у зялёным бары
Хвойкі валяць зімой маразянаю,
Ўжо ня так касары ад зары да зары
Летам звоняць касой адкляпанаю.

Значан гарт у руках, чутна песьня бяз сьлёз.
Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос
Наўсяды людзьмі новымі пішацца.

Расьцьвітай-жа, ўзьнімай на арлiных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаныя,
Вызывай, выклікай на вялікі прасьцяг
Сілу, ведзьмай-пятлёй нечапаную.

Высылай, рассылай на край сьвет пасланцоў,
Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Годзе ў полі, ў лясох ты, старонка, і так
Сіратой начавала забытаю.
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
Косьці вецер тачыў непакрытыя.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

## ВЫЙДЗІ...

Ўстань ты, старонка, родная маці!
Годзе зімовага рабскага сну,
Годзе табе ўжо сьлёзна ўздыхаці,—
Выйдзі на поле, на сенажаці,
Выйдзі спаткаці вясну!
Скінь лахманы, што доўгія векі
Ты валачыла з кастры, з палыну;
Выйдзі з-пад дзікай зімняй апекі,
Што над табою строіла зьдзекі,—
Выйдзі спаткаці вясну!
Вырылі сьцюжы віхрамі, сьнегам
Яму глыбоку табе не адну;
Сьнежныя наспы мела начлегам...
Глянь, сьнягі таюць, рэчкі йдуць бегам..
Выйдзі спаткаці вясну!
З поўначы сівер кідаў табою,
Як абадрану з лісткоў галіну;
З захаду зьверы йшлі чарадою
Рваць твае грудзі... Вышла жывою,—
Выйдзі-ж спаткаці вясну!
Дзетак тваіх скрозь крыўдай сьляпілі,
Мучылі, гналі бяз часу ў труну,
Казак вучылі, што ты ў магіле,
Толькі-ж бліск сонца здраду асіліў...
Выйдзі спаткаці вясну!
Ясна, сьвяточна ў красы ўбярыся,
Птушкай свабоднай сягні ў вышыну,
З сонцам злучыся, зорамі йскрыся,
Песьняй расьпейся, славай акрыйся,
Выйдзі спаткаці вясну!
Сплецену з церняў маеш карону,
Хорам твой—неба і нівы краса,
Царства ў чатыры дрэмле староны
Слугі—мазольных рук міліёны...
Выйдзі... Чакае вясна!..

1911 г.

## ТЫ, ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВА...

Ты, зялёная дубрава,
Сон скідай, расьцьвітай,
І шумеці добрай славай
Ня кідай на ўвесь край.

Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлі надзею вольным думам,
Аб усім раскажы.

Казку быўшых песьнясьпеваў
Распалі, разагрэй;
Разьмяці управа, ўлева
Сухацьвет, сухавей.

Маладыя загаворы
Ў ход пусьці, сатвары;
Яснаглядам долы, горы
Асьвяньці, прыбяры.

Кінь разгонна весьці сьвету
Аб сабе, аб сяўбе,
І да неба вестку гэту
Данясі у кляцьбе.

Абніміся з нівай роднай
І душой і грудзьмі;
Край прыбіты, непагодны
Ўскалыхні, падымі...

## ПЕСЬНЯ ЗВАНАРА

На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Толькі птушка-арол дзе садзіцца,
Там збудую, ўзьвяду, нізі ўсёй на віду,
Мураваную вежу-званіцу.

І завешу я звон, з усіх чутны старон—
Раўня голас і віхру і грому.
Як пушчу яго ў ход, склічу ў міг карагод,
Ні адзін не заседзіцца дома!

Разгудзіцца мой звон ад акон да акон,
Душы збудзіць, па сэрцах удара,
Дрогнуць сковы цямніц, бліснуць іскры зарніц,
Заварушацца яры, папары.

На мой кліч вечавы хто жывы, чуць жывы,
Пад гарою касой загамоне.
Гулам звона скажу, сьцежку-шлях пакажу
На прывольле, на ўродныя гоні!

За гарой за другой дам жывы вадапой,
Жыватворнае кожнаму зельле;
На нязьлічаны час па нягодах папас
Усім тым, што цярпяць і цярпелі.

Гэткі будзе мой кліч—і магуч і вялік,
А ня трапіць ён к душам прыспаным,—
Вызву гром, пяруны—хай памогуць яны
Развагніць, затрасьці ўсе паляны.

Стогне бура, грымот. Я свой звон ход у ход
Размахну, як ніхто і ніколі;
Аж ад рук і ад хмур вежы рухне падмур,
Толькі розгалас пойдзе па полі.

Ляжа крушняю там вежа, звон і я сам.
Арол-птушка ўскрыліцца пад небам.
А навокал гары задымяць сьцежары,
Груганамі ўскалышуцца вербы...
. . . . . . . . . . . . .

І вясна, і зіма. Быў званар—і няма.
Ціха, ціха на белым прасторы.
Толькі жыў няжывы звону гул вечавы,
Аб тым шэпчуць дубы, ясакоры.

Йдзе, сыходзіць лет шмат. Званара помніць брат,
Помніць звон, а сястрыца—званіцу.
Аб высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Казкі-байкі ліюцца крыніцай.

Як у прошчу па лек, стане йсьці чалавек
К мохам высланай крушні каменьня,—
Ад звана чарапок, цэглы—муру кусок—
Будуць несьці падмогу ў цярпеньні.

Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Сьпіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае сьвет, што вялікіх дум цьвет
Адно толькі на зломе ўзрастае!

1909 г.

## НЯ ЎЗДЫХАЙ

Ня ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!
    І жыцьця не кляні, не кляні!
Думу-песьню запей, стань адважнай ступой,
    Яшчэ раз не засьні, не засьні!

Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
    Сільней хмар—гэта сонца агні.
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
    Яшчэ раз не засьні, не засьні!

Болей крыжам адным—гэта цень прад зарой,
    А там лепшыя новыя дні!
Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной!
    Яшчэ раз не засьні!

## ЯШЧЭ ПРЫДЗЕ ВЯСНА

Ня пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўслалі з канца да канца,
Што свае цемната ўнясла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Яшчэ прыдзе вясна!

Ня пужайся, што лісьць пажаўцелы
Лес скідае з канца да канца,
Дый ня чуць птушак пеўчых дзень цэлы,
Прашмыгне толькі заяц нясьмелы:
Яшчэ прыдзе вясна!

Ня пужайся, што бедная ніва
Апусьцела з канца да канца,
Што мужыцкай рукой нешчасьлівай
Няужоннае скончана жніва:
Яшчэ прыдзе вясна!

Ня пужайся, што вольныя сілы
Ў путах дрэмлюць з канца да канца,
Што насільства ўсю праўду здушыла,
Што сьмерць густа капае магілы:
Яшчэ прыдзе вясна!
Яшчэ прыдзе!..

1908 г.

## ГЭЙ, НАПЕРАД!

Гэй, наперад, покі сэрца
　　Б'еццa, рвеццa на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
　　Гэй, да сонца! гэй, да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
　　Йшлі на той сьвет без пары;
Сёньня ў нашай моцы гора,
　　Мы жыцьця гаспадары!

Думка ў думку, дружна, сьмела
　　Ўсе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
　　Знай, за праўду крэпка стой!

К новай долі шлях нам ляжа,
　　Як на небе млечны шлях,
Слова, дум ніхто ня зьвяжа,
　　Жыць, цярпець ня будзе страх!

І ня стане больш пакуса
　　Першых-лепшых з боку брацьль,
Славяніна-беларуса
　　Вечна ў лапці абуваць.

Дык наперад, покі сэрца
　　Б'еццa, рвеццa на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы!
　　Гэй, да сонца! гэй, да зор!

## ЗА ПРАЎДУ

За праўдў, за шчасьце, за лепшую долю
Вазьміся, мой дружа, пастой!
У крыўду ня дайся, свайго дабівайся,
Адвага хай будзе з табой!

Хай горкія сьлёзы, што ў сьпекі, ў марозы
Ліюцца на беднай зямлі,
Дадуць табе, браце, сіл гора змагаці
І ў сэрцы распаляць агні.

Хоць віхры шалеюць, хоць песьні нямеюць
Хоць страшна замучаны ты,
За добрую справу, за шчасьце і славу
Душу вырывай з цемнаты.

Кінь сваркі і звадкі, аднэй дзеці маткі—
Мы злучаны думкай аднэй;
Пры згодзе і ладзе ў нас доля засядзе,
Палічаць і нас за людзей.

Дык жыва-ж к пачатку—ня час спаць у шапку,
Валяцца, як чэрві ў траве;
Ўжо сонейка ўсходзе, ўжо дух у народзе
Збудзіўся і к праўдзе заве!..

## МАЯ ДУМКА

Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,
Так рвецца, нясецца ў даль думка мая;
Абыймецца з небам, пакоціцца ў мора,
У вялікае мора людзкога жыцьця.

І ўдарыцца ў сэрца так смутна, балесьне,—
Як лісьцем віхура, так ім скалыхне,
Так ім закалоціць, аж выклікне песьню...
Ўжо з песьняй ляціць зноў да зор к вышыне

Запеўшы пахвалай нязьведанай далі,
К вядомай павернецца долі людзкой;
Адсьвеціцца ў слёзах, як сьвечка ў крыштапі,
Ды ў сьвет зноў за сонцам, за новай зарой!

На небе свабода, сьвятло і прывольле,—
А думцы замала: няма там людзей;
Людзей на зямельцы спаткае даволі,
Дык сонца і воля ня сьвецяць тут ей...

І так бязупынку, то к небу—дзе зоры,
Нясецца, як птушка, ў даль думка мая;
То скоціцца ў мора, ў вялікае мора
Людзкога, забытага шчасьцем жыцьця.

## МОЙ ДОМ

Мой дом—прывольле зьвёзднай далі,
Арламі мераны абшар,
Дзе бітвы точаць ветраў хвалі
З сям'ёй глухіх калматых хмар.

*

Мой дом—амшалай пушчы сховы,
Сяліба ясеняў, сасон,
Дзе сьмех русалчын, лясуновы
Палошыць вечна-цяглы сон.

*

Мой дом—пяшчаныя разлогі,
Пакута сьцюжы і сьпякот,
Дзе ў скібах лад вядуць нарогі,
Аздобай цьвет—чырвоны пот.

*

Мой дом—узьмежных зёлак восьці,
З сухой асінаю курган,
Дзе тлеюць прадзедавы косьці,
Дзе плача ночка ды туман.

## ЯК Я ПОЛЕМ ІДУ...

Як я полем іду, гнецца колас ка мне.
З ім маркотнай душой ціха шэпты вяду;
Колас чуе усё ў зачарованым сьне,—
Колас гнецца ка мне, як я полем іду.

Як я лугам іду, траўка сьцелецца ў ног.
Абсыпае з сябе жыўчых росак ваду;
Кветкі жаляцца мне—поўны дзіўных зьнямог,—
Траўка сьцелецца ў ног, як я лугам іду.

Як я лесам іду, зважна думкі сную,
Аглядаю сьвятую дубоў грамаду;
Там, як дома, сабе з пушчай песьні пяю,—
Зважна думкі сную, як я лесам іду.

Як я ў хатку ўвайду, мяне штосьці гняце,
Бледны сум падыходзіць—прыносіць нуду;
У заплясьнелым кутку цень касьцісты цьвіце.—
Мяне штосьці гняце, як я ў хатку ўвайду.

## Я АД ВАС ДАЛЁКА...

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні,—
На чужое неба ўжо гляджу сягоньня.
    Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
    Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.
І няма на сьвеце так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных дзьвераў,
    Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі—
    Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!

*

Я ад вас далёка... скажуць гэтак людзі...
Але хто заглянуў у чужыя грудзі
    І паняў хто шчыра той агонь і мора,
    Што гарыць, бушуе і аб чым гавора?
Пойме толькі гэта, хто аж да скананьня
Не пазнаў спакою, не пазнаў прыстаньня;
    Каго доля-ведзьма ад самой калыскі
    Кідала па сьвеце, як той ліст вятрыскі.

*

Я ад вас далёка... А дзе ні гляджу я—
Дома толькі думка днюе і начуе;
    Знаю толькі пушчы Белавескай гоман,
    Знаю толькі рэчку—з плытнікамі Нёман.
Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,—
    Што мне замянілі-б хату і бярозкі,
    Хату і бярозкі беларускай вёскі?..

*

Я ад вас далёка... Дзеліць нас поўсьвета,—
А жыву-ж я з вамі і зіму і лета:
    Чую з вамі ў восень непагоды песьню,
    Цешуся з праталін вольнага прадвесьня.
І ці сонца ўзыйдзе, і ці сонца зайдзе,—
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;
    З выраю-ж як толькі сустрачаю гусі,
    Весьці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

*

Я ад вас далёка... Жыву між чужымі.
Чую-ж вашы песьні,—водклік шлю сваімі;
Дабываю песьні ад душы, ад сэрца,
Аж-бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.
Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ня вырыць ямы гэтакай глыбіны.
Каб у іх з вачэй мне Беларусю-маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

*

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самой магілы,—
Не пакіну думаць сьвітам і ўпацёмку:
Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасьць мне доля ў дамавіне месца,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца.
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

## МІНУТЫ ШЧАСЬЦЯ

Сплылі ў душу з высі высокай
І зацьвялі ў ёй яснавока,
Як сьветласьць бледная аблокаў
На дальнім летнім небасхіле.

Цьвілі, гулялі пераліўна
Сьвітаньнем новым долі дзіўнай;
У казку волі неспажыўнай
Цяклі нявыплаканай сілай.

Вялі па сьцежках нехаджалых,
Арлом узносілі на скалах,
Карону клалі ў міртных хвалах.
На ўсёй будзённасьці завілай.

Так асянялі, панавалі,
Як сонца бліск на вод крышталі,
Аж пацягнулі вышай, далей
Туды, адкуль зышлі так міла.

Вітаю іх і ня вітаю,
Стаю, як пільгрым на растаю
У чужым далёкім недзе краю,
Як над пустой стаю магілай.

## ВЯЧЭРНЯЯ МАЛІТВА

Як летняе сонца свае згасіць косы,
І кветкі нябесны зайграюць нясьмела,—
Ноч сее тады серабрыстыя росы,
Над логам зьвісае туманнай пабелай.

Ад бледнага месяца бледныя цені
З сялібаў і пушчы кладуцца на гоні;
Як цені мінуўшых даўно пакаленьняў,
Устануць, пастануць слупамі ў прасоньні.

Цікавая думка над сном усплывае,
Вяртаецца з цішай і просіцца ў сэрца,
Дзе ласкай сьвітае, як байка жывая,
І вогнікам ціхім навокала ўецца.

Малітва вячэрняя ў той час выходзе,
Ахвярна кладзецца на сьпячыя далі,
І пасмай няўгледнай да зорак на ўсходзе
Плыве і мяняецца ў кветным крыштале.

О, будзь вечна слаўнай, вячэрняя ціша
З планэтнай зарніцай і месяцам бледным!
Хай песьня спакою душу укалыша
І вынесе чыстай над шумам пабедным!

## ЗОРКІ

Ночкай, як толькі выходзіў я з хаты,
Зоркі на небе страчаў я чатыры;
Кожны раз зводзіў іх вогнік крылаты,
Хоць к ім з малітвай узносіўся шчырай.

Першая—бацькава зорка ясьнела,
Маткі—другая глядзела ў сьвет горка,
Трэцяя мне мігацела нясьмела,
Роднай зямелькі—чацьвертая зорка.

Першая згасла навекі ня ў часе,
Зволька губляе бліск свой другая.
Трэцяя сумнаю мглой спавілася,
Толькі чацьвертая лепей міргае.

## ШЛЯХ МОЙ...

Шлях мой ня сьцелецца сонцам і кветкамі,
Гладкай, павабнай ня лёг раўнінай,—
Паміж няўдалымі ўецца палеткамі,
Уецца зімой і вясной.

Вечар і ночка закрылі мне раніцу,
Ўхуталі плесьняй, сівым туманом,
Даль-жа нязбытаю казкай туманіцца,
Казкай, нягаданым сном.

Вера ў дзень заўтрашні сілай няведамай
Думы гартуеісьці, не чакаць,
Хоць-бы там злыдні плот ставілі бедамі,
Бедамі клікалі спаць.

Зойдзе брат сьцежку мне, путамі звонячы,
Пут гэтых толькі ня бачачы сам:
„Дзе ты ідзеш?"—запытаецца, гонячы.
„Далей!"—адказ яму дам.

Далей і далей праз выдмы няплодныя,
Ўсё непакорна, шукаючы ўсё,
Покі ня згаснуць прасьветачы зводныя,
Покі ня згасьне жыцьцё!..

## ДЗЕ ТЫ, ШЧАСЬЦЕ МАЁ?..

Дзе ты, шчасьце маё, дзе ты, сьветлая доля?
За што сэрца гняце жалю дзікая змора?..
Выйду цёмнай парой гэт за вёску на поле,
І падслухаю сьціха, што ночка гавора.

Можа гоман пачую, што жаль і трывогу
Песьняй радасьці зглуша і ўсьпіцьназаўсёды.
Мо' пакажа няшчаснаму к долі дарогу
І разгоне ў душы цемнаты, непагоды.

Га! нічога ня чуць, толькі неяк, здаецца,
Жудка вые, гудзіць сівер з поўначы зімны,
Толькі шум баравы з цёмнай далі нясецца
І пяе у душы пахавальныя гымны.

* * *

Легла на сэрцы гора нядольнае,
Легла і мучыць, гняце,
Ў думках замёрла жальба нявольная,
Боль неспажыты цьвіце.

Дзе я ні кінуся, з песьняй ні вылету,—
Выхаду, сьцежкі няма...
Лёдам гасьцінец мой выбіты, выліты,—
Лёд—як магіла сама.

1907 г.

## У ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Тут далёка, ў чужой старане,
Ўсякі раз, як зьбліжаецца ноч,
Сэрца боль лю сьціскаецца мне,
І спакой недзе коціцца проч.

Думы цяжкія роем снуюць,
Капашацца чмяльмі ў галаве,
Сноў спазнаць залатых не даюць,
Кожна мучыць, к загубе заве.

Ўсё, што чахне, ня меў долі ў чым,
Чорнай п'яўкай сьлізгоча ў душы...
Аб жыцьці беспраглядным сваім
Разважаю я ў гэтай цішы.

Ах, салодкі ўспамін не адзін
Шалясьціць, як вяроўкаю кат...
Столькі іх, гэтых мілых часін!
А забыці іх сілы няхват.

Гэй, ты, гэй, прамінуўшы мой час!
Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень!
Што я меў, што я маю ад вас?
Дзе прасьвету хоць цень - бледны цень?

Роднай песьні вясёлы напеў
Ня ўзлунаў над калыскай маей;
Супраціўны скрозь мучыць павеў,
Як за хлебам пашоў да людзей

Гоняць, гналі, дзе гнаці маглі,
Як шалёных ганяюць сабак;
На сваёй, ах, на роднай зямлі
Сустракаўся я з сонейкам так.

На зямлі, што дзед, прадзед сьлязьмі
І гарачай крывёй паліваў,
Ўнук — ужо між чужымі людзьмі —
Тэй зямлі трох аршын не дастаў.

Што-ж?—разгулівай, сыты чужак,
Між забраных крыжоў, курганоў,
Брат скаваны ня згіне і так:
Ён другіх пашукае братоў.

Гэй ты, краю халодны, чужы,
Прытулі бесхацінца к сабе:
Ён цябе, як і роднай мяжы,
Не забудзе ў прадсьмертнай кляцьбе.

Ты, дзяўчына чужая, закрый
Па скананьні мне зрэнкі мае,
Ты, чужы друг, мне яміну рый,
Віхр чужы хай памінкі сьпяе.

Крыж пастаўце, як ставіце ўсім,—
Мае путы павесьце на ім;
Мае сьлёзы з магілы расой
Выйдуць путы зьядаці іржой.

## ХОЛАДНА...

Холадна, холадна ў хатцы маей:
Лёгка навек загавецi;
Сыплюцца сьлёзы, як іскры, з вачэй;
Божа! як жудка на сьвеце!

Голасна будзячы сонну глушу,
Віхры зусюль завываюць;
Думка за думкаю лезе ў душу,
Сэрца нудою сьціскаюць.

Нейкім туманам усё заплыло;
Глуха!.. Ні сілы, ні гарту...
Усё пражыванае прахам ішло,
Усё, што йдзе, думаць ня варта.

З нейкім пракляцьцем прыходзім на сьвет,
З нейкім на той сьвет зыходзім;
Потам, крывёю век сьцелецца сьлед,
Песьню змучэньня заводзім.

Ступіш... і гадзіны ўюцца ля ног,
Крыкнеш... ня чуюць каменьні;
Рукі працягнеш ты, повен трывог...
Ласкі ня знаюць паленьні.

## МАЯ ДОЛЯ

Што дасі заўтра, доля зьмянлівая,
Спадзяюся пацехі я мала;
Адно знаю, што ўсё нешчасьлівае
Ты мне толькі дагэтуль давала.

Сіратой па чужых кутох кідала
І нудою мне грудзі сушыла;
Ня раз так мне была ты абрыдала,
Што ўсьміхалася шчасьцем магіла.

Ты калі мне ў вачох разьясьнялася,
Сэрца білася верай, надзеяй,
Хоць нязванаю зьнекуль зьяўлялася,
І тады адны сьлёзы я сеяў.

Ты шумела мне песьні магільныя,
Як мяцеліца дзікая ў полі;
Ты нясла мне усё няпрыхільнае...
Эх, ня знаць-бы цябе мне ніколі!

Мусіць, доля, ты ў цернях радзілася,
А зіма і слата гадавалі,
Ад няволі ты мучыць наўчылася,
А пасьля мне багі цябе далі...

## ПРЫСТАЎ Я ЖЫЦЬ...

Прыстаў я жыць на белым сьвеце,
Хоць столькі ўвокала жыцьця;
Завялі думкі на расьцьвеце,
Душа жадае нябыцьця.

Нуда гняце з днём кожным болей,
Быт спавівае чарнатой,—
Як сухавей у чыстым полі
Гуляе з зернем-сіратой.

Пытаньня злога не пазбыцца,
Як мара бледная, стаіць:
Куды ісьці? за што ўчапіцца?
Якім багом паклоны біць?

Мінуў, загінуў час вясёлы,
Калі зрываўся з усіх сіл
Ад родных ніў, ад родных сёлаў,
Ад апаганеных магіл.

Туды, туды, ўсё далей, далей,
Да недасягнутых вышынь,
Каб, апынуўшыся ў крышталі
Шчасьлівых сонечных іскрын,

Самое сонца ўзяць у рукі
І, як з паходняй, з ім ісьці,
Сьвятлом ніштожыць нашы мукі,
Увесь плач роднае зямлі.

Узьнімаць патоптаныя душы,
Людзкім названьнем акрыляць,
К жыцьцю падняць з магільнай сушы
Усіх, што толькі яшчэ сьпяць.

Служыць, служыць жадаў народу,
Сваім закованым братом...
І сіл ня стала з непагодай
Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.

Чырвонай зданьню ў цёмных сенцах
Наш Рок сьляпы снуе, цьвіце;
Зьмяіны рогат адшчапенцаў
Жывыя грудзі рве, гняце.

Ваякі лепшыя за славу,
За славу роднай стараны,
Або ляглі ў бітве крывавай,
Або у путах—і яны

Ярмо валочаць паніжэньня,
Ў кляцьбе бясьсільнай гоняць век...
Глядзіш... пытаеш свайго ценю:
Дзе тутка зьвер, дзе чалавек?

У жудкім, чорным беспрасьвіцьці
Бушуе выпасьвены кат...
Любіць... Каго, за што любіці?
І ненавідзець сіл няхват.

. . . . . . . . . . . . . . .

О, божа праведны, ты сілу
Сваю вяліку акажы:
Ня згінуць з бацькаўшчынай мілай
Свайму слузе дапамажы.

Сашлі мне сьветлую падмогу
Астаткі сіл свaім аддаць
І—не зрабіўшы брату злога—
Пад крыжам бацькавым сканаць.

1914 г.

## ДЗЕ?..

Дзе ты, хатка, дзе сялібка,
Родны мой куточак,
Што мне даў-бы скаратаці
Рэшту дзён і ночак?

Дзе загон зямелькі чорнай,
Дарагая ніва?
Што дала-б мне нацяшацца
З залатога жніва?

Дзе ты, конік мой, буланчык,
Хто цябе дзе спасьціў,
Што павёз-бы, што памчаў-бы
Ў сьвет, за лес, па шчасьце?..

Дзе прыяцелі, дружочкі,
Родныя, чужыя,
Што мне-б крыўдай ня сушылі
Леты маладыя?

Дзе ты, любая дзяўчынка,
Роўная цьвяточку,
Што мне зачыніла-б вочы
У вапошню ночку?..

Што было, што не,—сплыло ўсё,
Як вадзіца ў мора,
Засталіся толькі думкі
На бяду, на гора.

Засталіся толькі песьні,
Ды што з імі будзе:
Доля смуткам аплятае,
Сьмехам бэсьцяць людзі.

## ДА МОЛАДАСЬЦІ

Ты скажы, скажы,
Мая моладасьць,
Што дала ты мне,
Сыну хамскаму?

Ой дала ты мне
Скарб нязьмераны:
Сілу моцную,
Неўгамонную.

За труды мяне
Не адхваляцца,
З мазалёў, крыві
Не аддзівяцца.

Дзе мой капне пот,—
Дзірван, пасека
Шуміць коласам,
Урадлівасьцяй.

Сенажаць-трава
Ляжа покатам,
Стогне зелен-бор
Пад рукой маёй,

Дый услужнасьцяй
І пакорнасьцяй
Надарыла ты
Мяне, моладасьць.

Адно, доля дзе,
Скажы, моладасьць?
Чаму волю даць
Ты забылася?

## ЧАЛАВЕКУ

Ці ты чуеш, як стогне віхура,
Як старой хаткі сьцены дрыжаць,
Як у коміне вые панура,
Як сукі ў боры цёмным трашчаць?..

Ці ты бачыш, як хмара за хмарай,
Як дым, небам плывуць чарадой?
Як кусты, сенажаці, папары
Заліліся магільнай імглой?..

Ці ты бачыш ноч гэту над намі,
Ноч асеньнюю, дзікую ноч,
Засьцілае што сьвет цемнатамі
Непраглядна, хоць ў процьму ты скоч?..

Ці паняў, што мрок гэты гавора,
Што аддалены шле яго шум,
Як у гэта бязьмежнае мора
Ты глядзіш, гэтых слухаеш дум?..

О, дрыжыш перад шэптамі чараў
Цёмнай ночы, магутны цар дня,
І прыходзіцца ўцяміць няздары,
Што мудрэйша ёсьць моц, як твая.

Дарма розумам цэлыя годы
Ў жыцьця дзівы, як мог, заглядаў:
Чарадзейную кнігу прыроды
Ня пытаў, адчытаў, скарыстаў.

Што зямля-б на сьвет жыць ні пусьціла,
Ты паняў да канца з урадá;
Табе пара каня адмяніла,
Цяпер слухае вецер, вада.

Ты і неба ўсе скрыткі падгледзіў:
Зьлічыў, колькі зор, што ёсьць на іх;
І нічому, здаецца, ўжо недзе
Ад вачэй скрыцца зоркіх тваіх.

Ты і ў прышласьць рад глянуць заранья,
Зьмёў-бы пыл забыцьця з прошлых дней,
Усё-ж бясьсілен твой розум і знаньне
Перад голасам духа начэй.

Ты дрыжыш перад нечымсь, як глянеш
Ў гэту цем, падслухаеш яе;
Як дзіцё, як матыль, слабым станеш...
А ноч тайна а дзівах пяе.

Мае сьвет неадкрытыя сілы,
Што людзкое ўсёзнаньне прашлі,
Гэтых сіл не пазнаць да магілы
Табе, думнаму цару зямлі.

## ЗГНАНЬНІК

Выгналі з хаты, выгналі людзі,
Выгналі косьці жывыя;
Сівер са сьнегам рынуўся ў грудзі,
Рынуўся зьверам на шыю.

Месяц загінуў, выгасьлі зоры,
Даль залягла беспрасьветам;
Хмары глухія, хмары—як горы,
Ходзяць, сапуць няпрыветам.

Смольлю, заломам сьцежка-дарога,
Ведзьма-мяцеліца стогне,
Жудкія думы шэпча трывога,
Сэрца то змоўкне, то дрогне.

Горбяцца плечы, кволыя плечы,
Як-бы цягнулі каменьне,
Рукі мароз і сячэ, і калеча,
Корчацца ногі ў каленьню.

Годзе змагацца з доляй паганай,
Сонца шукаць сярод ночы,
Блудам блудзіць па мёртвых палянах,
Сьлёзьмі крывавіці вочы.

Сыпся, кружыся, бел-сьнег, навокал,
Мяккай кладзіся пасьцеляй!..
Ляжам, як ляжа ранены сокал,
Знойдзем, нарэшце, прысельле.

Лес мой, жывая пушча-старуха,
Мы не загінем з табою...
Шумам пальлеш мне казкі да вуха,
Важна ўкалышыш спакоем...

Дзе-ні-дзе вогнік глянуў скваплiва,
Братняя блізка хаціна:
Гэта з праглядам выбрыў на ніву
Воўк—як і ты—сірацiна

Голас пачуўся, быццам хто кліча,
Штось у душы затраслося:
Гэта ў галінах вецер скавыча,
Воклік магільны разносе.

З дальняга неба зоркі міргнулі...
Як-бы ня так ужо цёмна...
Зоркі сьвяціці ўсім ня мінулі,
Толькі... мінулі бяздольных.

. . . . . . . . . . . .

Полаг гатовы белы, пуховы;
Ляж, не глядзі, ня ўслухайся!
Сну у магіле яснай, сьняговай,
Вечнага сну ня пужайся.

Прыдзе вясна, распусьцяцца лозы...
Ты ўжо ў пасьцелі зялёнай...
Сьпі, мой гаротнік, годзе ліць сьлёзы,
Біці нягодам паклоны...

## З ПЕСЕНЬ ЖЫЦЬЦЯ

Час быў вясеньні. На скібіны дно
Пала, ўзышло, зарунела зярно.
Ў курную хату, на яве ці ў сьне,
Доля-нядоля прынесла мяне.

*

Лета настала. Ўжо колас глядзеў.
Рос, красаваў, наліваўся,—дасьпеў.
Шчасьця, пацехі ня знаўшы ў жыцьцю,
Вырас і я на нядолю сваю.

*

Восень на сьвеце. Бор стогне, шуміць;
Колас нязжаты на полі стаіць.
Нудна у сэрцы: дзе вокам ні кінь,
І я, як той колас, бядую адзін...

*

Зімка прышла; белы валіў сьнег;
Колас у гурбе знашоў свой начлег.
З доляй змагацца з сіл выбіўся я,
Эх ты, магілка, эх, дзе ты, мая?..

## ХМАРЫ І ДУМЫ

Чорныя хмары па небе плывуць,—
Чорныя думы заснуць не даюць:

Хмары хацінай, а думкі душой
Рады затрэсьці, заціснуць сабой.

Валіцца з хмараў то сьнег, то вада,—
Чорныя думы прыносіць бяда;

Так і ваюе бядак-чалавек
З хмарамі, з думамі цэлы свой век...

## ЗВАЯВАНЫМ

Сьпеце ўсе тыя, што праўды па сьвеце шукалі,
І, не здабыўшы, ў дамоўкі бяз часу зышлі.
Гразьзю ў вас кідалі, вольна дыхнуць не давалі...
Хай-жа пацешацца: ўжо вы спачылі ў зямлі...

Гулка нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі,
Плача-галосіць у коміне вецер глухі...
Сьпеце вы, слаўныя гора і працы патомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агні!

Мала вас, мала было паміж цёмнымі намі;
Сільны яшчэ быў наш блуд і туман кругом нас!
Вы, перамогшы усё, узьняліся арламі,
Бліскам былі нам, тым бліскам, што гас і ня згас!

Грозна нясьліся магутныя вашыя клікі;
Нават каменныя душы скідалі свой сон;
Радасьцю дзіўнай зьвінеў ваш край бедны, вялікі...
Сіл не хапіла... запеў пахаронны вам звон.

Сьвежыя наспы мураўка яшчэ не пакрыла,
Жвір толькі сьвеціцца, змыты сьцюдзёным даждом...
Сьпеце! мы вашых на век не забудзем магілаў;
Збуджаны вамі, мы ўскрэсьлі, мы больш не засьнём!

## ВЯСНА ЗА ВЯСНОЮ...

К нам вясна за вясною ідзе
І бясьследна адходзе ад нас...
Ні канца тэй бядзе і нудзе,
Ні пачатку сьвятла хоць на час.
    Хоць-бы раз заірдзела раса
    Жыватворна убогім палям,
    Хоць-бы раз зазьвінела каса,
    І дзень лепшы наклікала нам.
Вянуць кветкі што раз без пары,
Вяне зелень спустошаных ніў.
Шум ня моўкне ў зялёным бары:
Не чакаць, людзі, вам буйных жніў.
    Не напоўніць вам клецяў сваіх,
    Пот і сьлёзы льліцё вы здарма;
    Ў паднявольнічнай службе ў чужых
    Не падняць вам галоў з-пад ярма.
Вам—пакорным рабом—не вясны,
Рукі на крыж злажыўшы, чакаць,
А пад песьні паўночнай зімы
Ямы ў полі сабе-ж будаваць.
    Будаваць, покі вы чужака
    Нівай будзеце роднай карміць,
    Будаваць, покі ваша рака
    Чужакову каню дае піць.
Для асьлепленых, здаўленых, вас
Ня было і няма іншых дум...

. . . . . . . . . . . . . .

Так над намі вясной кожны раз
Стогне бору зялёнага шум.
    Так вясна за вясной к нам ідзе
    І бясьследна адходзе ад нас...
    Ні канца тэй бядзе і нудзе,
    Ні пачатку сьвятла хоць на час.

## НЕ СПАДЗЕЙСЯ...

Не спадзейся, сын і матка,
Ад жыцьця патолі...
Ні канца, ані пачатку
Вашай чорнай долі.

Ці сягоньня, ці-та заўтра—
Як і ўчора, ўсё так;
Стогн гнязьдзіціся спанатрыў,
Жаль пляце свой мотак.

Шчасьце ў путах... Звод разьвеяў
Думку маладую,
Засталось крыху надзеі,
Дый паганяць тую.

Вера ў будучыны жніва
Спапялела з гора,
Крыўда-ведзьма незьмянліва
Заліла, як мора.

Гарт апёрся на кургане,
Як ноч, уздыхае,
І ў кургане уздыханьне
Гарту падцінае.

Каня з смагі на пагодзе
„Піць“ галосе ў небе,
Ды ў завею воўк заводзе
Па крывавым хлебе.

## НЕ ДЛЯ НАС...

Не для нас гэта сонейка майскае
Загуляла на небе высокім
Сеяць думкі вясеньнія, райскія
Гэт, па сьвеце вялікім, шырокім.

Не для нас, ніва намі ўспаханая,
Заірдзелася ўсходам пасеваў,
І ўся ветрам, як дым, калыханая
Б'е паклоны направа, налева.

Не для нас упрыгожыліськветкамі
Сенажаці-лугі над ракою,
Харастваміні язьдзіўнымі, рэдкімі
Вабіць вока, шаптацца з душою.

Не для нас, не для нас распускаецца
Гэты сад, гэта вішня, чарэсьня,
Не для нас, не для нас разьліваецца
Салавейкава звонкая песьня ..

Сонца паліць нам грудзі збалелыя,
Ніва ласкі над намі ня мае.
Пот ліём па лугох мы дні цэлыя,
Ці-ж тут міла і песьня якая?!

З дня на дзень, з году ў год, як пакутнікі,
Б'ёмся, гінем і шчасьця ня бачым;
Працай жывяцца нашай прыблуднікі,
А мы толькі ўздыхаем і плачам...

## ЧАГО ХМУРЫЦЦА?..

Чаго хмурыцца
Неба сіняе?
Чаго носяцца
Віхры дзікія?
    Чаго шэрыя
    Совы ўзгукалісь?
    Чаго чорныя
    Крукі грагаюць?
Чаго гадзіны
Падкалодныя
Шыпяць, сыкаюць
На сьвятое ўсё?
    Ці-та сонейка
    Загасілася,
    Ці-та ўскрылася—
    Апраметная?
Душы сільныя
Абясьсілелі,
Сэрцы добрыя
Азьвярэліся;
    Песьні вольныя
    Апанурыліcь
    І магільнымі
    Звоняць жальбамі.
А за песьнямі
Звон кайданавы,
Стогн закованых
Разьлягаецца...
    Эх, і страшна-ж ты,
    Зямля родная;
    Эх, і страшна-ж ты,
    Жыцьцё людзкае!..

## РАЗЬВЕЙСЯ, ТУМАН...

Разьвейся, туман, расплывецеся, хмары,
Над хатай пахілай маей!
Хай сонца прагляне, хай цяжкія мары
Ня мучаць душы і грудзей...
Штось клікала рваццa і вышай, і далей,
На лепшае звала жыцьцё.
Вы, злыя туманы, вы, хмары бяз жалю,
Закрылі, забралі мне ўсё...
Стаю і гляджу я на хату крывую,
На ніву пустую сваю—
І сьлёз ня стрымаю, і ціха бядую,
І нудную песьню пяю;
І к небу малюся, ў жыцьцё заглядаю,
Ці моц скуль якая ня йдзе?
І цёмна, і нема ад краю да краю,
Ні сьвету, ні сьледу нідзе...
Ні сьвету, ні сьледу... марнуюцца сілы,
Дух праўды і волі прыгас,
Нядоля і гора, навокал—магілы,—
Вось роднага шчасьця абраз...

1908 г.

## СЭРЦА СПЫТАЙ...

Прыгледзься днём яснаму сонцу
І месяцу ночнай парой;
Ў шум цёмнай услухайся пушчы
І ў шумы паводкі вясной;

Кінь вокам на мур пабяляны,
На стрэхі з саломы зірні;
Зайдзі на магілкі з крыжамі
І насып забыты крані;

Пакратай мінўшчыны попел,
Што ў казках ня кінула жыць;
Сягоньнешні дзень паймі добра,
Што ў сьлед нашай долі бяжыць...

І ўсюды—ад краю да краю,
Дзе зьвернецца думка твая,—
Аб роднай старонцы пытайся
Ты неба, зямлі і жыцьця.

А сэрца—калі ня зьвёў сэрца—
Адкажа за ўсіх неўнарай:
У нас ёсьць паны і іх слугі,
А людзі... што-ж?.. Сэрца спытай...

## БЛЕДНЫЯ БУДНІЯ ДНІ...

Бледныя буднія дні
Сумна па роднай зямлі
Мутнай плывуць паласой;
Часам калі-ні-калі
Дзе-ні-дзе блісгуць агні,
Глянуць крывавай расой.

Песьні раздольля маўчаць,
Песьні, што рабскія сны
З душ паднявольных зьмялі-б,
Толькі заводзяць званы,
Толькі асіны скрыпяць
Над уміраньнем сяліб.

Скрогат нясецца з асін...
Рабству паклоны біў дзед,
Гнуўся пад палкамі ў крук;
Бацька—за дзедам; у сьлед
З бацькам пляцецца і сын;
Ты-ж кудой пойдзеш, унук?..

## „ЗАБРАНЫ КРАЙ“

Я ведаю, знаю старонку такую,
Спавітую ў вечны туман,
Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе,
Ляжыць на кургане курган.
Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна,—
Ня поймеш, адкуль узялісь;
Людзей запытаеш,—адкажуць спакойна:
„Забраны край“ гэты калісь.

Сыны зямлі роднай чужыя палеткі
Ў чужую карысьць засяюць,
На родных папарах галодныя дзеткі
Чужую жывёлу пасуць...
Кладуцца заломы... Дабро зьмей валоча...
Цянюе ля хатваўкалак...
Нячысьцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы,
„Забраны край“ тузаюць так.

Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы;
На стражы пастаўлен сынок;
У поўных калісьці ад шчасьця сьвятліцах
Чужак зьневажае дачок.
Дзяцей сваіх маткі кідаюць у зьдзеку,
За „мамак“ к наездцам ідуць,
А тыя за іх малако, за апеку
„Забраны край“ болей гнятуць.

Мальбішчам чужым б'е пакора паклоны;
Упадку вялічыцца сьцяг;
З балотам зьмяшаны старыя законы,
Наладжан нявольнічы шлях.
Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы
Народным дабром, як сваім...
Заплача ў пагоду канюх па расінцы,—
„Забраны край“ жаліцца з ім.

Наведзены струны ў скрыпках пасвойску
Чужая зрывае рука;
Жалейка азьвецца з вясны пад бярозкай,—
Ня ўцешыць яна бедака.
Так камень ня ляжа, як змора падданьня
Лягла ад мяжы да мяжы
З надзеяй, што нават і думку змаганьня
„Забраны край“ вырве з душы.

Жыцьцё год бяз ліку на шнурык свой ніжа,
Бяз ліку няволя есьць сіл...
Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам,—
Што-ночы выходзяць з магіл.
Выходзяць, ідуць ад парогу к парогу,
На стогн жывых грозна глядзяць,
І з ветрамі, з бурамі б'юць на трывогу:
„Забраны край“ клічуць устаць.

## У НОЧНЫМ ЦАРСТВЕ

Скрыпяць трухляцінай асіны,
Над курганамі зьвяр'ё вые...
Гасьцінцам, церневай пуцінай,
У ёрмах, скаваны, скацінай
Ідуць нябожчыкі жывыя.

Ідуць, ідуць... Сярод пустыні
Хрусьцяць надломаныя косьці,
І качанеюць ногі ў ціне,
І чахнуць вочы ў павуціне,
А шлях—як точаныя восьці.

Перад вачамі глуш нямая,
І плач, і скрогат за вачамі;
Праклясьце ў жылах кроў сьцінае,
Душу бясьсільле вынімае,
Гняце зьмяінымі кляшчамі.

У грудзі, здаўленыя здрадай,
Упіўшысь, рабская трывога
Шыпіць хаўтурнаю загладай;
На небе толькі, як прынада,
Бялее млечная дарога.

То там, то сям запаланее
Іскра над скованаю шыяй;
Наскоча пошасьць трупавея,—
І царства ночнае шалее,
Над курганамі зьвяр'ё вые.

## БЕЛАРУС

Сеў, як той крыж на расстаі.
Сярод пушч і поля,
Злажыў рукі і чакае
Усё нейкай долі.

Ўстане-ж, пойдзе полем, логам,
Будзе дыхту, будзе:
Пачапаў тупым нарогам
Кургановы грудзі.

Лом з крыжоў магільных звале,
Бульбу падпякае...
Пад'еў, сеў, як крыж, і далей
Долі ўсё чакае.

А ці-ж прыдзе доля гэта,—
Трудна адгадаці,
Пакуль толькі з лета ў лета
Пляце яму лапці.

## ЦІ-Ж НЯ ДОЛЯ МАЯ?!

І на што-ж мне воля вольная,
Залатая, расхахольная?—
Цемняком пайду сьляпы я
На дарожкі крыжавыя!
Эх ты, доля мая,
Маю волю ўжо я!

І на што школа з настаўнікам,—
Добра быць і неахайнікам:
Калі з кніжкі не даўчуся,—
У вастрозе далаўчуся.
Эх ты, доля мая,
Маю школу ўжо я!

І на што-ж мне поля гонейкі,
З дабром клеці, коні, волікі?
Я магу жыць і „пашырэ“
У шырокай у Сібіры.
Эх ты, доля мая,
Зямлю маю ўжо я!

І на што-ж мне хата новая,
Сталы, лавы ўсё дубовыя?
Злыдні змогуць маю сілу,—
Як пан, лягу у магілу.
Эх ты, доля мая,
Хату маю ўжо я!..

## ГРАЙ-ЖА, МУЗЫКА...

Цёпла, спакойна, цёпла і сыта
Ў хорамах ясных вам век векаваць...
Поўны аруды буйнага жыта;
Хто-ж не захоча тут жыць, панаваць?..
Грай-жа, музыка, сэрцам рві струны...
Не пажалеюць заплаты табе!..
Што? Хочаш ладзіць скрыпку ў тон сумны?
Весела грай, як віхуры ў кляцьбе...
Шумна, разгульна... Чым не бяседа?!
Пеніцца ў чарках крывава віно...
Кроўю гулялі прадзеды, дзеды,—
Сыну і ўнуку падаўна дано...
Грай-жа, музыка! Рэж на скрыпулі
Так, як там рэжа асьлепленых кат...
Прэч, прэч, сумленьне! Золата ў гулі!..
Чуеш, як звоніць па скрыпцы дукат?..
Сьветла, прасторна... Зьзяюць брыльлянты...
Хто там?.. Цень бледны шмыгнуўся ў акне?..
Вісельнік?! Тут ён?.. Прэч яго, франта!
Нашы асіны! Хай толькі чапне...
Грай-жа, музыка, каб і ў магілах
Голас уцешны пачулі з зямлі,—
Каб аж з-пад наспаў, плітаў пахілых
Косьці паўсталі і ў танец пашлі.
Гэй-жа ў тахт ногі!.. Пара за парай!..
Стой!!! Бліск чырвоны шыбае з акон.
Ах! Гэта вёска сьвеціць пажарам...
Ну, галасі там нябожчыцкі звон!..
Грай-жа, музыка! Рэж, дармажэрца!..
Змоўк?.. Што?.. Галоўку ты клоніш ка сну?..
Глупства!.. Ў музыкі лопнула сэрца...
Гэй ты, другі, там! рві сэрцам струну!..

## БРАТУ

Мой ты ўбогі, мой ты цёмны,
Родны мой,
Ты пытаеш, хто такія
Мы з табой?

Ці мы людзі, ці скаціна,—
Запытай
Гэту коску, гэту сошку,
Гэты гай;

Гэта поле, на якім ты
Млееш, млеў;
Гэту згніўшую хацінку,
Гэты хлеў.

Запытайся сваёй долі,
Сваіх пут,
Ці мы людзі, ці скаціна,
Хто мы тут?

## ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС

Прыдуць людзі з Усходу,
Прыдуць з Захаду людзі
І спытаюцца нас:
Скуль, якога вы роду?
Дзе зямля ваша будзе,
Дзе айчызна у вас?

Мы ля плоту, пад плотам
Пагрядзім, пашукаем,
Які даць тут адказ,
І адкажам: Э, што там...
Мусіць, бабскім звычаем
Зьбегла ўпрочкі на час.

## ДЗЕ ВЫ?

Дзе вы, хлопцы непакорныя,
Дзе вы з песьняй удалою,
Як на поле, на прасторнае
Вы хадзілі грамадою?

Ці пашлі вы у далёкую
У старонку, у чужую;
Ці ляглі вы, адзінокія,
У магілку, у сырую?

Дзе вы, песьні, дзе, свабодныя?
Дзе ваш водгалас магучы,
Як вы звалі сыны родныя
Да тэй працы, да кіпучай?

Ці замёрлі вы нячутымі
Серад лесу, серад поля;
Ці і вас скавалі путамі,
Ці і вас змагла няволя?

Гэй, нявідна друга сільнага.
— Сьпіць. Хто-ж сон яго ўстрывожа?
Гэй, ад енку, ад магільнага
Песьня вырвацца ня можа!..

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Два сьвяты на сьвеце—ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! Наступае вясна!
Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы,
І далей к жыцьцю з паніжэньня і сна!

Гэй, гэй, на спатканьне вялікіх двух сьвятаў
Сьпяшэце супольна, хто ў путах ня згінуў!
Хай льлюцца-зыльлюцца ад хаты да хаты
Ў адно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!

*

Вялікдзень! Вялікдзень!—ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас нядаўныя дні,
А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітаньні на век адышлі,—

Усе костачкі тыя на гонях папарных,—
Жывых, што ў бяспуцьці акуцьцем зьвіняць...
Прыпомні, дай слова ня шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

*

Вялікдзень! Вялікдзень!--ад нівы да нівы
Заводзіць бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы,
І заўтра на поле да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам пазбыціся сьлёз...
Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце,—хрыстос уваскрос!

1908 г.

## ХРЫСТОС ВАСКРОС!..

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна сьвятая думка
З канца ў канец, як сьвет вялік.

Хрыстос васкрос!—пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усёй душой.

Хрыстос васкрос!—пяе сіротка,
Слуга, таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос!—пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!.. К табе, о, божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ўваскрэсьне к лепшаму жыцьцю!

1908 г.

## НОВАГОДНІЯ ЖАДАНЬНІ

Як ідзе Новы Год, на ўсім сьвеце народ
Да жычэньня сабе штосьці мае;
Дык і ты, як усе, спаткай году прыход,
Беларусаў сямейка худая.

Кожны год, што мінаў, штосьці нам не дадаў,
Аж сабраўся так доўг не маленькі.
Хай-жа Новы наш Год, што прышоў, завітаў,
Зьверне ўсё нам, як ёсьць, да капейкі!

Хай ня будзе круцель, дасьць нам просьценькі цэль
К лепшай долі, і волі, і славе;
Мы ня знаці жыцьця, ні вясёлых нядзель,—
Хай Год Новы ўсё гэта паправе!

Сваркі, звадкі ня раз былі згубай для нас,
Разлучалі са шчасьцем, з свабодай...
Хай-жа з Новым Гадком новы бліжыцца час,
Брацтва, роўнасьць, супольнасьць і згода!

Во жычэньні усе, Новы Год, да цябе;
Іх ня вельмі і многа, здаецца.
Так і песьня пяе, так, людцы вы мае,
Знаю, ў думках усім вам снуецца!

1908 г.

## МАЯ МАЛІТВА

Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе,
І ў полі шырокім, і ў вузенькай хатцы
Малюся я гэтаму сонцу на небе
І зоркам, што ночкай мігцяцца.

Малюся свабоднаму ветру—віхуры,
Што лётае птушкай ад краю да краю,
І пасьвіць у высях панурыя буры,
І ў комінах песьні іграе.

Малюся агню я, што сее пажары,
Як стане пара, па нязьмераным сьвеце,
Наводзячы жудасьць вялікаю карай,
Пужаючы старцаў і дзеці.

Малюся жывучай вадзіцы—разводзьдзю,
Ў дзень ясны бліскучай, а страшнай у ночы,
Што, нівы палошчачы, йдзе, не праходзе,
І хаты і чоўны друзгоча.

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магутнаму богу—ўсясьвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі.

1910 г.

## ПАД КРЫЖАМ

З балеснаю ў сэрцы пакорай
Пад крыжам збуцьвеўшым стаю,
І ўвокал—ад гораў да гораў—
Зямлю аглядаю сваю.

Навокала сьцелецца столькі
Багацьця, красы і сьвятла!
Хоць болькі, старыя ўсё болькі,
Адна за аднэю лягла.

Плакучыя стогнуць бярозы,
Скідаючы лісьць залаты;
Хістаюцца дзікія лозы,
Глухія, сухія кусты.

Звод нейкі гамоніць, шапоча:
— Калодаю, дружа, ты будзь!
Душа толькі верыць ня хоча,
Ня хоча паняць і заснуць.

Упаўшыя грудзі калыша
Жальбой няпрыхільнаю сум,
І тысячы ў памяці піша
Гаротных, нявыжытых дум.

Бясьсільна народ свой пытаю,
Абняўшы пахілены крыж:
— За што ты ад краю да краю
Магілай жывою ляжыш?

Ці коні твае патрупелі,
Цягаючы ў поце плугі?
Ці косы твае прытупелі
З крывавай на лузе смугі?..

Пытаю жывых назаліста,
Чакаю, адказ ці бяжыць...
Маўчыць, як дамоўка, ўсё чыста...
Пракляцьце—і тое маўчыць.

## СУДЫ

На суды павялі яе зьвязанай,
Сэрца вырваўшы з белых грудзей,
І судзіці давай—як там сказана
У гэтым хітрым законе людзей.

Абіралі судзьдзёй ночку цёмную,
Ночку—мачыху сумнай зямлі,
Сьведкай крыўда была векапомная,
Сон і заламы стражай былі.

Прыгавор прачыталі над беднаю,
Ня спытаўшыся грэху, віны.
Гэй, хаўтурную песьню пабедную
Над ёй сьпелі праметнай сыны...

З плеч зрывалі уборы злацістыя,
Разрывалі карону-вянок,
Разьбівалі пасад ёй нячыстыя
Й пад жалезны хавалі замок.

Накладалі ёй сковы сталёвыя,
Надзявалі жабрачы убор,
У намітку ўбіралі цярновую
Яе коску, сатканую з зор.

Вочы вырвалі ёй, сонцу роўныя,
З-пад хмурліва навісшых павек,
Дый пусьцілі яе супакойную,
На бадзяньне пусьцілі, на зьдзек,

З лета ў лета ідзе, кроўю зьлітая,
Насустрэчу крыжом і капцом,
Чуць жывая жыве, пазабытая,
У сьне зьяўляючысь родным сыном.

К волі йдзе з дня на дзень, разглядаецца
Па бел-сьвету калі-ні-калі;
Толькі дух-яснасьвет пацяшаецца,
Што ўсё-ж крыўды яе не змаглі.

Як была, будзе так непакорнаю
Адпраўляць вечнабыту імшу...
Не здалеюць суды цемнатворныя
Ёй спаганіць і вырваць душу.

## З КУТКА ЖАДАНЬНЯЎ

З цэлым народам гутарку весьці,
Сэрца мільёнаў падслухаць біцьця—
Гэткай шукаю цэлы век чэсьці,
Гэта адно мне падпорай жыцьця.

Песьню ствapыці ясну, як неба,
Ў кожнай з ёй хаце быць мілым гасьцём—
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуцьцём.

Што не загубяць крыўды жывую
Душу народу, што ўстане са сну—
Гэткай надзеяй толькі жыву я,
Гэткую толькі чакаю вясну.

К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасьвецьця,
К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям—
Гэткай шукаю сьцежкі на сьвеце,
Гэткаму богу і душу аддам.

За лепшу долю роднага краю,
За сваіх брацьцяў ў сьвятой барацьбе—
Гэтакай толькі сьмерці жадаю,
Памяткі гэткай чакаю сабе.

## ДЛЯ ЗЯМЛІ ПРАДЗЕДАЎ МАІХ...

Я табе, зямля мая прадзедаў маіх,
Не патраплю нічога жалець на сьвеце,
На сьвет цэлы гатоў твой прыгон апеці
І ўзьнясьці пасад на магілішчах тваіх.

Я цябе душой рад-бы сваёй сагрэці
І карону сплесьці з сонца, зор залатых,—
На цябе карону ўзлажыць, каб хоць на міг
Заясьнела ты ў цяжка дабытым цьвеце.

За цябе загінуць гатоў я ў барацьбе
З крыўдай тэй, што цярпіш ад людзей і бога,
Ад чужынца і ад сына свайго сьляпога...

Буду ў вечнай мучыцца жальбе і кляцьбе...
І за гэта толькі прашу, малю цябе:
Не гані ты мяне ад свайго парога.

## НА ВЯЛІКІМ СЬВЕЦЕ...

На вялікім сьвеце б'е жыцьцё крыніцай.
Барацьба за волю і за долю рдзее,
Маюць панаваньне вера і надзея,
Асьвяціць народы лепшы быт маніцца

На вялікім сьвеце неба сьлёз ня сее,
Ёрмаў не майструе крыўда-чараўніца,
Не галубіць думак цемра-асьляпніца
І ня водзіць душаў пагібеньня кнеяй.

На вялікім сьвеце б'юць званы на славу,
Людзі з плеч скідаюць ланцуговы скруты,
К сонцу йдуць браточна з рабскае пакуты.
На вялікім сьвеце ўсё ідзе па праву,
Па законе божым, з яснатой яскравай...
А у нас, у нас што?.. Толькі звоняць путы...

1912 г.

# Я ЛЮБЛЮ

Я люблю ўсходы нашых палеткаў
І спавітыя ў зелень лугі,
І шум бору пануры, глухі,
І шаптаньне крынічнае ўлетку...

Я люблю упрыгожану ў мхі
Нашу вёску—сваёй крыўды сьведку,
Свой народ—гэту зьвяўшую кветку,
Цэлы край—родны мне й дарагі.

Я люблю ясны вочы і грудзі
І стан гібкі дзяўчыны-красы;
Аб ёй брэджу на яве і ў сьне.

Я люблю і заву, бы ў нялюдзі—
Чуюць кліч мой сухія лясы,
Кліч: хто-ж любіць, хто любіць мяне?

* * *

Па межах родных і разорах,
    Пад небам зводна-неспагадным,
    Спакоем воджаны век здрадным,
Сную, і нейкі са мной шорах.

Са мной, за мною ўсьлед сум-вораг
    З глухім нашэптам, няпрынадным:
    Як ты ні хочаш быць праглядным,—
Сягоньня ўсё тут—як і ўчора-х!

    Усё жыве тым самым богам,—
Таксама шумнае прадвесьне
Усёй ня зводзе з гоняў плесьні...

    Араты ўсход нясе адлогам:
    Курган чапаючы нарогам,
Ня ўспомніць прадзедавай песьні.

(1919). 1912 г.

## МОЙ КРАЙ

Ляжаць твае гоні-загоны
Стомільна на сьвеце на белым
І жаляцца руняй зялёнай,
І коласам жаляцца сьпелым.

Лес-ноч гаманіста, шумліва
З мінуўшчыны казкі складае
І шле іх далёка па нівах,
Плакуча, ад краю да краю...

Паводкаю коцяцца воды
Руч'ёў паміж долаў і гораў,
У хвалях пагодай-нягодай
Купаючы нівы-разоры.

Спавітыя плесьняю вёскі
Між пустак заселі бясьсільна,
Ўтуліўшыся ў цені бярозкі
На вечным кургане бадыльным.

А люд?.. Ён сагнуўшыся ходзе
Пад ношкай зьнямогі-пакуты
І, роячы сны а свабодзе,
З дня ў дзень сам сабе куе путы.

Так сьпіш, так жывеш мімаходам,
Мой край, як сьцяпная магіла,
З сваім незавідным народам,
З патухшай і славай і сілай.

## НАД НЁМАНАМ

Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды
Вольнага Нёмана, ў цёмнаю даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З берагу Нёман ня выйдзе амаль.

Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія хвалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою ў такі час паслухай,—
Здаецца, там гэтакі голас чуваць:

„Гэй, ня дзівуйся, мой дружа нядбалы,
Што я сягоньня так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошасьць уелася ў матку-зямлю.

„Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай
Некалі бераг мой бачыў і знаў;
Іншы меў выгляд—ня гэткі жабрачы,
Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.

„Край, дзе жыцьцё я сваё пачынаю,
Шмат весялей прыглядаўся на сьвет,
Песьні і казкі інакшыя баяў,
Шчасьце цьвіло ў ім, як макавы цьвет.

„Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за плечы браў сьмела,
Цемра чужынцаў ня страшнай была.

„Панам быў дома і слаўным за домам
Мой, патаптаны сягоньня, народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам,—
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

„З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што ня ўладзіў—
Слухаў, што веча яму звон казаў.

„Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна
Той неўгамонны, расходзісты звон...
Сьціх, занямеў, аглушылі напрасна;
Ці адазьвецца калі болей ён?..

„Так, так, мой дружа, іначай бывала,—
Не называўся забытым мой край;
„Поўнач“ ня раз у ім схову шукала,
„Захад“ знаў сілу яго неўнарай.

„Га, а цяперака што гаварыці?..
Ўсе мае скарбы намарна ідуць:
Жыта учора вывозілі віці,
Родныя хвойкі сягоньня плывуць.

„Людзі чужыя змагаюць мне грудзі
З новым парадкам, з адменным жыцьцём,—
Роднага-ж краю тутэйшыя людзі
Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.

„Я іх ня ваблю сваёю ўжо красай:
Вецер інакшы ім дзьме ў галаве,—
Вісла адным усьміхаецца ласа,
Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.

„Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкія корме ўжо дочка,
Маці працуе на злыдня свайго.

„Так грамадзяне свабоднага краю
Ёрмы узьдзелі, у рабства пашлі,
Прадзедаў слава лазой зарастае,
Памяць мінуўшчыны дрэме ў зямлі.

„Рынкам жывога тавару няслава
Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганоўы вядуць між сабой.

„Га! ты ня слухаеш, бачу, ўжо болей.
Ой, чалавеча, зьмярцьвелы у сьне!..
Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..
Камень і вольха перш поймуць мяне!..“

. . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтакі ў часе глухой непагоды
Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.
Сьціхне, і плаўна зноў коцяцца воды
Вольнага Нёману ў цёмную даль.

## НАД СЬВІСЛАЧАЙ

(У Карзюкох)

Плаўна Сьвіслач-рэчка
Ў даль плыве, бяжыць;
Над крутым абрывам
Панскі дом стаіць;

Зелянеюць вольхі
Па краёх ракі,
Высяцца над імі
Сумна Карзюкі.

Відзен горад здаля,
Горад Менск стары,
Пнуцца важна к небу
Коміны, муры.

Гулка далятае
Дзікі сьвіст машын
Ды прыпеўкі жабаў
З рэчкі і лагчын.

Між прысад гасьцінцам
Між палёў сялян,
Едзе, пераходзе
То мужык, то пан.

Усю-ж гэту мясьціну
Неба абняло,
Залацістым сонцам
Хараство ўпляло.

Рэчка, луг, гасьцінец,
Горад, Карзюкі
Разрываюць думкі
На усе бакі.

Сам сабой ня знаеш,
Што рабіць, як жыць:
Ці ляцець у горад,
Ці ў Карзюкох сьніць?

Ці пайсьці гасьцінцам
Долі ў сьвет шукаць?
Ці рацэ, русалкам
Галаву аддаць?..

## НАД ІМАТРАЙ

На поўначы сумнай, у Фіншчыне дзіўнай,
Ракой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фінаў,
Іматрай завуць вадаспад.

Клакочуць, рагочуць Іматрыны хвалі,
На цэлыя вёрсты шум-гоман стаіць,
Нем толечы каменны бераг, як з сталі,
І зарасьнік хвойны маўчыць.

Шалее Іматра між каменных глыбаў,
За хваляю хвалю імчыць к нізіне;
Як хмар недаступных махнатыя скібы,
Адна адну схопіць, пігне.

Адна з аднэй рынуцца ў глыб, як магілу,
Там скруцяцца, ўзьнімуцца клубам, дугой,
Рассыплюцца пухам, расьсеюцца пылам,
Зноў выскачаць к небу гарой.

Зірнуць, зьзіхануцца, сыпнуцца на скалы,
Ўсім Дантаўскім процьмам на зьдзіў,
І люнуць на волю, забыўшыся шалаў,
Плывуць паміж пустак і ніў.

Другія іх зьменяць і пеняцца ў зломе,
Адвечністым шумам калышуць прастор;
Свабодай сваёю і роднай Суомі*)
Сягнуць быццам хочуць да зор.

Стаіш і глядзіш на бунтоўныя воды,
І сэрца ляліецца ў сьцішнай жальбе,
Ўсё слухаеш нема, як стогнуць нягодай
Ды як-бы ўсё клічуць цябе:

---

*) Суомі — Фінляндыя — бацькаўшчына фінаў.

„Хадзі к нам, бяспутнік, кінь долю на сьвеце,
„Спачын векавечны дамо ў забыцьці;
„Нязьведанай воляю будзем шумеці
„І гутарку з сонцам вясьці.

„Хадзі ў нашы хвалі, спаўём твае грудзі
„Вадзіцай сьцюдзёнай, кіпучай, як вар;
„Народ аб нас казку злажыць не забудзе,
„І песьню нам зложыць пясьняр“.

Так сумна на поўначы, ў Фіншчыне дзіўнай,
Ракой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фінаў,
Іматрай завуць вадаспад.

Imatra 20/VI—1910.

## ВЁСКА

За хатай хата у парадак
Сядзіць адна каля адной;
Залегла вуліца сяродкам,
Будынкі з боку чарадой.

Ня год, ня два зьняла з плеч вёска,—
Дзянькоў уцёкшых знак відаць:
Мох у салому паўпіваўся,
Падпора час сьпяшыць стрымаць.

Жыцьцё у лапці абувае
Сваяк, чужынец-прайдзісьвет,
Бяда багацтву б'е паклоны,
Цямнота к знаньню зводзіць сьлед.

Вядзе вайну сьляза са сьмехам,
Дзярэцца той, а той дрыжыць,
З грахамі важыцца пакута,
У пары ноч і дзень бяжыць.

Ня знаю: шчасьце ці няшчасьце
Ўе тут спакойнае гняздо...
У вёскі гэтага спытайся,—
Маўчыць і вёска пакуль што.

## САД

Гальлё панадна разлапушыў
За хатай прадзедавай сад;
Чарэшні, яблыні і грушы
Зышліся згодліва у рад.

Ківаюць макаўкамі ўдала,
Плывуць напевы ад галін,
Як-бы з іх кожная ўзывала:
„Хадзі, бяспутнік, адпачынь!

„Хадзі. усядзься каля нас ты,
„Жыцьця прыгод забудзь напасьць,
„Паслухай музыкі лісьцястай:
„Яна табе гарт новы дасьць.

„Ты многа йшоў, блудзіў ты многа,—
„Жаданьня крыж ты нёс і нёс,
„Аж на расстайных стаў дарогах;
„Цяпер—да нас ад бур і сьлёз!..“

Так быццам вабіць сад лісткамі
Пад цень свой думку многа лет;
А думка што? яна з вятрамі,
Ня знай за чым ляціць у сьвет...

## РЭЧКА

Між гор—далінаю—за вёску,
Не аглядаючыся ўзвыш,
Суважна, папрасту, пасвойску
Бяжыш ты, рэчка, і бяжыш.

Падгоніш каменьчык жвіровы,
Травінку водную трасеш,
Чапаеш караньчык альховы,
Па верху кветачку нясеш.

І лёд зімой табе ня шкодзе—
Усё коцішся; а цёплым днём
На бераг выглянеш разводзьдзем,
Дый посьле—зноў сваім сьлядком.

Нясецца весела вадзіца,
Мая з ёй думка сьлед у сьлед,—
То рвецца ў даль, то зноў баіцца:
І міл і страшан думцы сьвет.

А рэчка як-бы мне гавора:
„Аб долі хочаш знаць маей?
Я—капля ў моры; толькі-ж мора
Маё ад дум тваіх сьвятлей!..“

## СЕЛЬСКІЯ МОГІЛКІ

Люблю я могілкі з каплічкай,
Прысельле насыпаў і пліт,
Дзе крыж і страшыць і галубіць,
Сьлязой дзе кожын дол абмыт.

Сваё дзе радаўніца сьвята
Сьпяшыць у год абходзіць раз,—
Сялян склікаючы сямейку,
Спраўляе з сьветам тым папас.

Жывыя душ успамінаюць
Сваёй успанае радні,
Над імі жаляцца галінкі,
Нясуць былыя думцы дні...

Агул жыцьця ўсяго абыймеш,
Друзы пагод і непагод,
Зямлю і неба ў рукі возьмеш,—
І ў гэты край зьляціць паглёд.

І як-жа міл дзірванчык цішы,
Спакою дзіўнага узгор,
Дзе не чапіў сялянства пушчы
Навейшай мудрасьці тапор!..

## ЯВАР І КАЛІНА

Песьняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісьцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песьцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
З маткай зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ночаньку чорную
Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць сьмехаў русалчыных,
Лопату крыльляў начніцы,
Ветру паневаў ап'янчаных,
Плюскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесьцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

## ЯВАР

За пакутнай за гарою
Ўзьнёсься явар адзінокі
Іківае галавою,
Ўсё ківае ў сьвет далёкі.
Колькі, бедны, крыўды мае?
Колькі жалю ў гальным шуме:
Хто падгледзе, ўсё згадае,
Ўсё прачуе ў соннай думе?
Смуцен явар. Змагаць-біцца
Сіл замала з непагодай—
Па лісточку, па галінцы
Ўсё губляе з кожным годам.
Гэй, і явар жыў на дзіва,
Пaглядаў у сьвет з адвагай,
Быў ён князем гэтых ніваў,
На ўсім сьвеце меў павагу.
Ад узгорку да узгорку—
Ці там сонейка, ці вейка,
Ці-то соладка, ці горка—
Помніць явара жалейка.
І ў дзень будні і ў нядзелю
Ён з людзямі са сваімі.
Колькі песень аб ім сьпелі?
Колькі ў песьнях яго імя?
Зьбеглі леты за лятамі.
Як ня нашы, нашы песьні;
І мы самі, як ня самі.
А наш явар? Аж балесьне...
За пакутнай за гарою
Плача хмурны, адзінокі
І ківае галавою,
Ўсё ківае ў сьвет далёкі...

## ДУБ

Распусьціўшы сучча
У глухім прывольлі,
Сам адзін расьце ён
На далёкім полі.

Як цар, у кароне,
Аб нічым ня дбае,
Ці-то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён месцы
Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.

Дождж падмыў карэньне;
Ў ім дупло—як хата...
Ён стаіць і дрэмле—
Грозны, расахаты.

## ВЯРБА

Стаіць вярба сухая
У полі на мяжы,
Кару з галін сьпіхае,
Галіны—як крыжы.
Ці непагадзь іх мые,
Ці сьпеката пячэ,—
Ўгару глядзяць нямыя,
Штогод нямей яшчэ.
Шчабетлівая птушка
Папеці не ляціць,
І мятлічак, і мушка
Гняздо баяцца віць.
Адно птах несьвянцоны
Спраўляе свой папас...
Падбітыя вароны
Ды груганы падчас...
А ўсясьвяточнай ночай,
Як ляжа цемната,
Ў сухой вярбе ляскоча
Асеньняя слата.
Галодны вецер сьвішча,
Шалее ў злыбядзе,
Цямняцкае ігрышча
З сухотніцай вядзе.
Праклённы хохат-рогат,
Выклічыны жуды,
І жальны ціхі ёкат
Там чуецца тады.
Ў такі час кажуць людзі
Аб тэй вярбе сухой:
Хай бог судзьдзёю будзе
Над грэшнаю душой.

## ГРУША

Калышыцца сталетняя,
Шуміць на ўсе староны,
На ёй галінаў тысячы,
Лісткоў на ёй мільёны.

Шпакі на ёй чырыкаюць,
І белкі часам скачуць,
І сонца дарыць сьпекамі,
І хмары дажджом плачуць.

Яна, загартаваная
Сталетняю парою,
Шуміць, заходзе ў гутарку
То з небам, то з зямлёю.

Дый дзіўнай мовы грушынай
Людзям не зразумеці,
Хоць мо' аб чым і радасным
Захоча ім шумеці.

Хоць будзе мо' расказываць
Аб долі, аб багацьці,
З даўнейшага, прашоўшага
Пыл забыцьця зьмятаці...

О груша, о сталетняя,
Научы, што мне зрабіці,
Каб мову тваю дзіўную
Людзям пералажыці...

## ДЗЬВЕ ТАПОЛІ

Там, за вёскай, у полі дзьве стаялі таполі,
Як адна, дзьве таполі стаялі,
І стагналі у полі сухавейна таполі,
Як адна, дзьве таполі стагналі.

Аб Усходзе у полі ўсё шумелі таполі,
Як адна, дзьве таполі шумелі,
І аб Захадзе ў полі лісьцьмі пелі таполі,
Як адна, дзьве таполі ўсё пелі.

Што пануюць у полі над дубамі таполі,
Як адна, дзьве таполі пануюць.
Што начуюць у полі самаўладна таполі,
Як адна, дзьве таполі начуюць...

Неба помсту у полі тут пачулі таполі,
Як адна, дзьве таполі пачулі,
І навекі у полі дзьве заснулі таполі,
Як адна, дзьве таполі заснулі.

## ЛЕС

Ці знаеш ты, дзяцюк нядбалы,
І ты, дзяўчынка дарагая,
Лес гэты цёмны, лес падгалы,
Што з веку ў век нам байкі бае?

Цікавым вокам і душою
Шмат пераняць чаго там можна,
Як там усё само сабою
Жыве паважна, асьцярожна.

Там зьвер туды-сюды шнуруе,
На гальлі птушка там трасецца,
Там хвойка з хвойкаю талкуе,
Як дзе кума з кумой на рэчцы.

Зімой сапе сьцюдзёнай думай,
Улетку песьнямі уп'ешся,
А ў восень там—ах, шумы, шумы!
Ня чуй—сьлязою абліешся!

Няхай-жа сьвісьне ў ім сякера:
Застогне бедны ён, застогне...
О, пушча, цёмная ня ў меру,
Чыя душа з табой ня дрогне?!

## БОР

Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ноч, пустынна раскінуўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам вядзе патайны разгавор.

Глуха нясуцца вольныя шумы,
Веткі касматыя гнуцца, трашчаць;
Родзяцца ў сэрцы дзіўныя думы,
Хочацца пушчу падслухаць, паняць.

Што ты, аб чым ты, бор неспакойны,
Гэткую гутарку ў шуме завёў?
Ці сваёй доляй ты недавольны,
Ці што ня так ты на сьвеце знашоў?

Можа ты ўбачыў сьлёзы нядолі?
Можа дзяцей тваіх недруг пацяў?
Можа пачуў ты звон путаў няволі?
Можа няшчасных жыцьцё ты паняў?

А можа вецер, што скрозь гуляе,
Што-небудзь новае збаяў табе?..
Эй, гавары ты, пушча глухая!
Слухаць прышоў я здалёку цябе.

Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ноч, пустынна раскінуўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам ён толькі вядзе разгавор!

## ВОЎК

Топчучы верас і мох
Цёмных імшараў і лоз.
Выбрыў на сонны разлог,
На аплясьнелы пакос.

Зубам ляскоча аб зуб,
Вочы палаюць агнём;
Стаў, як калода, як слуп,
Стаў і азваўся выцьцём.

Выў сярод дрэмлючых ніў,
Як-бы на суд каго зваў,
Хто сатварыў, спарадзіў,
Хто узрасьціў, гадаваў.

Ноч—ён на вырай, на жыр;
Дзень—у бярлогу, як смоўж...
Пустка удоўжкі і ўшыр,
Пустка ушыркі і ўдоўж...

Выў ён, а рэха ўсё ў даль
З рогатам дзікім плыло,
Толькі ня віўся ў ім жаль...
Рэха пракляцьце нясло.

# ВАЎКАЛАК

Як зьмеркне, як ноч дзень зваюе,
І зораў паявіцца знак,
Па нівах, па сёлах шнуруе
Туды і сюды ваўкалак.

У поўнач на пні і на сталі
Зьнімае, узьдзявае свой від;
Ня кеміць ні крыўды, ні жалю,
Ні наспаў магільных, ні пліт.

На веры людзкой і павазе.
Хаваны між яраў і лоз,
У кожны надворак залазе
І водзіць трусьлівасьць за нос.

Паношыцца ў кожнай прыгодзе,
Сьмяяцца ня дасьць над сабой;
Малітвы на губы наводзе,
Як лістам, трасе цемнатой.

Ці з ласкай яго, ці няласкай—
Рахунак вядзе забабон;
Складаецца казка за казкай,
Падданых зьярміў ён мільён.

Лет тысячы зьела няпамяць,
За богам узводзіцца бог,
Сто ўсьпелі праўд новых спаганіць—
Ніхто ваўкалакі ня змог.

Як толькі зямля заначуе,
І зорак абойдуць рады,
Па нівах, па сёлах шнуруе,
Шнуруе туды і сюды.

## Ў ВЕЧНЫМ БОРЫ...

Ў вечным боры цемнатворы
Скачуць, плачуць, весяляцца;
Жнуць, зьбіраюць дзіва-жніва
Ў сонным полі, ў горкай долі.

Ночай ходзяць, днём заводзяць
Твораць, мораць яснагляды;
Веюць, сеюць плесьні ў песьні
На палаці ў кволай хаце.

Як начніцы-чорналіцы,
Скрыпам, шыпам маладзяцца:
Кінем, плюнем чары-мары
На паляны нечапаны;

Над курганам незабраным
Скруты-путы разасьцелем,
Сном-травою станем, глянем
На няўлады, на пасады...

З чорным богам прад парогам
Сталі ў хвале, як кароны,
І пануюць—скачуць, плачуць
Цемнатворы ў вечным боры.

## ХОХЛІК

Як зайграе ў лесе хохлік,—
Замірае песень воклік;
Як зачэпіць мох і лозы,—
Аджываюць сьмех і сьлёзы...

У цёмным яры скачуць чары,
Кветка чахне на папары,
Лісьць трасецца на асіне,
Вогнік блукаецца сіні.

Барадой лясун ківае,
Шалы нетрай спавівае;
Ваўкалак за дамавінай
Выпаўзае на пуціну.

Ад загону да загону
Хохлік царскаю каронай
Каранує у сусьветы
Сухалесы, пустацьветы.

Хохлік грае, ведзьма скача,
Ноч сьмяецца, сонца плача,
Толькі песень ня чуваці
На стаптанай сенажаці.

## ЧОРНЫ БОГ

У караўніцах амшалых
З галавы да ног,
З дзікіх багнаў перавалаў
Выбрыў чорны бог.
Вызваў пошасьці, начніцы,
Цемрай зазіяў;
Тушыць новыя мглавіцы,
Тушыць новы зьяў.
Ногці смольлю разлапушыў,
Ногці — верады,
З гікам пудлівыя душы
Гоніць дзе-куды.
Цемравіца, суталока
Зьверзлася ў адно,
Лезе звага, ненарока
Ўсё на дно, на дно.
З каршунамі, з курганамі
Занялася прыць,—
Чорны бог заняўся пламем,
Чорны бог гарыць.
Паланейся, развугляйся,
Зьмейны чорны бог,—
Ты йшчэ з белым не зраўняўся,
Ты яго ня змог!..

1911 г.

## НОЧ ЗА НОЧКАЙ...

Ноч за ночкай ідзе, сьцішна, тайна брыдзе,
Расьсявае трывогу-зьнямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацямрае гасьцінец-дарогу.

І урок, і залом абыймае крылом,
Гругановым крылом спавівае;
Водзіць рэй з ведзьмаком, жэніць ведзьму з ваўком,
Кажана і саву заручае.

З ям вылазіць, як лунь, вадзянік і лясун,
Выпраўляюць русалкі бяседу,
Зьмей дабро цягне з пунь, пакуль крыкне пявун,
Пакуль поўнач ня зробіць прагледу.

Неба свой нямы сход: месяц, зор харавод,
Над зямлю то выводзіць, то зводзіць;
Сьпіць сяло, дрэмле кот, вецер цісьнецца ў плот,
Як на дудках, у шчэпках заводзіць.

Так ноч ночку вядзе, сьцішна, тайна брыдзе,
Расьсявае трывогу-зьнямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацямрае гасьцінец-дарогу.

1909 г.

## ЗАПУШЧАНЫ ПАЛАЦ

Твой кволы валадар, забыўшыся навук
Велічыні Зыгмунтавай і лет цярпеньня,
„Разьдзел“ узаканяе ў загранічным цені
І лічыць, колькі дома кінуў хвоек штук...

А дома, роскашы і працы многіх рук,
Папас магнацкіх перацьвіўшых пакаленьняў,
Стаіш,—і цэгла валіцца з гнілых скляпеньняў,
І ў шчыліне гняздо ўе ўслужлівы павук.

Жывёлу гоне ў парк галодны „сэрвітут“,
Ля сьцен цянюе забабон ад лета ў лета:
Нячысьцік з ведзьмамі гуляе ў пустцы гэтай.

Так зьністажэньне ў кожын гзымс паўзе і кут
І зубы скаліць: „Моц мая і права тут!
На ўход жыцьця сюды ўжо я кладу тут „veto“.

## ПАЛАЦ

Стогнуць пад мурам халодным таполі;
Крыліцца ў ветках начніца;
Моляцца совы па днеўным прывольлі;
Вецер калыша званьніцай.
 Сьцелюцца мжакі асеньняй валокны;
 Вечар нялюдзен, трывожан;
 Шыбамі звоняць палацавы вокны,
 Ценямі мур упрыгожан!
Высакі, бледны адвечныя сьцены,
Мары-слупы чарадою;
Важны дзядзінец, трава па калена;
Сад з агародай жывою.
 Дымна замглелі, як блудныя вогні.
 У вёсцы далёкай лучыны...
 Весела, ярка ў палацы сягоньня,
 Хвіляй-мінутай—гадзіна.
Шыбы зардзелі блісканьнем няўхватным
Кружацца пары, мігаюць;
Душы да славы ўсябратняй няздатны,
Вокліка суму ня знаюць.
 Бел, як астрог сярод пусткавай пашы,
 Думку палац неспакое:
 Штось да яго парывае і страша;
 Зводны аздобай пакоі.
Неўглядзь за поўнач насьпела часіна,
Сон на пакоі паў ройма...
Досьвета ў вёсцы далёкай лучыны
Далей мігцяцца пасвойму.

## ТАЕ СЬНЕГ...

Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністыя,
Сонца з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі!
Хутка жаўранак песьняй сваёй галасістаю
Прывітае аратых на полі.

Узьніме чорную скібу саха працавітая,
Ляжа ўсходнае зерне у пахаць сырую,
Закалосіцца поле, сьлязой, потам зьлітае,
Зашуміць сваю думу старую.

Гаспадар той суважна свой шнур пасьвяточнаму
Абыходзіці будзе, красой любавацца,
Прыслухоўвацца шэлесту нівы няўрочнаму
І маліцца к сваёй зямлі-матцы.

Сьмела гляне на сьвет і на долю зьмянлівую,
Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі
Тыя сілы з усходу і захаду мсьцівыя,
Што даймаюць цяпер, як вужакі.

## ПАВОДКА

Крэпкі, магутны аковы зімовыя—
　　Льдзяныя брылы на захад і ўсход.
Бліснула сонца, сонца вясновае—
　　Топіцца гурбіна, топіцца лёд!

З грохатам, з лёскатам крыга за крыгаю
　　Прэцца, нясецца ў нязнаную даль;
Хваля за хваляю коціцца, мігае,
　　Ломіць прашкоды, як молатам сталь.

Дарма запорыну людзі бяздольныя
　　Выбегуць ставіці сіле такой:
Скрыша паводка ўсясільная, вольная,
　　Скрыша і пойдзе сваёй пуцінай!

Эх ты, разводзьдзейка! Эх ты, бурлівае!
　　Ты аднаўляеш, купаеш зямлю;
Вынесі-ж, вынесі хваляй жычлівою
　　К лепшаму шчасьцю людзкую сям'ю!

## З ПЕСЕНЬ АБ ВЯСЬНЕ

І зелень, і кветкі, і песьні,
І неба вясёлая яснасьць...
Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні,—
Дзе глянеш,—адна, братка, шчаснасьць!

Сьвет цэлы зіяе каберцам,
Шум нейкі ад пушчаў нясецца,
З грудзей як ня выскача сэрца,
Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...

Прачнуліся нівы і хаты:
Ўся ў полі людзкая сямейка,
За сошкай шнуруе араты,
Ля статку іграе жалейка;

З сяўнёю сявец пахаджае,
На скібіны валіцца зерне;
Знаць, сіла ў сяўца немалая...
Захоча—і сьвет пераверне!

Гэй, гэй, хлебаробе мазольны,
Пан сошкі і коскі, і поля!
Кінь выгляд сьлязьлівы, нявольны;
Ў тваіх руках слава і доля!

1911 г.

## СЁМУХА

Нарэшце па віхрах, па сьцюжы
Заглянуў вясеньні прасьвет;
Ці чуеш, ці бачыш, мой дружа,
Як іншы, як лепшы стаў сьвет?

Ці бачыш, як неба міргае,
Як траўкай сьмяецца зямля?
Ці чуеш, што кум-лес нам бае?
Уцям, колькі ў рэчцы жыцьця.

А глянь ты на вёску на нашу,
На брацьцяў забытых у ей,
Я знаю, як доля іх страша,
І колькі ім зводзіць надзей.

Во сёмуху вышлі. спаткалі,
Надзелі сьвяточны убор,
Зялёнай галінкай уткалі
Сьвятлічку і ганак, і двор.

І цешацца людзі, як дзеці;
Сягоньня труд скінуўся з рук,
Хоць заўтра на белым на сьвеце
Ах, колькі чакае іх мук!..

## З ЛЕТНІХ МАЛЮНКАЎ

Коціцца, ўеціца далінкай крыніца,
Б'еціца, плюскоча ў каменьнях вадзіца,
Далей плыве і плюскоча.
Белымі грудкамі лёгшы на траўцы,
Хоча дзяўчынка к вадзіцы дастаціца,
Губкамі чэрпнуці хоча.

Вольха лісткамі ёй шыю ласкоча,
Плюскатам рэчка сьмяеціца у вочы,
Сонейка ўсіх абнімае.
Сонейка, рэчка, вольха, дзяўчына
Думцы ўсьміхаюціца соладка, дзіўна,
Думка іх шчыра вітае...

## ЛЕТНЯЯ РАСА

Як брыльлянты, расьсявае
Ночка летняя расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.

А як раніца настане,
Бліскі сонца загуляюць,—
Рос прыходзіць адцьвітаньне,
Туманы у рэчцы таюць.

Як брыльлянты, гінуць росы
На зялёнай сенажаці;
Сонца косы, нашы косы
Не даюць паўдня ім знаці!

## ЛЕТА

Эх ты, лета гарачае, бурнае!
Ажыўляеш ты поле і луг.
Люба, думкі пакінуўшы хмурныя,
На сьвет выйсьці ды глянуць вакруг.

Шум стаіць над лясістай дуброваю,
Быццам рада аб нечым ідзе;
Рэчка, ў прысадзь схаваўшысь альховую,
Бурліць; рыбка плюскоча ў вадзе.

Ў збожжа ўсякае ніва прыбралася—
Хараства там якога няма!—
Як зялёны дыван, распласталася;
Шопат нейкі плыве ад жытца.

Колас з коласам гутарку дзіўную
Завялі, бы на хмары злуюць;
Песьні жаваранкаў пераліўныя
Замаркоціцца, спаць не даюць.

А лагі, а гумнішчы, аселіцы?..
Вось абняў, прытуліўся, ляжы...
Хто з вас, хто ня любіці асьмеліцца
Ўлетку сьвет ад мяжы да мяжы?..

Дай-жа, лета, мне веру магучую,
Што калісь сваю долю знайду,
Дай мне песьні пець сілу жывучую,
Дай працівіцца крыўдзе і злу!

## СЬПЕКА

Прыскам пылае і жарам,
Жарам дрыжыць, зіхаціць,
Як-бы сьвет вечным пажарам
Хоча абняць і спаліць.

Звугліла высі—загоны,
Звугліла долы—лагі,
Завалакла лес зялёны
У чорныя дыму кругі.

Сьцежкі заслала агніцай—
Белым пякучым пяском,
Выссала рэчкі-крыніцы,
У дно іх зірнула агнём.

Саванам бледна-замглёным
Сьвету душу спавіла,
Потам крывава-чырвоным
Вочы зямлі заліла.

Крык-жальба вырвецца з губаў
К сонцу з плакучых грудзей,—
Сонца зіяе загубай,
Сонца сьмяецца, як зьмей.

## ЗАКЛЯТАЯ КВЕТКА

Чуць толькі купальскае сьвята
Набліжыцца з ночкай сваей,
Як папараць кветкай заклятай
Чаруе няшчасных людзей...
З надзеяй і верай, і сілай
Зусюль, куды-б дзе ні зірнуць,
Праз высі, даліны, магілы
Па кветку бягуць і бягуць!
... Сава пяе песьню разлукі,
Лапоча крыламі кажан.—
Мільённыя цягнуцца рукі,
Дзе дрэмле купальскі курган.
Тых радасьцю вочы сьмяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Піхаюцца, корчацца, б'юцца,
Мяшаецца праўда і зло.
Пачнуцца галінкі хіліцца,
Шасьцяць верасы пад нагой.
Туж-туж ужо кветку схапіці!
Сьцікаецца гэты і той—
Тыц—стой!.. Глядзяць зорніцы-сьведкі,
Пявун адгукнуўся ў сяле—
Ні ночкі купальскай, ні кветкі!
Усё затаілася ў мгле...
Залыпалі блудныя вочы,
Мільёны уздохаў ляціць.
Сава не заціхне—рагоча.
Крыламі кажан шапаціць...
Сьлед костачкі сьцелюць—услалі,
Здаецца, ўжо час аддыхнуць,
Надойдзе-ж хай толькі купальле—
Мільёны па кветку бягуць!..

## НА КУПАЛЬЛЕ

На купальле на сьвятое
Рві, матуля, зельле тое,
Што ў нас папараць завецца!
І шчасьлівым быць здаецца!

Як нарвеш яго даволі
Ў цёмным лесе, ў чыстым полі,—
Палажы за абразамі,
Пасьвянці сваймі сьлязамі...

Двойчы, тройчы—а краплista—
Зьлі сьлязою брыльлянцістай
І чакай з яго прыплоду
Ад усходу да заходу...

Як узыдуць з зельля кветкі,—
Будуць шчасьце меці дзеткі,
Будзеш, маці, меці ў хаце
Долю, згоду і багацьце!..

## ЖНІВО

Насьпелая постаць шчасьлівых пасеваў
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы,
Сьсівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным шаптаньні: „Дзе, жнеі мае, вы?“

І жнеі зышліся. Направа, налева,
Кладучы ў снапы каласы-старажы,
Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўныя вечна старыя напевы.

Спагадная-нудная песьня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белага коласу нівы.

Плыве гэта песьня ка мне і заве,
І ў сэрцы зьвініць, як каса у траве:
„Ты так-жа, брат, сееш... а дзе тваё жніва?“

## АДЦЬВІТАНЬНЕ

Не шасьцяць каласы,
Звон ня валіцца з касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

Ня іскрыцца небазор,
Ня цьвіце трава-чабор,
Ня цыгліць птушыны стан.
Толькі поўзае туман,
Вецер б'е ў нямы курган,—
Шапаціць імглісты бор.

Змога вольная снуе,
Вочы ўставіўшы свае,
То галубне, то пужне.
Сэрца б'ецца у паўсьне,
Думка сэрцу аб вясьне
Здрадны голас падае.

## НА СКЛОНЕ ЛЕТА

Пусьцее поле, моўкне птушка,
Скідае жоўты лісьць бяроза,
Нямее песьня-весялушка,
Ліюцца з неба каплі-сьлёзы.

У полі глуха вецер сьвішча
І ў комін з шумам далятае.
Ні то жыцьцё, ні пажарышча,
Ні то пагібельнасьць якая!

А ў сэрцы, сэрцы неспакойным,
Жаль так і ўеўся з пусткай гэтай;
Снуюцца думы роем ройным.
О, як ты страшны мне, склон лета!

Была вясна, і ўсё на сьвеце
Жыло, цьвіло—і вось ня стала...
Няма вясны, заплач па леце;
Нуда ва ўсім запанавала.

Такая-ж доля наша, людзі:
Жыві ды пекайся ўсёй сілай;
Праходзяць годы, чахнуць грудзі,
Бач, і дапекаўся магілы.

## З АСЕНЬНІХ НАПЕВАЎ

1

Кончыцца лета гарачае,
Кончыцца воля—раздольле;
Кветкамі лог не харошыцца,
Збожжам ня хваліцца поле.

Косы ня сьвішчуць сталёвыя
Ў соннай траве сенажацяй,
Серп на вайну ня йдзе з коласам,
Песень, і тых ня чуваці.

Сонна адна-адзінокаю
Груша стаіць над мяжою.—
Лісьце скідае пажоўклае,
Сыпе асеньняй нудою.

Неба штодзень пахмурнейшае,
Сонца штодзень на ім меней,
Птушак заціхла чырыканьне,
Нейкае ўкруг зьнемажэньне.

Вецер заводзіць у коміне,
Быццам жыцьцё сваё ганіць;
Думы старыя, халодныя
Сэрца пужаюць, як зданьні.

Так і ўцякаў-бы ад гэтага
Там гэт! За горы, за рэкі,
Каб чалавек ды мог скрыцца
Ад сваёй долі навекі.

2

Сьцелюцца цэлы дзень росы,
Вечны цень сьпіць на зямлі,
Бледныя сонцавы косы
Выглянуць рэдка калі.

Здаля даносяцца шумы,
Ў коміне шумы пяюць;
Цісnуцца буднія думы,
Сноў забыцьця не даюць.



Нейкая зводная сіла
З выглядам вечна старым
Вабіць здалёку магілай,
Крыжам міргае сваім.

3

Змоўклі лісьцястыя шэлесты,
Гальлі худыя тырчаць,
Мёртвыя дзе-ні-дзе верасты
Зеленяй зводнай блішчаць.

Цягнуцца дрэвы расхутаны
К небу з балотных нізін,—
Корань, у жвіры заблутаны,
Не адпускае галін.

Рогат зьвярыны пакоціцца
Дзікім жаданьнем бяз слоў,—
Пушча замрэ, закалоціцца,
К воблакам цягнецца зноў.

4

З гальных ліп і бяроз
Лісты валяцца,
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясьцяць
Залацістыя,
Веткі ў неба глядзяць
Пусталістыя.

Дачакаўшы вясны,
Зноў ажыўляцца;
Не паўстануць лісты,
Што асыплюцца.

5

Неба поўна сівых хмараў,
Сьвет палошча дождж сьцюдзёны,
Чорнай кучай на папары
Чахнуць каўкі і вароны.

Сонца ўжо ніхто ня бача,
Вецер вые, завывае;
Восень стогне, восень плача,
Думы сумам спавівае.

Ў маёй хаце у пахілай—
І ня цёпла, і ня відна,
Выглядае, як магіла,
Выглядае неяк крыўдна.

І ў душы, хоць плач, як нудна,
Гэтак цёмна, як і ў хаце;
Ой, як нудна! Сказаць трудна...
Галасіў-бы, слаў праклянцьці.

Галасіў-бы, як галосе
Вецер гэты, восень гэта,
Каб аж рэха разьляглося,
Гэт, на цэлае поўсьвета!

Каб ляцела, ня сьціхала
Па шырокаму па полі,
І ўсім чыста апявала
Маю горкую нядолю.

6

У думах нявесела,
Сэрца сьціскаецца;
Цёмная, золкая
Восень зьбліжаецца.

Неба пакрылася
Мглою, туманамі,
Галкі узносяцца
Па-над курганамі.

Поле шырокае
Пусткай абселася,
Дуброва шумная
З лісьцяў разьдзелася.

Імжыць сьцюдзёністы
Дождж над зямелькаю,
Сьвет пакрываючы
Жаласьцю нейкаю.

Людзі у курныя
Хаткі пакрыліся,—
Радасьць мінулася,
Песьні забыліся.

Бабка старэнькая,
Зможана мукамі,
Казкі даўнейшыя
Шэпча з унукамі.

Віхар у коміне
Жудка заносіцца,
То як-бы жаліцца,
То ў хату просіцца.

Ў думах нявесела,
Сэрца сьціскаецца
Цёмная, золкая
Восень зблізжаецца.

## ВОСЕНЬ

Вось і па леце... Няма яснай гожасьці;
Восень запела пагудку сваю;
Нудна, жаль нейкі адцьвіўшай прыгожасьці,
Гіне ахвота к пацехам, к жыцьцю.

Вока ня пасьвіцца зеленяй, коласам,
Сэрцу раздольля, прывольля няма;
Вецер заводзіць нябожчыцкім голасам,
Вые, рагоча, як ведзьма сама.

Лісьце струпеўшае з дрэў асыпаецца,
Веткі шкілетамі сталі бяз іх,
Воўчыя зрэнкі між пнёў палыскаюцца,
Птушчын і лопат, і шчэбет заціх.

Неба адзелася цёмнымі хмарамі,
Сыпе сьцюдзёнай слатою, дажджом;
Жоравы, гусі лятуць над папарамі...
Цёмна, пагібельна, сьлёзна кругом.

Штосьці трывожнае, зло-няпрыхільнае
Сунецца з гэтай мярцьвячай глушы...
Восень панурая, восень магільная!
Страшна ты чуткаму сэрцу, душы.

## ЗІМА

Было цёпла. У ваконцы
Заглядала ясна сонца.
Аж, ні села і ні пала,
Зіма з сьнегам загуляла!

Усю нашую старонку
Спавіла, як у пялёнку,—
Няма траўкі, няма кветак,
Пуста гэтак, мёртва гэтак!

Сьціхла рэчка, як забіта,
Пад шкляною лёду плітай;
Лес пашумам не гамоніць,
Птушак песьнямі ня звоніць.

Век халодны без адмены,
Мароз стукае у сьцены,
А ад сьнегу днём і ночай
Іскры сыплюцца у вочы.

Скрыпяць санкі на марозе
Па высьлізганай дарозе...
Эй, каб шчаснай больш часінкі,
Вось-бы зьлётаў да дзяўчынкі!..

## СЬНЕГ

Залягла, як пасьцель,
Лебядзіная бель
На загон, на курган.
І кажан, і груган
Занямеў не на сьмех:
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...
За старухай зямлёй
Ты пасьцель, дружа мой,
Узваліў на душу,
Як-бы крыж на мяжу,
І ўжо рад не на сьмех:
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...
Думкі, сэрца, паглёд
Абліў лёд, скаваў лёд.
Так спавіў, спавіў сам,
Каб лягчэй было там,
Дзе жыцьцё не на сьмех:
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...
Ты і жыў, і любіў,
Ты ня ўмёр—і забыў,
Каб нічога ня дбаць,
Сьмела ў даль паглядаць,
Быць самым не на сьмех...
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...
Хтось—сваяк, не сваяк—
Як жыў, скончыўся так.
Прагуўдзеў поп і звон,
Ідзі з памяці вон:
Бой за хлеб не на сьмех!
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...
Мо' і лёгкія дні...
Не зачэпяць ані
Ні бяда, ні нуда,
Ні агонь, ні вада...
Само шчасьце, сам сьмех!
　　Гэта сьнег, толькі сьнег...

* * *

З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай
маланкі выткаў-бы шаты,
З сонца і кветак-пралесак карону—
вяночак зьвіў-бы табе я.

З пальмаў, з цыпрысаў сьвятліцу ў цьвітучай,
цяністай строіў-бы кнеі;
Воблачак зьняў-бы на трон з небасклону,
з-пад сонца пышны, багаты.

Шоў-бы ў палац панаваць з каралеўнай,
царэўнай яснай тады я,—
Славіць, шчасьлівіць сваю маладую,
сьвятую песьняй няпетай.

Сэрцавы струны зьвінелі-б нязьвеўна,
павеўна гымны жывыя;
Казку тварыў-бы з табой залатую—
такую, як думка гэта.

## НЕ ПРАСЬПІ

Сьпі, дзяўчына, покуль сонца
Не зайграла над хацінай;
А як сонца на аконца
Бліскі кіне—ўстань, дзяўчына!

Ўстань, зьніміся, схамяніся,
Ўмыйся сочнаю расою,
Сэрцам к сонцу прытуліся,
Ветру дай гуляць з касою!

Ў сонцы віся далей, вышай,—
Паланей, красуй дзянінай,
Ня пужаючыся крыжа,
Сонцу роўная дзяўчына!

Заіскрыся кветкай белай
На зялёнай сенажаці;
Кінь патолю думцы сьмелай,
Пасмы радасьці снаваці...

Негаданай песьняй-казкай
Разыграецца часіна...
З сонцам, з сэрцам, з вечнай ласкай
Не прасьпі вясны, дзяўчына!..

## ЯК У ЛЕСЕ ЗАЦЬВІТАЛІ...

Як у лесе зацьвіталі
Ліпы ды каліна,—
Залатыя сны снавалі
Мы з табой, дзяўчына.

Калыхаліся, шумелі
Вольныя бярозы,
Шапацелі, шалясьцелі
Трысьнягі ды лозы.

*

Як у жыце наліліся
Каласкі нагінна,—
Сустрэліся, абняліся
Мы з табой, дзяўчына,

Мігацелі, зіхацелі
У пракосах косы,
Заміралі кветкі, зельле,
Заміралі росы.

*

Як дасьпела, счырванела
Ягада-рабіна,—
Ўвокал глянулі нясьмела
Мы з табой, дзяўчына.

Верасы пад лісьцем спалі,
Бор зялёны гнуўся,
Недзе пелі ў цёмнай далі
Жуpавы ды гусі...

## ПЕСЬНЯ

Зашло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка,
Уецца туман сенажацяй,
Выйдзі, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
Ў садзік ка мне пагуляці.

Хвілямі шыбкімі ў цені пад ліпкамі
Час нам праходзіці будзе;
Бачыці будуць зоры і месяц,
Бачыць ня будуць нас людзі.

Казкамі дзіўнымі будуць галінамі
Ліпкі шумеці, дзівіцца,
Будзе прыветліва пець салавейка,
Буду—слугой, ты—царыцай.

Радасьцю, ўцехамі пад ліпак стрэхамі
Будзе нам доля ў ноч гэту,
Сэрцавы струны ўдарым каханьнем
На зайздрасьць цэламу сьвету.

Выйдзі-ж, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
Ў садзік ка мне пагуляці;
Ўжо зашло сонейка, цень лёг на гонейка,
Уецца туман сенажацяй.

## ЛЮДКА

Як Людкі ня бачу,—
Ня міла мне жыць:
І сохну, і плачу,
І сон не бяжыць!

І хатка—ня міла,
Ўрагамі—дружкі,
І сьвет—як магіла,
І ночкай—дзянькі!

Як Людку ўгледзеў,
Забыўся на ўсё!—
І плач уцёк недзе,
І раем—жыцьцё!

Хоць поўна хмар неба,—
Сьвет—яснасьць адна!
Сам сыты бяз хлеба,
Вясёлай душа!

Забыты ўсе болькі,
Што ходзяць са мной,—
Ўсё хочацца толькі
Быць з Людкай-красой...

К ружовенькім шчочкам
Губамі прыльнуць
І песьню аб Людцы
На ўвесь сьвет грымнуць!

Грымнуць,—прытуліцца
Да белых грудзей,
Упіцца—забыцца
На сьвет, на людзей!

## МАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

У дзяўчынкі, у княгіні,
Што падчас мне вочкам кіне,—
Каласісты вянок жыта—
Коска жычкаю павіта;

Пара пасымкаў мятлічкі—
Броўкі мілыя ў сястрычкі;
Дзьве пралескі—яе вочкі,
Ці два ў збожжы васілёчкі;

Яе шчочкі—роўны ў сонцы
Цьвету-рожы ля ваконца;
Яе губкі—не калінкі,—
Проста сьпелыя малінкі!

Кветка-лілія з крыніцы—
Шыйка гэтай чараўніцы;
Два букеты з незабудкі—
Маладыя яе грудкі;

Як хмялёчак небадыльны—
Стан прытульны, перахільны;
Ручкі—хто зраўняўся з імі!
Так і шчасьце не абыме;

Сэрца... Ўсюды за ім пойдзеш,
Пекла, неба—ўсё там знойдзеш...
У дзяўчынкі, у княгіні,
Што падчас мне вочкам кіне.

## ЖНЯЯ

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж сьпелых гоняў.
З каласкоў вяночак—
Моладасьці сьведка—
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.
На грудзёх шчасьлівых
Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак
Зублены, сталёвы.
Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.
Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.
А яна—царыца
Весела, шчасьліва
Карануе песьняй
Залатое жніва.
Сьмела йдзе у сонцы,
Ўся сама—як сонца,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей старонцы.

## Я ХАЦЕЎ-БЫ...

*Насьледваньне з Асныка*

Я хацеў-бы душу адшукаці такую
　　І такое хацеў-бы я сэрца знайсьці,
Што са мной праз жыцьцёвую сьцежку блудную
　　Захацела-б супольна і згодна ісьці.
Вочак пару хацеў-бы я мець прад сабою, —
　　Як у ясныя зоры, ў якія-б глядзеў
І забыўся-б, што ходзіць маркотнасьць за мною,
　　І забыўся-б, што крыўды цярплю ад людзей.
Адных губак хацеў-бы, што мне-б саладзілі
　　Пацалункамі горкую долю маю,
Што з-пад сэрца, з душы галасок-бы здабылі,
　　І ўсяму падцінալі, што ў жальбах пяю.
Я хацеў-бы знайсьці ручак беленькіх двое,
　　Што к сабе прыгарнулі-б, пясьцілі мяне,
Памаглі-б мне змагаціся з чорнай нудою,
　　А па сьмерці павекі закрылі-бы мне.
Я хацеў-бы сабе прыгалубіць дзяўчынку,
　　Маю долю-нядолю дзяліці са мной,
З сэрцам чыстым якую-б усякай часінкай
　　Я любіў-бы, туліў і служыў-бы якой.
Аднаго толькі сэрца мне трэба, хачу я,
　　І аднэй, што мяне-б зразумела, душы...
Хачу мала, так мала, а доля ня чуе:
　　Сіратой сам адзін я гібею ў глушы.

## МАЯ ЖОНКА

Не хачу я жонкі
Не з сваёй старонкі,
　　Як я—багацейшай,
　　І як я—мудрэйшай.

А вазьму такую,
К якой любасьць чую,
　　Што мяне палюбіць,
　　Як сябе самую.

Будзем з ёю жыці
І долю хваліці,
　　Весьці лад у хаце,
　　Дзетак гадаваці.

І так жыць па праве
Ў добрай будзем славе,
　　Покуль хаўтуроў нам
　　Злая сьмерць ня справе.

## ДА ДЗЯЎЧЫНКІ

Ня цурайся, дзяўчынка-галубка, мяне!
Пажалей, прыгалуб бедака-сірату:
Збудзі сэрца, збудзі,—хай навек не засьне,
Дабудзь песьню з душы, разгані цемнату.

Ня было мне пацех ад людзей, ад жыцьця,
Не заглянула сонца у хату маю,—
Віхры гналі-гулі без канца, бяз пуцьця,
Ажно долю паганую кляў я сваю...

Ой, так шоў—так зыходзіць мне год за гадком,—
А ёсьць шчасьце, ах ёсьць на бяспутнай зямлі!
Гэта шчасьце ў каханьні, ў змаганьні са злом—
Дык хадзі-ж, не ўцякай—душу, сэрца вазьмі!

Ты і я удваіх станем сьмелай ступой
Змагаць гора-бяду, паніжэньне і блуд,
Жыць, любіць і цярпець, ненаглядка, з табой
За нявольны свой край, за свой змучаны люд!

## АБНІМІ...

Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманьнем гарачым, агністым,
Дый памчымся ад краю да краю
Вольнай думкай па сьвеце цярністым.

У дзень вясёлы мы сонцам пякучым
Заіскрымся ў нябесным прасторы,
З ветрам-сокалам душы заручым,
У пушчу-лес упляцём загаворы.

Уночы сумнаю зоркаю глянем
На сады, на амшэлыя хаты;
Чары-сон навядзём заклінаньнем,
Вышлем росы брыльлянтныя ў сваты.

Узалоцімся ў сьветлыя сьлёзы,
У слёзы-іскры забраных загонаў;
Сьнегам-пухам зардзімся ў марозы,
Улетку кветкай зайграем чырвонай.

Адну песьню дзень, ночка хай грае
Нам, сіротам, на сьвеце цярністым...
Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманьнем гарачым, агністым.

## ПЕРАД НОЧКАЙ

Зьмеркла. Цёмнасьць агні пале
Ў зорак грамадзе:
Тайнасьць жудкая—гэт, здаля
Ў сьвет ідзе, ідзе.

Дагарэла ўжо лучынка,
Спачываці час!
„Добрай ночы“ сьпей, дзяўчынка,
Сьпей хоць раз, хоць раз!

Запей нотай, сэрцу блізкай
Аб долі маей,
Быццам маці над калыскай.
Ты запей, запей!

Пей пацехай, пей разгульна,
Душы ня скупі;
Мае думкі, жаль няўтульны
Ты прысьпі, прысьпі!

Сьпеўшы песьню, ўціхамоўку,
Бяз трывог ані—
На плячо мне зьвесь галоўку
І засьні, засьні!

Цемнатой нас ночка скрые
Ад злосьці людзкой;
Будзем сьніці залатыя
Сны з табой, з табой!..

## ПА ЗАХАДЗЕ...

Мой міленькі прышоў ка мне
Па захадзе ўжо сонца,
І ціха ў цёмнай цішыне
Пастукаўся ў аконца.
Заныла сэрцайка маё,
Як гэтае пачула;
Сваё зьняла я акрыцьцё
І на зямлю ступнула.
Ў кашулі вышла я на двор
Да любага з сьвятліцы,
А неба рдзела ўжо ад зор,
Шумеў лес над крыніцай.
Шлі ветры: пелі пра красу,
Хісталі стан, любыя,
І расплялі мне касу,
І ласкаталі шыю.
На прызьбе селі мы ўдваіх—
І моўчкі пaглядалі,
Як цені з хат і пунь сівых
То ніклі, то ўставалі.
Мяне к сабе ён прыціскаў,
К грудзі туліўся белай,
Глядзеў у вочы, уздыхаў,
І штось шаптаў ясьмела.
Сьляза жывая за сьлязой
З маіх зраніц сплывала,
Ў адно мяшалася з расой,
Што на пяску ляжала.
А ночка пела з бліскам зор
Нам сьмелы гымн каханьня,
Сьмяяўся, плакаў сіні бор
Да самага сьвітаньня.
І мілы вышаў ад мяне,
Адзін пашоў к пагонцы,
А ўсьлед за ім у цішыне
Ўзыходзіла ўжо сонца...

## З НЕДАЦЬВЕТАЎ

Зелянелі лагі,
Зацьвіталі сады,—
З маладою сваёй
Я спаткаўся тады.

Вецер косы яе
Расплятаў, спавіваў,
Прыпадаў да грудзей,
Калыхаў, напяваў...

Абняліся мы з ёй,
Божым сном паплылі
Ў даль да сонца ўдваіх
Па зялёнай зямлі,

Па квяцістым пуці,
Паласой залатой,
Ў даль да сонца ўдваіх
За адно з яснатой...

Пад агністай зарой,
Над сівым курганом
Заручаліся з ёй
Туманом і агнём...

Аж нязьменная ноч
Наплыла, апляла,
Непраходнай сьцяной
Паміж намі лягла:

Маладую маю
Разлучылі са мной...

. . . . . . . . . .

Так расстаўся навек
Я з сваёю вясной.

## Ці ты чуеш?..

Ці ты чуеш, дзяўчынка,
Як трасецца хацінка,
Як вятрыска скуголе,
Шум нясе нейкі з поля?

Ці, пачуўшы, пазнала,
Што ўсё гэта нагнала
Табе ў сэрца са сьвету,—
Ці адчула ўсё гэта?..

Гэта восень заводзе,
Сьлёзы лье ў непагодзе
Над табой, нада мною,
Над няшчаснай зямлёю.

Ня пужайся-ж ты крыкаў
Непагоды вялікай...
Нас бог крыўдзіць з людзямі,
Восень плача над намі.

## З ТАБОЮ...

З табою спаткаліся ў лесе:
Багун і чарнобель к нам слаўся:
Сьмяяўся пушчар, а у сьмесе
За ценем цень новы снаваўся.

За намі, прад намі снавалі
Павучныя, бледныя цені,—
Мяне у палац зазывалі,
Цябе—у сьвятыя прадсені.

Сьвятая пасьцель небасхілу
Крывавай імглой заплывала,
Пасад заручальны магілай
Пуціна сьляпая хавала.

Пуціна была, мы і тую
Згубілі, як лепей—ня знаді:
Ці маем шукаці старую,
Ці к новай блукаціся далей?

## ЗАРУЧЫНЫ

Далёкай, нялёгкай сьцяганы хадзьбой,
Пад хвойкай высокай мы селі з табой,
Як цар і царыца;
Шурпаты нясжаты сох верас ля ног,
Спаў белы сплясьнелы пад шышкамі мох
Над цёмнай крыніцай.

На сучча плятуча паўзла дзермяза,
Бліщчэла нясьмела раса, як сьляза,
На лісьцях лазовых;
Каронай зялёнай дзед-бор патрасаў,
І шумам задумам законы пісаў
У нягаданых словах.

Нам моўча, як ночай, мігцелі агні,
Падгалей міргалі абгніўшыя пні,
Як варта на стражы,
І ціха суліхай сьціскаўся, плыў цень,
За горы, за моры адходзіў наш дзень,
Мінуты ўжо важыў.

Ўжо клаўся на часе мрок сумна нямы,
І поўнач на помач, палохаці сны,
Нязначна падклікаў.
З-пад сосны выноснай ты ўстала, я ўстаў...
Над намі сукамі шум-бор рагатаў
Бяз памяці, дзіка...

## ДОЎГАЖДАНАЯ

Ты прышла ка мне тады,
Як зьвінелі халады,
    Як стагнаў яловы плот,
    Хохлік бегаў ля варот.

І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусьне;
    Паня ты была, я—пан...
    Посьле зноў зацьвіў курган.

Ад мяне пашла тады,
Падганялі халады,
    Скрыпам выў яловы плот,
    Хохлік бегаў ля варот.

## ТЫ ПРЫДЗІ...

Ты прыдзі ка мне вясною,
Кветкаю прыдзі;
Зацьвіці красой са мною,
Думку разбудзі...

Ты прыдзі ка мне улетку,
Коласам прыдзі;
Песьняй жніўнай на палетку
Думку саладзі...

Ты прыдзі ка мне зімою,
Сонейкам прыдзі;
Даўнай казкай залатою
Думку абудзі...

Ты прыдзі ка мне у восень,
Зоркаю прыдзі;
Ў сьвет далёкі з шумам сосен
Думку павядзі...

Ты прыдзі і на магілкі,
Кветкаю прыдзі;
Белай ручкай клён няхілкі
Шчыра пасадзі...

. . . . . . . . . . .

Ты прыдзі...

## НАД РАКОЮ Ў СПАКОЮ

Над ракою ў спакою
Зацьвітала каліна;
У сяле за ракою
Вырастала дзяўчына.

Да зялёнай каліны
Прылятала зязюля;
Да дзяўчыны-маліны
Удаваўся Януля.

Над ракой, дзе каліна,
Сенажаць церабілі;
У сяле, дзе хлапчына,
У паход затрубілі.

Перастала каліна
У цьвяточкі ўбірацца;
Перастала дзяўчына
З ненаглядным страчацца.

Бедавала зязюля,
Што каліны ня стала;
Бедавала матуля,
Што дзяўчына ўсыхала.

Па рацэ гналі хвалі
Ў даль галіны каліны;
Людзі ў рэчцы шукалі
Самагубкі-дзяўчыны...

Над ракою ў спакою
Зацьвіла зноў каліна,
А ў зямельцы пад ёю
Спала наша дзяўчына.

## ЯК У ПОВЕСЬЦІ

Шлях. Каля шляху лес хілкі.
Вёска, дзе лес, і магілкі;
  Ў вёсцы—з сьвятліцай хаціна,
  Ў хаце—з бабуляй дзяўчына.

Там-жа паблізку стаяла
Гэткая-ж хатка бязмала,—
  Хлопец у хаце жыў з дзедам,
  Быў тэй дзяўчыны суседам.

Звалі дзяўчыну Маланкай,
Хлопца, чуў, клікалі Янкай;
  Зналіся змалку абое,
  Зналі і сёе, і тое.

Кожны год, цёплай вясною,
Ў поле шоў Янка з сахою;
  Кужаль Маланка снавала,
  Цэўкі сукала і ткала.

Ўлетку кляпаў хлопец коску,—
Шоў луг касіць за вёску;
  Сена дзяўчына сушыла,
  Ніўку жаць потым хадзіла.

Жыта ляшыў ён у восень,
Або лучыну біў з сосен;
  Шла яна бульбу капаці,
  Ці лён часала у хаце.

Сані ён ладзіў зімою,
Ехаў ці йшоў ў лес з пілою;
  Часам яна ў лес хадзіла
  Ці на таку малаціла.

Далей, ня так ужо далей:
Янку кудысьці пазвалі,
Там пасадзілі за штосьці,
Не адпусьцілі і ў госьці.

Болей яго я ня бачыў;
Чуў, што ня вельмі там скача,—
Нешта капае, валоча,
Ждучы ўсё сонейка ўночы.

Ну, а дзяўчына?.. Э, што там!
Збаю калісь аб ёй потым...
Людзі-ж казалі, што Янка
Вельмі любіўся з Маланкай.

Ці помніш жніў, касьбы дзень шчыры,
Начлег, агонь сярод кустоў;
Палёты з выраю у вырай
Буслоў, гусей і жуpавоў?

Убор вясковы, нявыдумны,
Абычай сельскай прастаты...
Край Беларускі мірны, сумны,
Свой родны край ці помніш ты?..

## ПЕСЬНЯРУ-БЕЛАРУСУ

Пытаеш ты, якім быць трэба
Зямлі забытай песьняру?
Як у шуканьні вечным хлеба
Знайсьці ясьнейшую пару?

О, не хадзі к другім за радай,—
У пушчы сонца ня шукай!
Дабудзь з сваёй душы ўсе праўды,
Сваіх дум, сэрца запытай.

Хай сэрца сэрца не баіцца,
Душа з душою хай пяе;
На думках братніх, як на скрыпцы,
Ты песьні выгалась свае!

За родну песьню будзь ваякай,
Ня жджы заплаты ад людзей.
Пясьняр—слуга слугі усякай,
Пясьняр і цар усіх царэй!

Дзе зор гуляюць хараводы,
Зірні зухвала, бяз трывог,
Прагледзь нябесныя ўсе ходы,
Каб аж задумаўся сам бог!

Падслухай шэпты зямлі-маткі,
У скарбы ўсе яе заглянь,
Каб аж пашла весьць ва ўсе хаткі,
Як з ніў найбольшую браць дань.

Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы,
Будзі сыноў сваёй зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Нязгаслы сьветач распалі!

Глядзі—ўскалышыцца, прачнецца
Мільённы прыспаны народ,
І вокліч славы пранясецца,
Пясьнярскай славы з роду ў род.

Ты у сваім вянку цярністым
Убачыш міртавы вянок,
І важна слаўлен, песьнярыста,
На той сьвет сойдзеш, як лісток.

Памёр пясьняр.—Над белым крыжам
За годам год перабяжыць;
Няпамяць імя пяўца зьліжа.
А песьня будзе жыць і жыць!

## НАША ПЕСЬНЯ

Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песьня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя.

Хоць нуды ў табе шмат вылівана сьлязьмі,
Дума-песьня ня хітра складаная,
Але нашая ты; недруг, спробуй вазьмі!..
Ты ня можаш быць, песьня, скаванаю.

Як на небе зара ці як думка ў душы
Ня скуешся няволі ты путамі:
Ты, як той салавей, зазьвініш і ў глушы,—
Запяешся людзьмі і закутымі.

Пей-жа, песьня, дзень, ноч, песьня родная нам,
Апявай жыцьцё наша праклятае,
І зайграй ты па сэрцу хоць раз бедакам,
Навучы, як знайсьці шчасьце багатае.

Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песьня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя!..

* * *

Падсякайце тое дрэва,
Што ў корні ўсыхае;
На ўважайце таго сэрца,
Што жалю ня мае.

Страшце птушку, праз якую
Свойская загіне;
Забывайце песьню, што вам
Вораг ваш накіне.

Ой, гадуйце, падлівайце
Гай жывы, зялёны:
Сэрцу добраму давайце
Добрыя паклоны.

Паважайце тую птушку,
Што крыўды ня робе;
Ня цурайцесь роднай песьні
У шчасьці і ў жалобе.

## ПАПРОСТУ

Простым мы словам з сьветам гаворым,
Песьні аб цяжкай творым нягодзе,
З думкамі рвёмся к сонцу і зорам.
Рвёмся к свабодзе.

Простая нашых прадзедаў слава,
Хоць апаганена мудрым чужынцам;
Шлі, ідзём далей ўлева ці ўправа—
Простым гасьцінцам.

Сьвет там выдумкі хітрыя знае—
Троны, кароны, вісельні, кулі,—
Выдумаць гэта мы ў сваім краі
Неяк мінулі.

Летась нягодна, сёлета горай
Проста жылося, проста жывецца,
Красьці-ж ня пойдзем, хоць у каморы
Кожны к нам прэцца.

Нас гадавалі віхры і ночкі,
Крыўдай паілі нас ад пялёнкі—
Толькі-ж папросту мы ня йшлі ў прочкі
З роднай старонкі.

Хочам папросту, каб лепш ручыла
Нашым хацінам, нашым прыплодам,
Каб стаць раўнёю славай і сілай
Іншым народам.

Проста жывём мы, як доля лучыць,
І крывадушыць не прабавалі...
Просім папросту: кіньце нас мучыць,
Ляхі, маскалі!

## ВУЧЫСЯ...

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, раз цёмен ня будзеш.

Такая прынука, як труд і навука,
Ціж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці.

Паўнейшай адрынка, сыцейшай скацінка,
Ой, будзе—а толькі вазьміся!..
І знойдзецца ў працы аддыхі часінка,
І ў крыўду ўрагом не дасіся.

Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе...
Адно ты прачніся, вучыся, як можаш,
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Ўсе людзі значэньне пазналі вучэньня,
Адзін толькі ты ані дбаеш!
Цямней, беларусе, ад ночкі асеньній,
І шчасьце-ж такое ты маеш...

## У ВУЧЫЛІШЧА

Клумак з кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава,—
Там у школу даўным шляхам
Сыпе сельская дзятва.

Гурмам сыпе да навукі,—
Знаць ахвоту, ўвагу знаць:
Як-жа, трэба знаньня штукі
Сходаць, скеміць, пераняць!

Буквы з памяці той клеце,
Той „таблічку“ ў нос бурчыць;
Адным словам, яшчэ дзеці,
Адным словам, трэба ўчыць!

## ЁН І ЯНА

Гэткай пары на сьвеце
Роўных ім ня было:
Ён арлом мог глядзеці,
Ёй да твару ўсё шло.

Без яго ёй ня жыці,
А яму без яе,
Думка ў думку злажыці
Так умелі свае.

Не чапалі іх мукі,
І ні крыўда, ні плач,
Да ўсяго мелі рукі—
Толькі знай, толькі бач!

Слава йшла полем-борам,
І то йшла ня бы як—
Ажна цёмненькім зорам
Было зайздрасна так.

Скуль яны узяліся,
Гэта ім толькі знаць;
Да іх кожны маліўся,
Ці за іх—не згадаць!

Так жылі, многа сьцёрлі
Лет сваіх маладых;
Як жылі, так памёрлі,
Пахавалі так іх.

Так патухла іх імя,
Дый праз завід, ці што,
Не заплакаў над імі
І нідзе, і ніхто.

Толькі чулыя людзі
Ўзьнесьлі насып з зямлі,
Далі камень на грудзі,
Напіс важны далі:

„Дзьве душы бога просяць.
Каб хоць так бедным ім
На тым сьвеце жылося,
Як тут з імі жывым.

Бо жыла так прыгожа
Гэта пара адна:
Ен быў Голад-нябожа,
А Няволя—яна“.

## ПАДЫМАЙСЯ, ЎСТАВАЙ!..

Падымайся, ўставай!
Апранай капоту:
Ад двара, ад купца
Клічуць на работу.
    Падымайся, ўставай!
    Шмат ё латаць дзюрак:
    Зарос кустам дзірван,
    Трэба сотню шурак.
Падымайся, ўставай!
Умыйся сьлязою:
Кабыліну ваўкі
Кончаць за гарою.
    Падымайся, ўставай!
    Думкі патрывожы:
    Хмара йшла, разьнясла
    Твае гоні-збожжа.
Падымайся, ўставай!
Зьвяла немач сына:
Трэба ймшу закупіць,
Трэба дамавіна.
    Падымайся, ўставай!
    Ня бурчы спрасонку:
    Дружкі йшлі і зашлі,
    Просяць у карчомку.
Падымайся, ўставай!
Прапіў, выпіў—годзе!
Цэлы сьвет у вачох
Калаўротам ходзе.
    Падымайся, ўставай!..
    І на што-ж ты здаўся?
    Пацягнулі ў астрог;
    Ну, вось і даспаўся!

## МОЙ ПАГЛЯД І МЭТА

*(З прыпеўкаў тутэйшага)*

Я па закону і па веры
Ганю свой быт паміж людзей;
Жыцьцё сваё ўжо так разьмерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.
Таму я—кум, таму я—сват;
Той мне, таму штось вінен я;
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Да гаспадаркі маю клёку:
Як дзед, як прадзед, так вяду;
Штось мо' й ня так, як глянуць з боку,
Але я дзьму на ўсё ў дуду...
Кусток лазовы, ўзрэхаў рад—
Ня бачу ў гэтым грэху я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я к працы здатны і ахвочы—
З гультайствам дружбы не вяду;
На тое бог дзянёк рабочы
Даў чалавеку на раду;
Тры-ж дні якія ў тыдзень сьвят
Прасьвяткаваць магу і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Жыву з суседзьмі пасуседзку,—
Пакорны згоды я слуга;
Ня быць нікому ў воку рэдзькай
Я век стараюсь, як мага.
Які-ж „на козыр“ возьме „гад“—
Дзяржу ў руках кол ёмка я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Зладзейства—крый ты мяне божа,
Каб я зрабіў... ражон мне ў бок!
Каня-ж напасьціць чужым збожжам,
У панскім лесе сьсеч дубок,

Сянца напхаці панарад—
Яшчэ згаджуся з гэтым я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Зьдзірач, працэнтнік, ліхаімца—
У мяне такі не чалавек;
Я сам з другімі рад дзяліцца,
Але ўсё ў меру, як той лек:

Ніколі больш як „пяцьдзесят
За сто“ і ўзяць ня сьмею я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я п‘янства, п‘яніц прост ня зношу:
Іх вораг—я, яны—мае;
Калі-ж сусед мне скажа: „проша“
І чарку ставіць на стале,

Уступаю просьбам рад-ня-рад.
Што-ж?—дзьве-тры чаркі—ня хвор я...
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

На пана, жыда і на чына
Ня маю ласкі ні крыхі;
Хоць перад першым сагнуць сьпіну,
З другім гішэфцік завясьці,

А з трэцім знаць ў хабарах лад—
Не ад таго падчас і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Як людзі добрыя, навукі
Я з малку дзён пакаштаваў,
І расьпішуся бяз прынукі,
Сынка-ж у школу не даваў...
Дзед без навукі жыў лет шмат,
І сыну-ж тое дзяўблю я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Люблю чытаць я і газэты:
Як, дзе, што—ведаці люблю;
Сякі-такі толк знаю ў гэтым—
Купляць-жа—дык не прызнаю...
Сусед пазычыць яе рад,
Чытаць за „дзякуй“ ласкаў я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Знаём з расійскай, з польскай мовай;
Сваёй з гасьцьмі ані мру-мру,
Хаця ня зрокся і „вясковай“—
„Папросту“ з „простым“ гавару.
З яе-ж рабіць які парад,
За гэта дзякую ўжо я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Так па закону і па веры
Ганю свой век паміж людзей;
Жыцьцё сваё ўжо так разьмерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.
Таму я—кум, таму я—сват,
Той мне, таму штось вінен я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

## МІКІТА І ВАЛЫ

*Байка*

Ці летась ці залетась, тут ці там—
Штось мне ня ў цям,
Ляшыў Мікіта
Жыта,
І, як на злосьць, яму адну
Валы скрывілі баразну.
Вось ён і стаў (хоць добра йшлі ўсё лета)
Ім выгаварываці гэта:
„Я вас—так кажа—як магу
І сьцерагу,
Сам недасплю,
А вас кармлю:
Трасяначкай зімою,
Улетку траўкай лугавою,
Што дня вадзіцы
Даю з крыніцы,—
А вы што мне?—Бязбожна
Крыўляеце барозны,
Хоць і няможна
Ўсё такое“...
Валы пад тое:
— „Мы-б мо' і ня крыўлялі,
Каб павадоў, ярма і пуг ня зналі“.

## ДВА МУЖЫКІ І ГЛУШЭЦ

*Байка*

Неяк раз вясной
На балоце, над ракой
Глушэц на елцы засядаў
І сам з сабою талкаваў.
А ведама усім,
Што з мясам гэты птах сваім
Бывае дарагім.
Дык вось, два мужыкі-панове,
Як-бы ў змове,
Той з аднаго, а той з таго канца
Аблаву робяць на глушца.
Так падцікаюцца ўсё бліжай, бліжай—
І той, і той на птушку пальцы ліжа!
Аж так і згледзіў таго той
І, як на ліха, ў спор з сабой:
— „Куды ты лезеш, тонканогі?!—
Шапнуў Іван з свёй дарогі,
Рукі нялёгкай чалавек,
З якой слыве свой цэлы век.—
Да гэтай птушкі мне закон,
А ты, гультай, адгэтуль вон!“
— „Ня твой, а мой!—сапе пан Ежы,—
К яму мой сьлед стары, а твой, гад, сьвежы!
Я маю з прадзедаў адвеку!
Над гэтай пусткаю апеку“.
— „Ня ты, а я тут пан!—
Гукнуў ужо Іван,—
Бач, ты: абраўся *„сямідзёньнік“!*
— „А ты што лепшае, *„казёньнік?!“*
Кідаюць стрэльбы і за грудзі
Ўзяліся людзі.
І што-ж будзе?..

Глушэц на гэты іхны шум,
Што вёў так пічыра з кумам кум,
Падумаў: „Вось, так ласуны над ласунамі:
Знашлі сварыцца—
Пры чужым карытцы!..“
І... паляцеў, залопаўшы крыламі.

---

А ну, чытач, згадай канец:
Хто мужыкі, а хто такі глушэц?

## АСЁЛ І НАВУКА

*Байка*

Аслова невуцтва ня раз
Служыла дурням за паказ;—
Дык вось нарэшце узялі
Асла ў навуку аддалі.
І сталі ўчыць яго чытаць,—
Вучылі нават і пісаць.
Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў,
Што кніжкі ўсе, як сена, зьеў
І столькі ў гэтым скарыстаў,
Што горш убоістым ён стаў!..

---

Людзям ёсьць тут такі прымер
(Ёсьць людзі на быдля манер):
Хоць колькі ня вучы асла,
Аслом ён будзе да канца!..

## ІГНАТ І П'ЯЎКІ

*Байка*

Лет шмат
Таму назад
Ігнат
Гарачынёй, здаецца,
Купаўся ў рэчцы
І, як на грэх,
(Бадай што заяц,
Паганец,
Сьцежку перабег),
К аднэй з дзьвюх ног
Прынадзіў п'явак трох.
Прыпліплі, цягнуць, як мага,
Аж сохне, корчыцца нага.
Бяда! Ўжо кінуўся і сяк і так,
Заціснуўшы кулак,
Да іхняй скуры небарак,—
Яны-ж каб дбалі:
Смокчуць далей!..
„Э, годзе, кіньце ўжо даіць, сястрыцы,
Ці-ж мала вам сваёй вадзіцы?—
І сьмех, і грэх, і стыд, скажу я,
Смактаці кроў чужую!“
Так ім навучна ён талкуе,
І ў той жа час,
(Ня першы п'яўкам, відна, раз),
Пачуў адказ:
— „Мае суседкі вінаваты“,
Кіўнула з іх адна Ігнату,
Як ёсьць уся ў бліскучых латах,
І пацягнула цёплы смок,
Аж колька ў крук згібала бок.

— „Ня мне, а гэным дзьвюм крывёй
Жыць хочацца чужой“,
Пачуў ён ад другой
Таўстой, таўстой,
Ды сёрб, ад першага ямчэй,
Даць мусіў з жыліны сваей.
— „Я? я так толькі, з дабраты,
А вось за тых вазьміся ты!“
З чароду трэцяя хлюснула,
Найболей кемкага агулу,
І смагла, смагла смактанула...

---

Што далей там было,
Да байкі не дашло.
П'яўкі-ж (ой, чорт недзе рад!),
Хоць дней зышло—праходзіць шмат,
Жывуць як-бы ні ў чым, —
А толькі, як даць раду ім,
Варожа ўсё Ігнат!..

# СТРАХ

„У страха вочы вялікі“.
„Да пары жбан ваду носіць“.
(*Прыказкі*).

Ці з ласкі, ці з няласкі боскай,
Ня нашым гэта судзіць зданьнем—
Стаяла вёска бліз Лагойску
З сваёй нудой і нараканьнем.
А ў ёй жыў Юрка Данілёнак,
Як нарадзіўся—ад пялёнак.

Быў Юрка чалавек ня дрэнны,
Адно быў трохі пустамеля:
Аж так і трэскаюцца сьцены,
Як расхлюсьціцца мала-веле;
Ня раз ён з толку сам саб'ецца,
Ці праўду рэжа, ці сьмяецца.

А як крыху ён быў падпіўшы,
Свае тады не пазнавалі:
І ў поўнач з папраці расьцьвіўшай
Зрывае кветку на купальле,
І на „узьвіжаньне“ з зьвярамі
Гуляе ноч, як з сваякамі.

Няма яму ніякіх страхаў:
Шаптун, вядзьмак прад ім хавайся!
Самога чорта нёс пад пахай,
З самою ведзьмай цалаваўся!
Такі ўжо Юрка Данілёнак,
Як нарадзіўся—ад пялёнак.

Але на нашым зьменным сьвеце
Няма, бач, сталага нічога,
І салаўём падчас запеці
Ваўка прымусяць бяспутнога,—
Так наш і Юрка, як ніколі,
Зьмяніўся з часам паняволі.

Было, як помню, гэта самай
Перад вадохрышчам куцьцёю.
Вячэру зьеўшы, да Адама
Зышліся ўсе мы грамадою—
От, пры лучыне ў цёплай хатцы
Паваражыць, пазабаўляцца.

Былі старыя і малыя,
Падросткі, хлопцы і дзяўчаты;
Крычаць адны, сьмяюцца тыя,
Аж так і рвецца гоман з хаты!
І Юрка тут, і пасваёму
Прагаварыць ня дасьць нікому.

Я слухаў, слухаў, ды цярпеньня
Ня стала слухаць перахвалкаў!
Слоў колькі, вышаўшы у сені,
Шапнуў Лявону і Міхалку;
Пагаварыўшы, зноў прыходзім
І гутарку няўзнак заводзім:

— Хто (тут я к Юрку вокам кінуў)
Адважны з вас такой парою
Ў манеж схадзіць, набраць мякіны
І к нам сюды вярнуцца з ёю,—
Хаця і поўнач ужо пэўне,
І першыя ня пелі пеўні?—

Тут хлопцы жыва падхапілі:
Вось Юрка нам дакажа славы!
Ці-ж ён-бы страха не асіліў?
О, ён для дружбы, для забавы
І ў пекла, калі трэба, сходзе,—
Адважным гэта сьмех і годзе!..

Наш Юрка, хоцькі ці ня хоцькі,
Ня рад з свайго ўжо выхваляньня;
Папхнуўся ў ток той сярод ночкі,
А з ім наш сьмех і наруганьне.
Аж вось, праз нейкіх мінут дваццаць,
Мы чуем: „Гвалт! ратуйце, братцы!“

На двор мы выбеглі ўсе гурмам:
Ляціць наш Юрка, як здань, белы,
У сенцы, ў дзьверы валіць штурмам,
Як ліст ад ветру, дрыжыць цэлы;
Убег у хату, дух ня зьмене,
Як-бы у чортавай быў жмені.

Мы ўсе яго давай у хаце
Прыводзіць к ладу і спакою,
Давай сьмяліць, давай пытаці:
— Што, гавары, было з табою?—
Той, страх змагаючы авечы,
Пляце нястворaныя рэчы:

— О, Езу! божа мой вялікі,—
Ён так расказ пераплятае:
Я чуў няземскія там крыкі,
Была там сіла незямная!
З усякім страхам я пазнаўся,
А з гэткім век не спатыкаўся!..

Іду ў манеж я той Рыгораў,
Прышоў і мацаю у куце,
І думаю сабе ўжо скора
Да вас з мякінаю вярнуці;
Аж калі хапну я за нешта—
І сіл маіх прапала рэшта!..

Згубіў і памяць, і адвагу,
Дрыжу, хістаюся як колас,
І не магу, і даў-бы цягу,
А тут—бух! нейкі страшны голас:
Ні чалавечы, ні сабачы,—
Люцыпар з пекла ня іначай!

Сабраў я тут астаткі сілы,
Ды як нагамі не задыдню!
Хоць-бы схавацца да магілы,
Але ўцячы ад гэтай злыдні!
І прыляцеў к вам гэтак, брацьці,
Вы-ж прэце чорта выганяці!—

І ўсім не па сабе нам стала:
Мурашкі бегаюць па целе,—
А што, як праўды тут нямала,
І ўбіўся чорт на самым дзеле?
Але ўсе надрабляем мінай
І ў ток зьбіраемся з лучынай.

Ідзём. І Юрка дрыпе ззаду.
Прышлі. З увагай, як належа,
Давай шукаць пужалу, здраду
Па ўсіх вуглох, куткох манежа.
Аж, бач—у куце, у мякіне
Ляжыць сьвіньня, як усе сьвіньні!!!

Ўсе ў рогат! кпінкі і прытыкі
Пашлі у ход на ўсе староны.
Зух Юрка! Чорт жыў і вялікі!
Ці не пагнаць вадой сьвянцонай?..
А Юрка... Юрка з пустамелі
Стаў з часам сьмелым і на дзеле.

## Сват

(*З апавяданьня старога дзяцюка*)

Ня зьведаўшы броду,
Ня сунься ў воду.
*(Прыказка).*

„Гэй, лінь там у чарку! Вы-ж ціха быць, хлопцы!
Ты, Ганька, агню мне нашчупай у копцы.
Як лыкну, як пыкну, дый збаю ў прыпеўцы,
Як быў я малодшым, як сватаўся к дзеўцы“.
Вось гутаркай гэткай азваўся Міхалка,
Вядомы ўсім чыста манюка, брахалка.

„Зімой было гэта,—гаворыць ён далей,—
Дзянькі мясаеду прышлі, загулялі,
І ўсё загуляла: дзень будні—ндзеляй,—
Няма таго дня—вечарынкі, вясельлі.
Папіў той гарэлку, той едзе у сваты;
Бяз госьця, бяз чаркі ня знойдзеш тэй хаты.

Глядзеў я, глядзеў я,—дый вытрымаць трудна,—
А быў я натуры ня вельмі маруднай.
Сюд-тут—і гатова: ўжо еду са сватам,—
Памёр (пакой вечны!)—ўсе звалі Кандратам,—
Знаў добра, як што, да чаго ў такім разе,
Па слова ніколі ў кішэню ня лазіў.

З сабой у дарогу гарэлкі набралі,—
Шынок быў пад Гайнай, шынкар зваўся Гдаляй,—
Конь добры быў сватні, званок прычапілі,
З бутэлькі пацягнем—што значаць там мілі!..
Эх, чаркі вы, чаркі, хто з вамі задрэме?
Бяда—не бяда, акіян па калені!

— Гэй, крыкну, кіруй, сват!—Конь прэ ва ўсе ногі,
Хоць дзеўкі ня знаў я, а сват к ёй дарогі.—
Кіруй, сват!—Мінаем даліны і горы;
Ноч ясна, марозна,—і месяц, і зоры.
Званок заліваецца, сьвішча палозьзе,
Сьнег скача, конь пырхне,—тры пляшкі у возе!..

Ляцім... Вось прыехалі, вылезьлі з санак;
Сабака брахнуў, і хтось вышаў на ганак.
— А хто там?—так чуем.—Свае, кажам, людзі.
— Дык проша-ж у хату!—Сват нешта марудзе.
Ідзём. Вось і ў хаце. Лучына пылае.
Я толькі гляджу, дзе мая маладая.

З парогу сказалі, як сьлед: „...пахвалёны!"
— На векі!—сказаў гаспадар на паклоны,
І просіць садзіцца. Мы селі на лаве.
Ці гладка рэч, думаю, пойдзе аб справе?
Ня быўшы ў такіх пераплясах ніколі,
Сам неяк ня свой ды баюсь мімаволі.

Дасталі тытун, затуманілі люлькі,—
Капшук мой быў слаўны—дастаў ад бабулькі,—
І, як-бы нідзе ні аб чым і ня дбаем,
З пустога ў парожняе пераліваем:
Адны хтось маўчаць з нас, а слухаюць тыя,
Ці тыя замоўкнуць, каб чулі другія.

Прашло з поўгадзіны. Тут сват азірнуўся,
Выходзіць у сенцы, з бутэлькай вярнуўся
І гутарку аб інтарэсе заводзіць.
— Пачну, кажа, проста: круціць нам ня ўходзіць.
Прыехалі к вам мы тавар аглядаці;
Барыш на стале во, і мы ў вашай хаце!

(Вось гэтак, прымерам, па добрай ахвоце
Сваты пачынаюцца ў нашай прастоце).

Тут наш гаспадар, як ні ў чым ня бывала,
Вядзе ў сенцы нас, дзе кабыла стаяла!
— Эх, лоўкая, шэльма, і ўсё есьць ахвотне!
Няма ў бягу лепшай. Аддам за поўсотні.
Гіршонак гаенскі прыходзіў сягоньня,
Бяз торгу клаў сорак і пяць на далоні.—

Як гэта пачуў я, ўсяго аж затрэсла!
Куды тут нячыстая свата занесла?
А ён (пакой вечны!),—ня сьцяміўшы рэчы:
— Мы ў сваты прыехалі к вам, чалавеча!
Хлапец і ня бедны і добрай натуры,
Завецца Міхалка, жыве каля Жмураў...—

Я лыпнуў вачыма. Тут зноў неўспадзеўкі:
— Даруйце васпанства: няма ў мяне дзеўкі!
Усіх баб—мая баба дый гэтая кляча,
Ніхто ў мяне больш іх ня чуў і ня бачыў!
Каб лепей хто ляпнуў анучай па мордзе,
Як гэта пачуці у гэткай прыгодзе!..

Як вышаў я з хаты, як селі мы ў сані,
Як ехаў я з сватам,—хваліў як ці ганіў,—
Вы сьмейцеся самі ці лайце ад ведзем:
Мы з сватам тымчасам к другой дзеўцы едзем.
Бо трэба вам ведаць, што сват мой, Кандратка,
Ні ў чым не адступіць, хоць шло-б ня ўсё гладка.

Прыехалі. Зноў гэтак сама сустрэлі.
Сват мой падбадрыўся, мяне больш асьмеліў.
Дый мне лягчэй стала: тут бачу дзяўчыну,
Хоць дзеўка, сказаць,—адпусьці, божа, віны!..
Сват гэтага толькі ня цяміць нічога:
Яму ўсюды проста, як з моста дарога.

Гарэлка ізноў на стале загасьціла,
Пашло дзела ладам; бяседа—аж міла.
Дзяўчыну ўжо маем,—што болей нам трэба?
Дый буталь гарэлкі—к ёй хлеб і да хлеба.
Усё гэта ня кепска—па першай няўдачы,
Аж з радасці сват мой чуць-чуць не заплача!..

А я паглядаю к дзяўчыне з-за пляшкі,—
Па целе так проста і скачуць мурашкі!
Кляну ў духу жонак, сватоў усіх і дзевак...
Тут быў для мяне не канец неспадзевак!
Ня даў, знаць, бог шчасьця мне ночкаю гэтай,
Ці мо' пад такою радзіўся плянэтай...

Папіўшы гарэлку, дамоў маем ехаць;
Сват асалавеў мой, зрабіўся—як вехаць.
Ідзём... Бач, за печай сядзіць дзяцей двое:
Адно—хлапчанё, а дзяўчынка—другое.
— Чые, спытаў, гэта?—Аж дзеўка з куточка:
— Мае, мой ты мілы, сыночак і дочка...

Што-ж болей? Эх, болей... падлі там сівухі!—
Ну і наварыў-жа мне сват саладухі!
Прашло з таго часу год дваццаць бязмала,
На сьвет многа што прыбывала, ўбывала;
Жаніліся людзі, спраўлялі хрысьціны,
Мне толькі на жонку ня стала дзяўчыны...

Больш сватацца к дзеўкам мінула дурнота,
Прапала адвага, адпала ахвота"...
Так байку закончыў сваю нам Міхалка,
Вядомы ўсім чыста манюка, брахалка.
Я слухаў, сьпісаў тут і вам ахвярую,—
А ну-ж прыдзе к смаку, тады дам другую.

# ПАЛЯЎНІЧЫ І ПАРА ГАЛУБКОЎ

*Легэнда з індыйскай кнігі Магабгарата* *)

Пасьвячаю прэфэсару Б. Эпімах-Шыпіле.

Ў Магабгараце, кнізе Інд,
Якой лет тысячы тры лічым,
Такая повесьць там стаіць
Аб галубкох і паляўнічым.

I

Быў чалавек, якога ўсім
Было заняцьцем—паляваньне;
У лесе, ў полі дзень і ноч,
Як быццам ляжа там і ўстане.
За птушкай птушку ловіць ён
Са хцівасьцяй благой у змове,—
На рынак цягне прадаваць,—
Прадасьць і зноў ідзе і лове.
Пануе ў пушчы, бы ў якім
Сваім за хатай агародзе,
Ў сям'і крылатай пуд і страх
Сілом і клеткаю наводзе.
Паміж бацькоў, паміж дзяцей
Птушыных сее ён разлуку,
Ні ласкі к ім, ні жалю к ім
Ня меў, ня знаўся з іхняй мукай.
З сумленьнем дружбы не вядзе—
Да крыўд і мук яму зло сватам;
Закон багоў яму ні ў што;
З душы і сэрца вечным катам.

*) Кнігі Магабгараты—гэта адна з найстарэйшых і найвялікшых поэм сьвету. Створаны яны індыянамі болей трох тысяч год таму назад і зьмяшчаюць у сабе каля 220,000 радкоў. У Магабгараце, апрача навучальных і духоўна-моральных філёзофскіх твораў, шмат ёсьць і прыгожых поэтычных вобразаў. З іх найпрыгажэйшы „Наль і Дамаянці"—вельмі добра перакладзены на польскую мову А. Лянге. Легэнда-ж аб паляўнічым і галубкох ня ёсьць даслоўны пераклад з індыйскае мовы; я ўзяў толькі аснову гэтай аповесьці і болей-меней захаваў форму санскрыцкага вершу—„шлёкі", якой усе кнігі Магабгараты напісаны. *Я. К.*

І доўга так палюе ён,
Зьнімае так ахвяры ў клеткі,
Ажно прыпадак немалы
Спаткаў яго ў пустыні гэткі:

II

Дня аднаго ў кустох блудзіў
І лёгкага выглядваў хлеба,—
Пагоду ясную і дзень
На ноч зьмяніла бурай неба.
За хмарай хмару валакло,
А грозна, чорна, бязустанку;
Пярун ляцеў за пяруном,
Што міг—маланка за маланкай.
Ліло, як з рэшата, дажджом,
Раўняла нізкі дол з узгорам,
І лес і поле абняло,
Як пеклам, як шалёным морам.
Заціхла птушка, зьвер заныў;
Лес-хата—ўжо ня быў ім хатай...
За грэх караў зямлю, ці што,
Так грозны Сатакрата *).
А паляўнічы, хоць і мок,
Не пакідаў сваёй работы:
Галубку ўбачыў пад кустом—
За крыльле ўзяў злавіў з ахвотай.
Здабыча лёгкая была:
Галубка, выбіўшыся з сілы,
Хоць і хацела—не магла
Ляцець, чакаў яе дзе мілы.

III

Тымчасам сьціхла бура ўжо,
Але і вечар быў на сьвеце;
На небе месяц абышоў,
зоркі сталі ў небе йрдзеці.
Што тут рабіць? дамоў ісьці?—
сьці і цёмна, і далёка;
У лесе цёмным начаваць?—
небясьпечна, і нялёгка:

*) Сатакрата—стараіндыйскі бог.

Усюды сьвеціцца вада,
Вада зьліваецца з галінаў;
Нічым нідзе дастаць агню,
А тут яшчэ і рык зьвярыны...
    І голад так-жа не маўчыць:
    Пара даўно чаго паесьці...
    Нічога. Рады ўжо няма.
    Прышлося ў лесе ноч правесьці.
Пад дрэва буйнае ідзе,
Шукае ў ім сабе апоры;
У знак пакоры—галаву
Схіліў і так яму гавора:
    „О дрэва, будзь прыстаньнем мне:
    Ў сваёй з багамі мей апецы".
    Сказаў і лег на камень там,
    Пры ім галубка тут-жа ў клетцы.

IV

А гэта дзерава было
Сялібай, хатай галубковай:
Сядзіць прамоклы на ім ён
І так бядуе слова ў слова:
    „Куды загінула мая
    Галубка, вечная падружка?
    Такая страшная пара!
    Як выйдзе жывенькаю птушка?
Мо' вецер зьбіў яе куды,
Ці дождж пасек няшчаснай крыльлі,
Ці вораг бедную злавіў,
Ці пяруны на сьмерць спалілі?
    Што мне з жыцьця, калі яго
    Ня будзе ўжо з кім каратаці?
    Жыцьцё і сьвет тады—ня сьвет,
    І сам ня свой у сваёй хаце.
Палац з брыльлянтаў; сотні слуг
Хай за цябе паложаць грудзі,—
Бяз ласкі—з слугамі палац
Астрогам, пусткай вечнай будзе.

З падружкай мілаю і лес—
Як найбагатшы стане хорам...
Няма яе—няма жыцьця,
Усё—аднэй няўцехай, горам".

V

Галубка чуе галубка,
І сэрца радасьцю ёй б'ецца,—
Што гэтак помніць ён аб ёй,
Такому жалю аддаецца.
Але нядоўга шчасьце ёй
Усьмехам думкі калыхала:
Галодны тут-жа госьць ляжаў,
А гэта значыла нямала.
Ня думай, мілы, аба мне,—
Так галубку галубка кажа:—
Уперад волю споўнь багоў:
Яны пры ўсім стаяць на стражы...
Гасьця ты маеш у сябе,
Замёрз, і есьці пэўна хоча,—
Заняцца шчыра мусіш ім,
Каб не пракляў цябе і ночы".
Пачуў, стаў весел галубок,
Ад радасьці аж як ня плача.
Сьпяшыць гасьцю служыць, пытаць,
Якую той цярпіць нястачу.
„Я зьмёрз",—гавора той яму.
Галуб рад памагчы ў прыгодзе:
(Бо й дрэва ў цень хавае свой
Таго, хто нават сеч прыходзе).

VI

Гальлё сухое і лісткі
Зьбірае колькі сілы мае,
Кудысьці зьлётаў па агонь,
Разьвёў і госьця йзноў пытае.
А паляўнічы да яго:
„Дай есьць, галодны я сягоньня".
Тут бедны галубок схмурнеў:
Ня знае, дзе яду спагоне.

То-ж ён паптушаму жыве,
Жыве тым, што пашле здарэньне;
Няма запасу ў галубка.
А госьць ня можа знаць цярпеньня.
Падумаў трохі галубок
І штосьці выдумаў такое...
„Спакоен, кажа, госьцік, будзь,
І голад твой я заспакою".
Сказаўшы гэта, над агнём
Ён тройчы звольна акруціўся,
І, як маланка, як страла,
Ў агонь, як ёсьць, жыўцом зваліўся...
Ўстрос паляўнічым страх і жаль;
Дае зарок ня жыць так болей:
Спаліў прылады ўсе свае,
Галубку выпусьціў на волю.

## VII

Дый воля ўжо ёй не ў карысьць.
Сядзіць і сумненька бядуе:
„І лес, і сонца, і прастор
Мяне ня цешаць маладую.
Дружок ужо на сьвеце тым;
З кім варкаваць, як даўней, буду?
Нядолю-долю з кім дзяліць?..
Жыцьцё ўжо мне няспыннай жудай.
Пайду за ім, пайду к яму.
Прымі мяне к сабе, мой любы!
І з гэтым словам, як і ён,
Звалілася ў агонь-загубу.
Яшчэ больш паляўнічым тут
Затрэсла скруха-няціхота:
Лавіці птушкі у сіло
Навек адпала ўжо ахвота.
Пакуце здаўся за грахі:
Узьдзеў пакутны ўбор жабрачы...
Ракой ідзе—ня п'е вады,
У лесе птушкі—як ня бача.

Аж так дабрыў, дзе лес палаў...
Ўляцеў і сьледу не заставіў...
Па сьмерці ўбачыў галубкоў
Паміж сьвятых на небе ў славе.

. . . . . . . . . . . . . . .

Ўсю гэту повесьць знаем мы
Аб галубкох і паляўнічым
З Магабгараты, кнігі Інд,
Якой лет тысячы тры лічым.

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Цёплым летам на купальле,
Як ноч ляжа без граніцы,
Зводы, чары бліжай, далей
Відны ў пушчы над крыніцай.

Ля калоды на калодзе—
Ў кожным лесавым куточку,
Кветка-папараць усходзе,
Зацьвітае ў гэту ночку.

Хто захоча ў цёмнай гушчы
Пашукаці, паспытаці,
Падпільноўвае дух пушчы—
І ня дасьць нічога ўзяці.

Вось, глядзеце! Зважна, ціха
Чалавек ідзе, крадзецца;
Што за немач, што за ліха?
Ці-ж няма ўжо дзе падзецца?

Вочы кроўю наліліся,
Аб зуб зубам страх ляскоча,
Клубам гнецца, прыхіліўся:
Кветку-шчасьця цапнуць хоча.

І мармоча, як спрасоньня,
Пад шурпатымі сукамі:
„Ці-ж, як летась, і сягоньня
Мне з пустымі йсьці рукамі?

Кожны год іду сюды я,
Кожны год надзею маю,
А тут немачы нямыя
Круцяць, верцяць з боку, з краю.

Зьбіўся з толку, жыць нязмога;
Вечны голад кветкі-шчасьця,
То ад бога, то да бога
Гоніць, цісьне, як з напасьці.

Стой! Здаецца, вунь зірнула,
Як-бы зорка, як-бы сонца!
Ах, ня тое! Адвярнула!..
Гэта шышка на сасонцы“.

Ну шукаці, як шукаці!
Цемра з нетрай скача скокі,
Звод рагоча ў цёмнай гаці,
Смоўж зіркае аднавокі.

Так шукае, лазіць лазам,
Просіць, моліць, заклінае,
А дух пушчы з пушчай разам
Успамінкі ўспамінае:

„Кінь шукаць, спраўляць скавыты,
Не чапай маіх харомаў!
Я дух пушчы, дух сярдзіты,
Ня спушчу нідзе нікому!

Кветкі пільна я пільную,
На замкоў замкнёна сорак,
А дарожку даў такую:
Людзкіх костачак узгорак.

Не пачуеш нашай рады,
Будзе тое і з табою!
За цьвяточак для прынады
Ты заплаціш галавою!

Як на сьвет сьвет нарадзіўся,
Як душа засела ў целе,
Ўсе ляцелі к гэтай місе,
І ніводныя ня елі.

Пушча знае, што бароне,
Што ёй дадзена на сховы,
Крыжам ляжа на загоне,
А ня дасьць надзець аковы.

Адчапіся, адхрысьціся!
Доляй-казкай счараваны,
Ты яшчэ не дарасьціўся
Цьвет пасьцігнуці жаданы.

Бачыш, ночанька, як сажа,
Жджы лепш раніцы, ня кветкі!“
Так дух пушчы з пушчай кажа
Чалавеку напасьледкі.

А ён блудзіць, ходам ходзе
Тамка, тутка, далей, бліжай,
То скрадаецца, як злодзей,
То бярэцца плазам-крыжам,

То абыйме дрэва-елку,
То рукамі водзіць пуста,
То пагоніць з хвойкі белку,
То спужае птушку з куста.

Пад нагамі мох шапоча,
Лісьце ласіцца па твары,
Ён шукае і мармоча,
Як ня чуе чараў-мараў.

„Прэч, загіньце, ведзьмы, злыдні!
Вунь вам верас, вунь вам лычка;
Ці няўжо вам не абрыдне
Шаматаці мной, як тычкай.

Шоў я полем, сенажацяй,
Шоў гарою і далінай,
А тут кветкі не спагнаці,
Хоць хавайся ў дамавіну!

А нашто-ж мне над калыскай
Аб ёй ночка напявала?
Напявала, што ўжо блізка,
А пасьля сама схавала.

А нашто-ж мне на папары
Насьвістоўвала жалейка,
Жальма жаліла на сквары?
Аж і сьціхла, дабрадзейка!

А нашто-ж мне звонам косы
Вызванялі на прасьцягу?
Самі выгубілі росы,
Мне пакінулі боль-смагу.

А нашто-ж мне на вясельлі
Пелі, гралі, чаркі білі,
Самі сьціхлі, занямелі,
Мне ўчарашні дзень згубілі?

А нашто-ж мне на каляды
Галасілі пахаўтурну?
Самі вылеглі загладай,
Я ў жальбе снуюся бурнай.

А нашто ўсё гаварыла:
Жджы на кветку, на купальле!
З году ў год чакаю мілай,
І шукаю бліжай, далей,

Можа тамка? можа гэтта?
Пнуся, рвуся ўзад і ўперад—
І налета, ўсё налета...
Вязьнем я і кветка ў нерат.

Не трашчэце, не шасьцеце,
Сухалесы, пустацьветы!
Дайце кветку, дайце жыці,
Не чаруйце у сусьветы!

Мох, чарнобель, расхіліся!
Кветка, кветка, выглянь сьмела!
Чорнай кроўю ўвесь абліўся,
Сухажыльле зводзіць цела...

Стой! Здаецца, вунь зірнула,
Як-бы зорка, як-бы сонца...
Ах, ня тое! Адвярнула!..
— Гэта шышка на сасонцы".

І пабег, пабег па лесе,
Закруціўся дымам-пылам,
Стаў, глядзіць, на грудзі зьвесіў
Галаву над пнём пахілым.

А дух пушчы з пушчай разам
Успамінкі ўспамінае,
І так далей кажа сказам,—
Ночка слухае нямая.

„Вырві сэрца, высуш сэрца,
Запалі агнём, як сьвечку!
Не глядзі, што кроў сатрэцца,
Не паглядывай на печку!

Як ноч прыйдзе, гэта ночка,
Выйдзі з сэрцам, як з паходняй,
Ад кусточка да кусточка
Асьвяці мой хорам годне!

Так сьвяці, ня бойся мукі,
З верай вернай і надзеяй,—
Кветка прыйдзе сама ў рукі,
Толькі сэрца спапялее.

Чуеш гэта, зробіш гэтак?
Будзеш панам, слаўным князем;
А ня зробіш—сотні летак
Выць так будзеш паміж вязьзем.

Прыйдзеш, пойдзеш у нягодзе,
Віцца будзеш, як вужака,
Дзень ці ноч, ня скажаш: годзе!
Чахнуць будзеш, небарака!

Бачыш, чуеш: царства наша
Вечна, сільна, неўгамонна;
Духа пушчы не застраша
Ні сякера, ні карона.

Ня ўздымайся сухавейне,
Ня вышуківай закляцьця!
Скора поўнач, скора пеўні
У тваёй зайграюць хаце“.

Дух гамоніць, лес трасецца,
Стогнуць хвойкі і асіны,
Шум пакоцісты нясецца,
Як хто гіне або згінуў.

Чалавек маўчыць, марудзе,
Ўзад, уперад пройдзе, гляне.
Вось мінута, а штось будзе,
Можа, можа, і дастане...

Абы поўнач, як маланка,
Не змахнула цьвет закляты,—
Прахам пойдзе ўся гулянка,
Зноў год жджы на гэта сьвята!

Што?! Стаіць, глядзіць, о божа!
Кветка-папараць абходзе,
Зацьвіла, як мак, прыгожа,
Як-бы сонца на усходзе.

Схамянуўся, прэ кустамі,
Як шалёны, прэцца к кветцы;
Лес кусаецца сукамі,
А ён туж дапрэ, здаецца.

Раптам певень загалосе
Недзе ў вёсцы, ў роднай вёсцы.—
Ўсё—як сон... не засталося...
Лісьць трасецца на бярозцы.

Ні то з пуду, ні то з жалю,
Вочы трэ, глядзіць нясьмела—
Пуста, дзіка, бліжай, далей,
Толькі штосьці зашумела.

Зашумела, замуціла,
Дзікі рогат паплыў рэхам,
Думка сьніла, не дасьніла,
Паляцела з пушчай сьмехам.

Паваліўся, як сноп жыта,—
Як сноп жыта пры сасонцы.
Крык адно, як звон разьбіты:
„Дайце кветку! Дайце сонца!“

## НА ДЗЯДЫ

Хто там стогне так на ўзьмежку,
 На капцы у полі?
Як згубіўшы к долі сьцежку,
 Як ня знаўшы долі.

Ці там вецер водзіць гулі
 Так па самагубе, —
Бы сваё дзіцё матуля
 Песьціць ды галубе?

Ці над бацькаўскай магілай
 Жаліцца сіротка,
Ці сваёй шукае мілай
 Хлопец-адзінотка?

Ой, ня плача брат над братам
 На мяжы кургану,
А бядуе так душа там —
 Зьвязана, скавана.

Хто умее слухаць, можа
 Шмат пачуць чаго там;
Як прычытвае, нябожа,
 Бы Лазар пад плотам.

Ня жылося мне даўней так,
 (Льлецца гэткі голас),
Не такі мой быў палетак,
 Іншы меў ён колас.

Шла мая ў даль дзіва-сіла,
 Як-бы хвалі Нёмну;
На касе сваёй насіла
 Княжацку карону.

Ніў маіх ніхто-б ня зьмерыў,
 Ня зьлічыў сялібаў;
Мела ў пушчах многа зьвера,
 Многа ў водах рыбы.

Засядала, расьцьвітала
За гадамі годы;
Залатыя думкі ткала
З шчасьця і свабоды.

Мелі страж гранічны вехі;
Гадавала дзетак
І чакала з іх пацехі,
Як вясною з кветак.

Трох сыноў дала судзьбіна
Да майго парога,
А такія—сын у сына,
Як нідзе, ні ў кога!

Іх пясьціла, як умела,
Ласкаю вясёлай;
Красак, сонца не жалела
Я для іх, саколаў.

І расьлі яны, расьлі так,
Мае княжаняты,
На багацьце, на прыбытак,
На вось тое сьвята,

Як са мною будуць разам
Жыці, панаваці,
Славы быць жывым абразам
У людзей і ў хаце...

Бегам беглі дні і ночкі,
Леты за лятамі...
І павырасьлі сыночкі
Самі, як ня самі,

Як дубы у полі чыстым,
Як сасонкі ў боры,
Як у небе абадзістым
Тыя сьвечкі-зоры,—

Так магутны, яснасьветны
На пагляд былі ўсе,
Хоць да бою з апраметнай...
Ажна сьвет дзівіўся!

Ды ўдаліся, ой, сынкі мне
Не аднэй натуры,
Як-бы тыя ноткі ў гымне
Цішы і віхуры.

Працавітага быў першы
Складу і нагібу,
Так, здаецца, што й памершы
Усё араў, касіў-бы.

За другім была ахвота
К лежні, к панаваньню;
За чужой-бы жыў работай,
Спаў-бы да зьмярканьня.

Трэці ўсіх-бы толькі мучыў—
Склад меў быці катам.
З паганякаю на ўзруччы
К зьдзекам быў заўзятым.

Вось такой натуры, складу
Ў іх я дачакала;
На дарма, як мёд-прынаду,
Думка ў думку ткала.

Ня прышлось мне жыць на сьвеце
Ў славе і дастатку:
Загубілі родны дзеці,
Загубілі матку.

І сярэдні, і малодшы,
Родныя дзяціны,
Як мая—пашлі к салодшай
Ласцы бяз прычыны.

Ў сьвет збрылі чужы дзівіцца,
Гнуць у ёрмы шыі...
І ўтапілі ў чужаніцы
Душы маладыя.

Заставаўся толькі старшы
Гаспадарыць дома,
Бо ад тых быў гаспадаршы,
Хоць быў ў іх за лома.

Заставалася адна я,
Сын адзін са мною,
Як той путнік на расстаі,
Летам і зімою.

Сяк ці так, жылось паволі
Ў палавіне з горам—
Тым у хаце, тым на полі,
А другім за морам.

Аж дакучыла, знаць, далей
Недзе так бадзяцца,
І сынкі зьбірацца сталі,
З-задалёк вяртацца.

Як прышоў дамоў сярэдні,
Выглядаў багата,
Й не пазнаў, як зьвер пасьледні,
Ні мяне, ні брата.

Ў плуг запрог свайго браточка
Навек, да скананьня,
А мяне асеньняй ночкай
Выгнаў на бадзяньне.

Як дамоў вярнуўся меншы,
Сьвету як увідзеў,—
Аказаўся дасьціпнейшы,
Чым сярэдні, ў крыўдзе.

Над старэйшым братам ставіў
Стражы і запоры,
Цела ранамі крывавіў,
Зьдзекаваўся ў горы.

Зьдзекі далей строіць дай-жа,
Ласку з сэрца выжыў:
Суд судзіў, што я—ня я ўжо,
І расьпяў на крыжы.

Так мая краса завяла
І маёй сялібы!
Ліхата апанавала
І капцы, і скібы.

Адплацілі роднай матцы
Княжаняты-дзеці:
Відмай кінулі бадзяцца,
Сіратой гібеці.

Ходзяць, гоняць сухавеі
Праўданьку сьвятую;
Брата брат не разумее,
Брата брат катуе.

Я на гэтым на кургане
Ўсё сяджу і плачу,
Ўсё чакаю зьмілаваньня,
Дый ніскуль ня бачу.

Ці апомняцца сыночкі
У сваёй правіне?
Ці загінуць сярод ночкі,
Што і сьлед загіне?..

. . . . . . . . . . .

Стогнуць ветрам калыханы
Ліпы ды бярозы,
А ноч сее скрозь туманы
Золь, слату, як сьлёзы.

Лапацяць крыламі жудка
Кажаны, начніцы,
Як-бы суд спраўлялі тутка
Ведзьмы-чараўніцы.

А душа сама—бяз хаты,
Знаць, з вялікай мукі
То зрывае з сябе шаты,
То ў крыж зложыць рукі,

То паказвае на плечы,
То капец абойме...
Бог яго усё дарэчы
Зразумее, пойме!

Можа з іншага хто краю
Скеміў-бы сумленьне,
Што яна там вычварае
З жалю і цярпеньня.

Што нам кажа ночкай цёмнай
На мяжы ў пракляцьці,
Як „дзяды“ ў нас векапомны
Стануць адпраўляці.

## НА КУЦЬЦЮ

I

На небе зоры ўжо мігцяць,
На полі срэбны сьнег іскрыцца;
На бел-сьвет дзівы выпраўляць
Пляцецца ночка-чараўніца.

Глуш абнялася з цішынёй
І спавівае ўсё у чары,
Паўзуць і сеюць шорах свой
Старым парадкам цені-мары.

Вылазіць з цемры бледны звод,
Глядзіць сьліўнём на долы, горы,
І тут і там пускае ў ход
Свае нямыя загаворы.

І тут і тамка свой прыгон
Распасьцірае царства ночы;
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

II

Заныла ўсё, замёрла ўсё,—
Ня сьпіць адвечнае замчышча:
Там пачынаецца жыцьцё
Ў агнёх старога папялішча.

Іскрыстым, бліскатным сьвятлом
Заліты княскія сьвятліцы,
Дружына вольная кругом
Сталоў дубовых варушыцца.

Золататканы абрусы
З сталоў зьвісаюць дыванамі,
На абрусох чысьцей расы
Віно красуецца каўшамі.

Духі мінуўшчыны куцьцю
На старасьвецкі лад спраўляюць.
Даўно бываламу жыцьцю
Дары належныя складаюць.

III

На беласьнежны на пасад
Усходзіць князь, усходзіць княжна;
За імі слуг пачэсны рад
Стаіць задумліва, суважна.
Агні брыльлянтаў, як зарніц,
Зіяюць з княжацкай кароны,—
Краса б'е з князеўных зраніц,
Як бліск маланак развуглёны.
Зьвярнулі вочы ўсе ў іх бок,
Прымоўклі гоманы дружыны;
Ўсіх званых зблізку і здалёк
Саколім вокам князь акінуў.
Бярэ коўш соладка віна,
П'е за дружыну маладую,
І княжна з князем п'е да дна;
Князь гутарку павёў такую.

IV

„Адзін, адзін раз толькі ў год
Зьбірацца можна з ласкі року,
Каб год іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай.
Нас не кранулі косы зьмен:
Царым мы ў дум жывых гэйнале,
Хоць на падмурах гэтых сьцен
Другія наш пасад занялі.
Багі другія верх бяруць,
Суды вядуць над нашым краем,
Сьвяцільні-ж нашы не замруць,
Што ў сэрцах вольных расьсьвятляем.
Прашу паклікаці ганцоў
І месца даці ім па чэсьці:
Ад нашых стоптаных капцоў,
Якія нам прыносяць весьці?..“

V

Закончыў князь, махнуў рукой;
Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу,
Ідуць суважнаю ступой
І князю й княжне пакланіцца.—

А першы гэткі сьветлы быў,
Як небам сланыя прамені:
Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў
Усе усюды зводзіў цені.
А быў другі і з ног і з рук,
Як гром з жывымі пярунамі:
Ў руцэ меў стрэл жалезных пук,
І лук стальны меў за плячамі.
А трэці быў і раб і цар,
І слаб і дуж ва ўсякім дзеле,
Як вечнасьць молад быў і стар;
Меў гусьлі—на грудзёх віселі.

VI

першы князю гэткі сказ
І княжне скажа міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яшчэ ўсе жывы.
А толькі ўсё той самы лад:
З вачэй ня зьняты йшчэ павязкі,
Ці йдуць уперад ці назад,
Відны сьляды цямрычнай ласкі.
А як ішоў між іх з сьвятлом,
Яны пачулі, ах, пачулі:
Сьляпым замораныя сном
Худыя рукі ў высь цягнулі.
За мною ўсьцяж, і тут і там,
Іх вусны бледныя шапталі:
Аддайце сонца наша нам!
Нашто схавалі-расхапалі?“

VII

Другі за першым князю сказ
І княжне скажа міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яны ўсе жывы.
А топчуць толькі ўсё той сьлед,
Валочаць ёрмы за сабою;
Ці ўбачаць корч, ці ўбачаць сьвет,
Аднэю жаляцца сьлязою.

А як чапнуў стралой аб лук,
Яны скрануліся ў прасоньні,
І столькі, столькі крэпкіх рук
К маёй паціснулася броні.

За мною ўсьцяж, і тут і там,
Іх вусны бедныя шапталі:
Аддайце славу нашу нам!
Нашто схавалі-расхапалі?"

VIII

І трэці князю гэткі сказ
І княжне скажа міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яны ўсе жывы.

А толькі торг усё ідзе
Над іх душою патаптанай;
Яны, як цені, ў грамадзе
Маўчаць і йдуць на пір паганы.

А як я ўдарыў па струне,
Замітусіліся, як пчолы,
І на гарэ і нізіне
Мне падавалі голас кволы.

За мною ўсьцяж, і тут і там,
Іх вусны бедныя шапталі:
Аддайце песьню нашу нам!
Нашто схавалі-расхапалі?"

IX

Сказаўшы так, маўчаць ганцы,
Маўчыць і князь крыху часіны,
І дасьць адказ такі ў канцы
Ганцом на іхныя навіны:

„Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песьні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам на прадвесьні.

Сваёй забранай старане,
Скаванай мучальніцы-княжне,
Ўзьнясуць пасад на кургане
На панаваньне недасяжне.

На дзеле—кожны йшчэ слугой,
У думках—вольныя ўжо людзі;
Над сэрцам іх, над іх душой
Наш дух лунаці вечна будзе.

X

Вы, другі верныя, ганцы,
Як летась, сёлета, налета
Ўсе пагранічныя капцы
Абходзьце зноў з маім прыветам.

Гусьлямі, лукам і сьвятлом
Будзеце, клічце і сьвяцеце,
І так спануйце іхнім сном,
Каб сон іх шчэз і ўсталі жыці.

А покуль поўнач ня прышла,
Вясьці бяседу будзем далей;
Засядзьце ўсе кругом стала,
Хай зазьвініць віно ў крышталі.

А чарку першую ўзьнясём
За цень мінуўшчыны у сеці,
Другой к цяпершчыне прап'ём,
Праславім будучыну трэцяй".

XI

Садзіцца княжна, князь, кругом
Садзіцца вольная дружына;
Шуміць бяседа за сталом,
Плыве часіна за часінай.

І разгараецца ясьней
Паходня радасьці забытай,
І сьветазарнасьцяй сваей
Вясёлкі сее самавіты.

Ямчэй нацягваецца лук,
Цэль расьсякаюць агнястрэлы,
Дрыжыць паўчына і павук,
Дрыжыць прыблудак ачарнелы.

Ракочуць гусьлі звон-у-звон,
На бел-сьвет розгалас нясецца,
Як бел-сьвет, коціцца разгон
І ў думцы казкай раздаецца.

## XII

Плыве шумліва, як рака,
Бяседа вольная такая,
А ўжо нявідзіма рука
На небе поўнач адзначае.

Залопаў крыльлямі пятух,—
І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы;
Замоўк разгул, агонь патух,
Старое згасла папялішча.

На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў,
Пуціну заяц перамерыў...
А быў тут хто або ня быў,—
І так і гэтак мала веры.

І так і гэтак свой прыгон
Распасьцірае царства ночы:
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

## ЗАБЫТАЯ СКРЫПКА

I

Доўга пад трамай ляжала
Сьцішна ў вясковым жыцьці,
Доўга ляжала, чакала
Скрыпка адна ў забыцьці.
Колькі йшло лет за лятамі,
Колькі йшло, сходзіла сіл!—
Скрыпка драмала. Пластамі
Клаўся і рос на ёй пыл.
Потам залітыя вочы
Гэткі ня мог сьлязіць глум,
Пальцу мазольнаму ўночы
Страшна крануць было струн.
Доўга чакае і сьмягне,
Покі хто з сэрцам такі
Скрыпчыны струны нацягне,
Гэткай чакае рукі!..

II

Шоў вёскай тэй падарожны,
Чэзла дзе струньніца так,
Шоў і ў хаціну трывожна
Сьмеліцца стукнуць бядак.
Зважна дамок адчыніўся,
Просіць гасьціць гаспадар...
Скрыпка пад трамай... зьдзівіўся...
(Быў падарожны—пясьняр).
Цягне скрыпулю з-пад трамы,
Пыл абмятае палой,—
Струны заенчылі самі,
Жаляцца самі сабой.
Льлюцца пясьнярскія словы,
З дошкай ліповай пяюць;
Зьвесіўшы людзі галовы,
Слухаюць, думкі снуюць.

III

„Доўга шукаў цябе, скрыпка“,
Гэткая песьня плыве,
„Быў без вадзіцы я, рыбка,
Ягадка ў буйнай траве.
Рвалася сэрца і думы
Гэт, да нязгадных сьвятліц,
Клікалі хвойныя шумы,
Клікалі шэпты крыніц!
Клікалі... Поўніліся грудзі,
Смуткам надзей і трывог...
Шоў між людзямі ў вадлюдзьдзі,
Што мог, і то ўжо ня мог!
Вёску мінаў я за вёскай,
Плёўся праз выдмы, кусты;
Трэ' было, трэ' было свойскай,
Музыкі свойскай, як ты.

IV

Слаўся, сьвятая здабыча!
Пан я сягоньня ўсіх ніў!
Песень маіх не паліча
Той аж, хто зоры зьлічыў!
Птушкаю з выраю буду,
Пеці зязюлькай пачну
Радаўніц жалямі люду
Ў вочы цікава зірну!
Громаў, маланак ахвотна
Буду і цар і пастух,
Лягу расіцай вільготнай,
Выш'ю вясёлкавы круг!
Дзівамі кветкі купальскай
Кожную зваблю душу;
Буду няласкай і ласкай,
Богаў фальшывых скрышу!

V

Прыдзе „узьвіжаньне“—стану
Ў лесе парадак вясьці:
У думкі жывіне ўсёй гляну,
Буду ўсёй пушчай трасьці.

Ночкай асеньняй засяду
За стол спраўляці „дзяды“;
*З тым* сьветам буду мець раду,
Ўспомню магілкі тады.
Вымкну зноў птушкай на вырай;
Сьвет не захоча ўжо спаць:
Будзе праводзіць ён шчыра,
Будзе ён шчыра чакаць.
Грай-жа ты, скрыпка жывая,
Кожнай расходзься струной!
Хто мае сэрца? хто мае?!
„Гэй-жа за мною, са мной!

VI

Я пакажу ўсе вам чары—
Чары ўсе неба, зямлі,—
Шчасьця другога пажары,
Дзе-б вы сагрэцца маглі.
Праўду ў лад новы настрою,
Новыя песьні зложу...
Гэй-жа за мною, са мною!
К сонейку шлях пакажу!..“
Так прызывае-галосе
Скрыпка ў руках песьняра.
Рэха пад неба няслося.
Днела ўжо; гасла зара.
Музыку чуюць суседзі—
Камень-бы зрушыць магла!
Сьпеў пясьняр. Глянуў, угледзіў:
Хата пустая была...

## ЗА ШТО?

I

Ой, мае вы песьні,
Песьні весялушкі!
Будзьце мне слухмяны
Вы, мае пяюшкі.

Ці я сам у полі,
Ці я дзе з людзямі:
Цяжка мне, ня лёгка,
Калі я ня з вамі.

Мусіць я памёр-бы,
Каб мне вас ня стала;
Мусіць паваліўся-б,
Як бярно-павала.

Дык-жа будзем жыці
Разам днём ці ночай,
Пакуль сэрца б'ецца,
Пакуль плачуць вочы!

Гаварэце, думкі,
Пакуль сонца ходзе,
Аб маёй старонцы,
Аб маім народзе.

Хай нясецца жальба
Там, гэй, на прывольле
Аб тэй нашай крыўдзе,
Аб тэй горкай долі!

Можа хто пачуе
Розгалас прастачы,
Ўстане і прагляне,
Ўсю няпраўду ўбача.

II

У вадным куточку
Беларусі нашай
Пры узгорку леса,
Пры лагчынцы пашы

Між кустоў, спрадлетаў
На пустым дзірване,
Пасяліўся Юрка,
Дзягель па празваньні.

Туга йдзе спачатку
На такім загоне:
Ані тых будынкаў,
Ні ўзараных гоняў.

І наш Дзягель часта
Са сваёй сям'ёю
Зьліўся, як за грошы,
Потам ды сьлязою.

Год за годам сходзіць,
Бачаць гаспадары:
Юрка арэ, сее,
Цярэбіць гушчары;

Чынш двару заплаціць
Талакой, грашыма,
І жыве так, як-бы
У бога за плячыма.

Зацьвілі загоны
Усялякім збожжам;
Як палацам, хатай
Пахваліцца можа.

Эй, бо што мужыцка
Праца не падоле?
Дзірваны ў сад зьменіць,
А горы—на поле!

III

Сорак год так Дзягель
Жыў ня ў кепскім стане,
Пакуль пан стары жыў
І старая пані.

Але, як той кажа,
Усё ў нас ня вечна:
Годзе Юрку жыці
З хлебам ды бясьпечна!

Новы пан прыехаў
І зьмяніў парадкі:
Загадалі Юрцы
Выбірацца з хаткі.

А ці-ж лёгка гэта?
Дый хто з вас ня знае,
Як наш брат к зямельцы
Быццам прырастае.

З дзеда і на ўнука
Гэта пераходзіць,
Хаця тое поле
Родзіць ці ня родзіць.

Бедны Юрка, бедны!
Зьвяў як-бы націна.
Шкода стольки працы,
Страшна цяганіна!

І пашоў ён рады
Па судох шукаці;
І прапаў спакой з ёй,
Прапала багацьце.

IV

Год, другі праходзіць,
Суд ідзе па судзе;
Юрка ўсё бяднее,
Багацеюць людзі.

Дзе той спрыт падзеўся,
Дзе тое здароўе?
У хаце непарадкі,
Проста безгалоўе.

Тут-жа суд апошні
І пастанаўленьне:
Заплаціць расходы—
І на высяленьне!

А было ўжо лета
На зямлі шырокай;
Сёмуха мінула,
Пётра недалёка;

Дабрыцо красуе,
Траўка зелянее.
Юрка кіне вокам—
Так і абамлее:

Ўся яго работа
Каля маткі-нівы
Пойдзе, як у процьму,
Марна, нешчасьліва.

Дарма ён і к пану,
І к усякім членам—
Б'е паклон нізенькі
гэтым, і гэным:

Станавы прыехаў
Выкідаць астаткі
З яго роднай ніўкі,
З яго роднай хаткі...

V

Сьпета Юркі песьня,
Ўсё пашло па сьвеце.
Жонка у пясочку,
Людзям служаць дзеці.

Сам ужо да працы
Стар і слабаваты,
З торбамі папхнуўся
Ад хаты да хаты.

Пусткаю зірнула
У яго прысельлі:
Ні плужок, ні збожжа
Вока не вяселіць;

Зноў зрастаюць гоні
Лазіною дзікай,
Зайцаў там ды соваў
Толькі чутны клікі.

Так зьвярцелась прахам
Доля чалавека,
Так усё ідзе ў нас
Ад веку да веку.

Можа хто ня верыць
Гэтай песьні сьлёзаў?
Дык паслухай толькі
Гоману бярозаў;

Што крыжы гавораць
Пры пуціне кажнай,
Ды званы на вежы,
Што гудзяць так важна;

А яны раскажуць
Аб маёй старонцы,
На якую глянуць
Страшна нават сонцу...

## У ШЫНКУ

Што заснуў там, шынкар? Гэй, сякі ты, такі!
На стол чаркі! П'юць, знай, не здарма бедакі.
Ня нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб ня чуць і ня знаць!

Ты, музыка, настрой нам скрыпулю сваю,
Я пад звон гулкіх струн аджыву, запяю!
Толькі рэж—не жалей, агнісьцей, весялей,—
Так ад самай душы, ад збалелых грудзей!

Сірата я сягоньня—дзе гляну—вазьму.
Калісь бацьку я меў, пакой вечны яму;
Цягавіт быў, ня раз не даспаў, не даеў,
Жаль старога—ня ў час ён душой загавеў...

Дзе за вёскай пуціны ідуць накрыж дзьве,
Там гурбок ты убачыш у цёмнай траве;
Там бярозка, пасаджана мною, шуміць,
Салавейка вясной там сьпяваці ляціць...

...Свой напеў галасіла прадвесьне людзям,
Крутавата на вёсцы прыходзілась нам:
Тым няхват хлеба, корму,—падаткі другім
І той сон і спакой аднімалі зусім.

І стары мой у гэтым ані не адстаў:
Ледзь хадзіў, уздыхаў, штось пад нос барматаў.
Што рабіць? Ёсьць Красулька—жывёлка адна,
Трэба ў горад, на торг,—няма рады, бяда!

Сьлязіну-гарчыню абмахнуў рукавом,
За вяроўку, за цёлку, ды марш пехатом.
Толькі робіцца цёмна ў вачох бедаку:
І чаму-ж так усё ня ручыць мужыку?

Вось і горад. Красульку таргуюць,—прадаў,
Барыш лоўкі папіў, грошы добра схаваў,
Машыруе дамоў, падпявае з нуды,—
Хоць на час адкупіцца ёсьць чым ад бяды.

Многа зьвера у пушчы у цёмнай снуе,
Болей злыдняў між намі ё, людзі мае!
Многа сьцежак-дарожак ля нас лягло тут,
Толькі з іх мужыку—адны мукі і блуд...

Ужо ладна за горад стары адышоў,
Тут за пазуху зірк: што схаваў—не знашоў!
Ні кароўкі, ні грошы няма ўжо, няма...
Не бяда: дзяга ёсьць, ёсьць пацеха адна!

Мы з дарогі чакаем—і маці і я;
Дзень, другі ня відаць, ажно трэцяга дня
Слых пашоў па сяле, што ў лясочку пятлёй
Хтось закончыў жыцьцё—гэта быў... гэта мой...

Гэй, што сьпіш там, шынкар? Гэй, сякі ты, такі!
Болей водкі! П'юць, знай, не здарма бедакі!
Ня нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб ня чуць і ня знаць!..

## У ПІЛІПАЎКУ

... Помню, ў „пілiпаўку“ гэта было.
Ой, спаганяў сьнег ахвоту!
Долы, дарогі як ёсьць занясло;
Гурбы, як горы, ля плоту.

Страшную людзі цярпелі зіму:
Дзіка мяцеліцы вылі,
З трэскам марозы гасілі ў сьцяну,
Птушак у лёце глушылі...

Ночка над вёскай. Во ў хаце аднэй
Курыцца дымна лучына.
Месьціць хацінка са жменю людзей:
Бацьку, матулю і сына.

Бацька сагнуўшысь сядзіць за сталом;
Блудны прытухлыя вочы...
Печку падпёршы схудалым плячом,
Маці пацiху хліпоча.

Далей, ля сьценкі, палочак стаіць.
Думкі бацькоў там аж млелі:
Сын іх, Сымонка, тры дні ўжо ляжыць,
Тры дні на божай пасьцелі...

З самых дзён малку Сымона свайго
Так гадавалі, пясьцілі!
Мецi на старасьць падпору з яго
Думкі супольна раілі.

Малец — як лялька, крапячы, як дуб,
Прызыў падходзіў налета,—
Высах, як шчэпка, стаў ціхі, як слуп,—
Песьня няпетая сьпета!

Тры дні назад яшчэ з бацькам яны
Шуркі у лесе стаўлялі;
Гулка гудзелі там іх тапары,
Елкі, асіны стагналі.

Вечарам, дзіва! ні стуль і ні сьсюль
Зьлёг і ляжыць, як павала;
Раілась маці ўжо многа бабуль,
Зёлак усякіх давала.

Дарма яна яму гэтак і сяк
Піць, есьць нясе аднучасьне:
Дні свае лічыць збалелы бядак,
Вось-вось часіна—загасьне.

Ўжо не чакае сямейка дабра,
Аж тут, як воляю боскай.
Доктар адзін па дарозе з двара
Ехаў, заехаў і ў вёску.

Выслухаў, выстукаў хлопца кругом,
Даў карталюшку на лекі;
Ехаць да гораду кажа бацьком,
Ехаць хутчэй да аптэкі!

„Сын здароў будзе, як рыба ў вадзе,
Толькі лякарства прывозьце!“—
Кінуў старым так і з хаты ідзе,
Дый толькі бачылі ў вёсцы...

Мілі-ж тры ў горад; тры мілі—ня сьмех!
Конік худы—прыстаць можа;
Тут яшчэ гэты нязьмераны сьнег,
Ды ночка пусткай трывожа...

Трудная рада: да раньня чакаць
Хвораму лекаў прышлося,
Бацька во сеў над сталом—ня йдзе спаць,
Маці над сынам галосе.

Ноч на аддых—адзін міг мужыку,
Годам зыходзе—ў няшчасьці.
Шмат іх даўжэнькіх, ой шмат на вяку,
Як-жа к сьвятлу тут папасьці?..

Час бег... Апошняя стухла зара.
Неба бялее на ўсходзе.
Ну, Сьцёпка! Ехаці час і пара!
Годзе маркоціцца, годзе!

З гораду лекаў ты шмат навязеш,
Сын твой, як бачыш, устане!
Сільнай рукой пакіруе лямеш,
Сьвісьне касой на сьвітаньні!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Выехаў Сьцёпка. Чуць-чуць стала днець.
Конік малы, зацяганы.
Сыпка дарога; сьлед значан ледзь-ледзь.
Дзень хмураваты, вятраны...

Ехаў, даехаў Сьцяпан наканец,
Грош апасьледні пакінуў,
Лекаў набраў і гайда маладзец!
Валіць дамоў, бедачына.

Валіць... Піліпаўкай, ведама ўсім,
Дню лік—гадзіна, ня болей.
Выехаў з гораду—цёмна зусім,
З конікам сам ён у полі.

З поўначы сівер наскочыў сухі,
Сьнегам стаў кідаць зласьліва;
Шум ад завеі панёсься глухі,
Пеклам і неба і ніва...

Конік Сьцяпанаў нага за нагой
Пхнецца ў сьнягу па калені;
Пройдзе і стане, трасе галавой;
Пугу што раз чуе меней.

Пхнуўся, цягнуўся,—нарэшце як стаў,
Далей ні кроку—трасецца.
Як яго Сьцёпка ні гнаў-паганяў,
Хоць ты забі—ані з месца!

Шорах па целе Сьцяпана пашоў.
Страшныя родзяцца думы.
Шмат яшчэ вёрстаў дабрацца дамоў.
Грозяць сьняжаныя шумы.

Што тут рабіць? Конь ня хоча вязьці,
Дома сын лекаў чакае...
Кінуць каня? Пехатоюісьці?
Жаль, ды і ночка-ж такая!

Ўсё-ж сын мілей!—Лезе з санак Сьцяпан,
Крыжам дарогу зазначыў;
Цяжка на сэрцы, у вочах туман,
Боскага сьвету ня ўбачыш...

„Будзь здароў, косю! Хоць жаль мне цябе,—
Хворы Сымонка чакае!“
Так шапнуў Сьцёпка—і ў поле брыдзе,
Ў гурбах чуць ногі зьмяняе...

Шоў ён, шоў дружна, а дзе і куды,
Зьбіўся і сам тут ня ведаў;
Сілы слабелі ад хуткай хады;
Думкі аб сыне йшлі сьледам.

Сьцісьне лякарства за пазухай ён,
Шэпча малітву да бога,
І, хоць ня першы раз гэткі нагон,
Крадзецца ў сэрцы трывога:

Што, калі зьняў абрыдны яго блуд?
Як тады выйсьці у вёску?
„Сядзь, адпачні!“ штось яму шэпча тут,
„Вось дзе, пад гэту бярозку!“

„Праўда“,—падумаў,—„пара аддыхнуць,
Многа прашоў ты, нябожа!“
Сеў і мацуецца, каб не заснуць,—
Ведаў, што стацца тут можа...

Зьвіўся клубочкам і ціха сядзіць;
Лёгкасьць на сэрцы такая...
Толькі мяцеліца вые, шуміць,
Песьні яму напявае:

„Сьпі мой Сьцяпанка, дзіцятка маё,
Я тут тваёю ўжо паняй!
Гэткай пасьцелі ня меў за жыцьцё,
Ў гэткай—і конь твой і сані.

Сына сьпяшыш ты, сьляпы, ратаваць?
Ну, і нашто-ж гэтак рвацца?
Лёгка-ж табе было век гараваць,
З мачыхай-доляй змагацца?

Я ашчасьліўлю, мой братка, цябе,
Ўбачышся быццам у небе;
Гора бяда не падойдзе к табе,
Думаць ня трэба аб хлебе.

Сьпі! Знаю, крыўды ня раз зазнаў ты,
Братам ня быў між братамі.
Я пашкадую цябе, сіраты,
Буду галубіць сьнягамі...

Меў-жа прыпынак ты зносны калі,
Гонячы быт свой цыганскі?
Я з гулкай песьняй: „ай, люлі-люлі!“
Спраўлю начлег табе панскі.

Скончу я песеньку-байку сваю,
Зоры пачнуць усьміхацца,
Будуць глядзець на спакойнасьць тваю,
Будуць табой уцяшацца!..“

Гэтак над сонным завея пяе,
Гэтак яго калыхала;
І, што-ж вы скажаце, людзі мае?—
Сьцёпку навекі прыспала.

. . . . . . . . . . . . . . .

Зьбегла па гэтым дзён нешта са тры,
Тры дні—а шмат даказалі:
Ў Сьцёпкавай хаце удвух сталяры
Дзьве дамавіны зьбівалі.

З іх адну зьбілі для костак старых,
Сына ў другую зглажылі—
І пахавалі пабожаму іх,
Родных, навекі ў магіле.

Сходзіўся ўдоўку пацешыць народ,
Братнім слаўцом адзываўся:
„Маеш адзін хоць расход і заход,
Крыжам адным абышлася!“

## ЧАТЫРЫ КРЫЖЫ

Як Лявон прашчаўся з хатай,
Як стаў ў сьвет зьбірацца.
Пакланіўся маме, тату
І прачыстай матцы.

Пакланіўся, памаліўся,
Выплеўся за вёску,
На мяжу, як сноп, зваліўся
Пад крывой бярозкай.

Паліліся самі сьлёзы,
Хоць даўно ня плакаў...
Ўстаў, пашоў, як нецьвярозы,
Далей небарака.

Смольлю вецер лез у вочы,
Хмары палівалі;
Пушча страшыла уночы,
Людзі ўдзень чапалі...

. . . . . . . . . . . . . .

Як Лявон прашчаўся з сьветам,
Як дамоў вяртаўся,—
Ні з пацехай, ні з прыветам,
Кажуць, не спаткаўся.

Ўсюды добра, дома—лепей,
Дзе гуляў дзяцінай,
Дзе ніхто цябе ня чэпе
Так, бяз дай прычыны.

Да сваёй даплёўся вёскі
І... пляцецца далей,
Дзе магілкі, дзе бярозкі
Ля крыжоў стаялі.

Тры крыжы там, небарака,
Новенькія ўбачыў...
Сеў пад імі і заплакаў—
Па сваіх, няйначай.

. . . . . . . . . . .

Першы—маткі, другі—таткі,
Трэці—Паланеі...
Ў месяц стаў яшчэ адзін крыж
На магільнай кнеі...

## ЗА ЧАРКАЙ

Ну, што сумен там ты, мой дзяцюк малады?
Давай чарку на стол,—вот і ўся тут бяда!
Кінь драмаць і ўздыхаць, уздыхні лепш тады,
Як ці жыць, ці ўміраць будзе ўжо не наўда!

Груканём, стуканём чарка ў чарку, як сьлед,—
Бач, і стане душа паланеці агнём;
Весялей і сьмялей глянуць вочы на сьвет,
Весялей і сьмялей пойдзе ўсё хадуном.

Ты бядуеш адно, што жыць кепска табе;
Плюнь на тое—што кепска, што лепей—шукай!
Як вужака, калісь і я віўся ў жальбе;
Глянь, сягоньня ўсё роўна—ці пекла, ці рай.

А было, ой было, як малінка жыцьцё:
Быў шчасьліў, песьні пеў, на ўсё птушкай глядзеў...
Калі хочаш, скажу, раскажу табе ўсё...
Дай вось чарку, ато ўжо язык прымадзеў.

Як напэўна спазнаў, дагадаўся і ты,
Праз дзяўчынку пашло, а ня лёгка пашло.
Маладыя былі, шмат было дурнаты;
Дваццаць першы мне йшоў, ёй семнаццаць было.

Пасуседзтву жыла, звалі Еўкай яе,
Да спадобы была як і мне, так і ўсім.
Ці глядзіць на цябе, ці-то песьню пяе,—
Ня было ёй раўні ні у гэтым, ні ў чым.

Падабалася мне лепш, як сам я сабе;
Неспакой мучыў днём, ночкай сон уцякаў;
Ці ішоў за сахой, ці пацеў у касьбе,—
Павідаці яе, як збаўленьня, чакаў.

Не скажу, каб мяне адганяла яна:
Ёй па сэрцы я быў, як яна для мяне.
І часіна ўцякла удваіх не адна,
І цяпер гэты час маю ў сэрцы на дне.

На кірмашы хадзіў з ёю разам ня раз,
І гасьцінцы купляў, і ў садочку гуляў;
Ненаглядку маю я галубіў падчас,
Абнімаў, цалаваў, думкі ёй асьмяляў.

А матуля мая (рай нябескі ўжо ёй)
Так любіла яе, як-бы родну дачку:
Ўсё чакала, калі назаву я *сваёй*,—
Калі Еўку сваю павяду у царкву.

Дый адна злыбяда мой сушыла папар:
Прызыў мне, як пятля, ўжо на шыі вісеў...
Брату вышлі гады, бацька жыў і ня стар,
Я сам дуж і здароў,—значыць, льготы ня меў.

Што рабіць у такім тут жыцьці, бяспуцьці—
Выйсьці цэлым з пятлі, не палезьці наўрад:
Ці жаніцца цяпер і ў салдаты ісьці,
Ці жаніцца тады, як вярнуся з салдат?..

Варажыў, разважаў сам адзін і з людзьмі:
Еўка кажа, што ёй можна гэтак і так;
Маці кажа: цяпер ажаніся вазьмі;
Бацька раіць—пасьля, бо мо‘ здарыцца ўсяк.

Адлажыў на пасьля, адлажыў на ўсяды...
Хутка восень прышла, і на прызыў у Шклоў
Татка з хаты павёз. Там пашло без бяды:
Папрашчацца дзядзькі адпусьцілі дамоў.

Мо‘ і год ня мінуў, як шынэль я надзеў,—
З дому вестку дастаў, што матуля ўмярла;
Сьлёзы хлынулі мне, прост, на сьвет не глядзеў;
Жаль яшчэ і цяпер—недакучнай была...

У паходзе былі, і прыехаць ня мог
Доўг апошні, хаўтурны, радзімай аддаць;
І пасьля, да канца маёй службы, ўжо бог
Хоць магілкі яе ня судзіў аглядаць.

Ну, аб Еўцы чаму—ты спытаеш—маўчу?
От, пісалі, што жыва, здарова, і ўсё...
Верыў гэтаму я і снаваў ўціхачу
Думкі, як гэта мы з ёй устроім жыцьцё.

Хоць далёка стаяў, а любіў, ўспамінаў,
І ахвоты ня меў да другіх да дзяўчат:
Ей аднэй пісьмы слаў і спакою ня знаў,—
Ўсё чакаў таго дня, калі пусьцяць з салдат.

Так зышло колькі год, аж нарэшце і срок
Маёй службы прышоў—адпусьцілі зусім.
Я вярнуўся, і што-ж? Э, мой мілы браток!—
Была замужам Еўка за бацькам маім.

Што прышло ў галаву за старога пайсьці—
Над адгадкай такой думак я не ламаў:
Сіратою была, а у простым жыцьці,
Хто пасватаўся перш, той і верх атрымаў.

Сам згадаеш, што я перажыў у той час,—
Колькі ў роднай хаціне паспытываў мук.
Чаму лепш не ўзяла сьмерць каторага з нас?
Хлебам хлеб ня быў мне, ўсё валілася з рук.

А яна—ўжо пры мне—ўсё хмурней з кожным днём...
Дзе шчасьлівы той сьмех, дзе вясёлы пагляд?
Часам разам няўзнак—я, яна ўздыхнём,
Ды я ў поле барджэй, а яна—ў агарод.

Так праходзілі дні ў злыбядзе, а яна—
Наша мачыха ўжо—бачу тае ў вачох;
Бацька хмур, не глядзіць і маўчыць, як сьцяна;
Ношку добрую нёс, знаць, і ён на плячох.

Год, ня болей, прашло нам такога жыцьця...
Як казалі ў сяле—нехта кінуў урок...
На душы дзьве паменшала наша сям'я:
Еўку бог к сабе ўзяў, я сюды з хаты ўцёк.

Гэтак сьпятрала мне доля-байка навек;
Хатай стаў мне шынок, а сьвет цэлы—турмой.
Змарнаваў за нішто сам сябе чалавек
Праз няўлад праўды ў нас, праз паглёд мілы той.

## ВІСЕЛЬНІК

Зоркі ня ўбачыш, імгла няпрыхільная
Сьвет спавіла непрагляднаю сеткай;
Вецер ня мрэ і, як зданьне магільнае,
Носіцца грозна па пушчах, палетках.

Лес расхадзіўся, пашумы сусьветныя
Б'юць у тахт віхравы кожнай галінай,
Стогнуць дубы і бярозы сталетнія,
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.

. . . . . . . . . . . . . .

Злыбедаў стогны і цьмы неспажытыя,
Жудаснай дзікасьці поўны бязьмеры,
Як-жа салодзіце думкі разьбітыя,
Сэрца з разьбітай надзеяй і верай!

Годзе душа маладая пакутаваць,
Шляхам заломным снаваць бескарысна,—
Страшна загадкі ўсябыту расплутываць,
Выхад з туманаў знаходзіць разблысны.

К сонцу і зорам жыцьцё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой выклікала...
Згасла ўсё лепшае, згасла, зламалася,—
Далей змагацца сілы ня стала.

Будзь-жа збаўленьнем, пятля канапляная!
Вырыхтуй сук свой, асіна-ласуха:
Хутка збагацішся ў плоднасьць нязнаную,
Слаўнаю станеш—толькі паслухай!

Ты не марудзь там, пакутнік аплучаны:
Жыва вяроўку—раз, два, і гатова!
Сьмела сунь шыю!.. Ну, вось і разлучаны
З гэтай зямлёю, з пуцінай цярнёвай.

. . . . . . . . . . . . . . .

Вырылі яму жалезнай лапатаю,
Вырылі паміж крыжовых дарогаў,
Кінулі цела—эй, цела праклятае—
Без пасьвячэньня, бяз модлаў, з трывогай.

Зводна пашлі толькі ўздохі пустынныя:
Быў чалавек—і няма чалавека;
Згінуў ня то ўжо зусім каб скацінаю—
Так сабе ўрэзаў траціціну века.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Сотні раз хмарамі неба ўзгамоніцца,
Сотні раз ніву спалошча, абсуша,—
Памяць аб вісельным век не затопіцца,
Будзе пужаці трусьлівыя душы.

З году да году, у сьвята дзядовае
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.
Песьню вятрыска пяе паграбовую...
Вісельнік блудзіць паўночнай часінай...

## КУРГАН

I

Паміж пустак, балот Беларускай зямлі,
На ўзьбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Ўдзірванелы курган векавечны.

Дуб гальлё распусьціў каранасты над ім,
Сухазельле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханьнем глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

На купальле там птушка садзіцца, пяе,
У піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Хмары неба ўсьцілалі мо' тысячу раз,
Пяруны білі з краю да краю,—
Ён стаіць—гэта памяць людзкая, паказ...
Толькі гутарка ходзіць такая.

II

На гары на крутой, на абвітай ракой,
Лет назад таму сотня ці болей,
Белы хорам стаяў, недаступнай сьцяной
Грозна, думна глядзеў на прывольле.

У нагах у яго расьсьцілаўся абшар
Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар,
Хат з сям'ёй душ падданых, пакорных.

Князь у хораме жыў, слаўны сьвету ўсяму,
Недаступны і грозны, як хорам;
Хто хацеў, не хацеў—біў паклоны яму,
Спуску, ласкі ня знаў непакорам.

Зьневажаў, катаваў ён з дружынай сваей;
Стражы князевы—ў полі і дома:
Толькі модлы расьлі небу ў сэрцах людзей,
І праклящьце расло пакрыёма.

III

Раз бяседа вялікая ў князя была:
На пасад дачку-княжну садзілі;
За сталом він заморскіх крыніца цякла,
Бегла музыка ўкруг на поўмілі.

На вясельле-разгул наплыло, як на сход,
Госьці знатных зусюль, за поўсьвету,
Гэткай гучнай бяседы ня помніў народ,
Гэткіх скарбаў, брыльлянтаў, саетаў!..

Дзень, другі ўжо грымела у князя гульня,
І музыкі і чаркі зьвінелі;
Выдумлялі забаў новых кожнага дня;
Што хацелі—ўсяго госьці мелі.

Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну
Для дружыны пацеху, забаву:
Загадаў ён пазваць гусьляра-старыну,
Гусьляра з яго ведамай славай.

IV

Акалічны народ гусьлі знаў гусьляра;
Песьня-дума за сэрца хапала;
Вакол гэтай думы дудара-званара
Казак дзіўных злажылась ня мала.

Кажуць—толькі як выйдзе і ўдарыць як ён
Па струнах з неадступнаю песьняй,—
Сон зьлятае з павек, болю цішыцца стогн,
Ня шумяць ясакары, чарэсьні;

Пушча-лес ня шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сьціхае;
Паміж вольхаў рака, як што-дзень, ня бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.

Прытаіцца да моху русалка, лясун,
Каня вечнага „піць“ не заводзіць;
Пад звон-песьню жывучых гусьляравых струн
Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць.

V

Прывяла гусьляра з яго ніўных сяліб
Дворня князева ў хорам багаты;
Пасадзіла на ганку, між клёнаў і ліп,
На цагляным парозе магната.

Нявыдумная сьвітка—убор на плячох,
Барада, як сьнег белы—такая,
Нязвычайны агонь у задумных вачох,
На каленях ляглі гусьлі-баі.

Водзіць пальцам худым па сталёвых струнах,
К песьні-музыцы ладзіцца, строе;
Водклік б'ецца ад струн па сьцюдзёных сьцянах,
Заміраючы ў сховах пакояў.

Вось настроіў, навёў тон у струнах як сьлед,
Ня зірнуўшы на гулі ні разу,
І сядзіць гэты сумны, як лунь, белы дзед
І чакае ад князя прыказу.

VI

— Што-ж маўчыш ты, гусьляр, ніў, лясоў песьня-бай,
Славай хат маіх подданых слаўны?!
Нам сягоньня зайграй, нам сваіх песень дай,—
Князь умее плаціць нязвычайна!

Запяеш падушы, дасі ўцехі гасьцям—
Поўны гусьлі насыплю дукатаў;
Не пад мысьль песьня будзе каму-небудзь нам—
Канапляную возьмеш заплату;

Знаеш славу маю, знаеш сілу маю...
— Многа знаю і чуў аб табе я,—
І я сам, як і ты, так табе запяю...
— Ну, пара пачынаць, дабрадзею!—

Гэтак слухае, выслухаў князя гусьляр.
Заіскрыліся вочы сівыя,
Патануў у скляпеньнях адзін, другі ўдар,
І заплакалі струны жывыя.

VII

„Гэй ты, князь! гэй, праслаўны на цэлы бел-сьвет!
Не такую задумаў ты думу,—
Не дае гусьляром сказу золата цьвет,
Белых хорамаў п'яныя шумы.

Скурганіў-бы душу чырванцом тваім я;
Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлом толькі роўна.

Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць,—
Ім пакорны я толькі з гусьлямі,
Сілен, княжа, караць, галаву сілен зьняць—
Ня скуеш толькі дум ланцугамі.

Славен, грозен і ты, і твой хорам-астрог,
Б'е ад сьцен цэгел лёдам зімовым;
Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,
І душу—як скляпоў гэтых сховы.

VIII

Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
Сарачні там сох бачыш, як блудзе;
А ці чуў ты, аб чым там араты пяе,
Дзе і як жывуць гэтыя людзі?

Глянь у лёхі свае, ў падзямельлі глянь, князь,
Што настроіў пад хорамам гэтым:
Брацьці корчацца там, табой кінуты ў гразь,
Чэрві точаць жывых іх, разьдзетых.

Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
Ці-ж прыгледзіўся, хорамны княжа?
Кроў на золаце гэтым людзкая блішчыць,
Кроў, якой і твая моц ня змажа.

Ты брыльлянтамі ўсыпаў атласы і шоўк—
Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
Гэта вісельні петляў разьвіты шнурок,
Гэта, княжа, твае саматканы.

IX

Стол ты ўставіў ядой, косьцяй шмат пад сталом,—
Гэта косьці бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным віном,—
Гэта—сьлёзы нядолі сірочай.

Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл,
Адшліфованы цэглы і камень,—
Гэта памяткі-пліты з няўчасных магіл,
Гэта—сэрцаў скамененых пламень.

Люба чуці табе скочнай музыкі звон:
Ты, дружына п'яцё асалоду,—
А ці ўслухаўся ты, як плыве з яе стогн,
Стогн пракляцьця табе, твайму роду?!

Ты зьбялеў, ты дрыжыш, слаўны княжа-ўладар!
Госьці хмурны, а дворня зьнямела...
Ну, што, княжа? пара даць за песьню мне дар!
Выбачай, калі сьпеў мо' няўмела.—

X

Князь стаіць, князь маўчыць, жуда, помста б'е з воч;
Гулі зглухлі: ні жартаў, ні сьмехаў...
Думаў князь, выдумляў, грымнуў шабляй наўзбоч,
Толькі з лёскатам выбегла рэха.

—Гэй ты, сонцу раўня, не на тое пазваў
На вясельле цябе сваёй княжны!..
Ты—шалёны старык! хто цябе дзе хаваў?
Ты, знаць, вырадак цемры сярмяжнай.

Ты адважыўся мне на сьляпы перакор
Вызваняці сусьветныя трэлі;
Платы маю шмат я для такіх непакор,
Хто сябе проці мне стаць асьмеліў.

Я пакнязеўску ўсім і плачу і люблю;
Ты ня хочаш дукатаў,—ня трэба!..

Ўзяці старца і гусьлі жыўцом у зямлю!
Знае хай, хто тут пан: я ці неба!—

XI

Падхапілі, ўзялі гусьляра-старыка,
Гусьлі разам яго самагуды;
Па-над бераг круты, дзе шумела рака,
Павялі, панясьлі на загубу.

Месца выбралі здатнае, вырылі дол,
Дол тры сажні шырокі, глыбокі;
Закапалі, убілі асінавы кол,
Далі насып тры сажні высокі.

Не часалі дамоўкі яму сталяры,
Не заплакалі бліжнія вочы;
Змоўклі гусьлі і ён з тэй пары—да пары;
Сум і сьціша залеглі, як ночай.

Толькі князеўскі хорам гудзеў, не маўчаў:
Шалы, музыка ў тахт рагаталі;
Не адну віна бочку князь кончыў, пачаў:
Шлюб-вясельле ўсё княжны гулялі.

XII

Пацяклі, паплылі за гадамі гады...
На гусьляравым насьпе жвіровым
Палыны узышлі, вырас дуб малады,
Зашумеў непанятлівым словам.

Лет за сотню зьвёў час, ці і болей мо' лет,
Зацьвілі перaказы ў народзе;
Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гусьлямі дзед
З кургана, як сьнег, белы выходзе.

Гусьлі строіць свае, струны звонка зьвіняць,
Жменяй водзіць па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
І на месяц глядзіць, як сам, белы.

Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той,
Не зазнаў-бы ніколі ўжо гора...
Можна тут веру даць, толькі слухаць душой...
Курганы шмат чаго нам гавораць.

## ГРАБАР

Ўжо даўно, у вялікім у горадзе
Жыў грабар, слаўны ў дзеле сваім;
Колькі жыў, адно рыў ён нябожчыкам
Долы-сховы сякім і такім.

Ці багач, ці бядак, днём ці ночаю,—
Супачынку ня знае грабар;
Ноч і дзень, як той цень, ён на могільцах
Сам з рыдлёўкай сваёй—гаспадар.

Пакуль там з дамавінаю ўладзяцца,
Змыюць цела, пакуль прыбяруць,
А ў яго ні з сяго дол і выкапан,
І ня змыліцца ў меры нічуць.

Як дамоўку спускаюць вяроўкамі...
Ажно дзіў, які важны спачын:
Глыбіня, шырыня дапасованы,
Не дагодзіць так бацьку і сын.

А засыпе зямлёй супакойніка,
Які насып удоўжкі і ўзвыш!
І дзярном-дыванам бераг высьцеле,
І з каменьчыкаў высьцеле крыж.

Доўга-коратка жыў так—няведама,
Пэўна жыў, колькі трэ' было жыць;
Але вось, як на злосьць, і абрыдала
Яму гэтак што дня ямы рыць.

Без канца неспакойства штодзеннае;
Як на варце, з рыдлёўкаю стой;
Пахаваў, насып даў небарачніку,—
Бач, другі ўжо расстаўся з душой.

Каб за раз ад усіх адкараскацца,
Вось тады-б то аддыха была!
Песьні-б пеў, не мадзеў сьвятам, буднямі;
А так—доля ня тое дала:

Мрэ адзін, а ўсё з ім не ўмяншаецца;
　　На яго месца родзіцца пяць...
Пакруціў-памуціў мазгаўніцаю
　　Той грабар і штось выдумаў, знаць.

Ён рыдлёўку сваю жалязяную
　　Кавалю пацягнуў, паказаў;
Як зьмяю, так сваю землякопніцу
　　Насталіць, натачыць прыказаў.

І давай ён тады дзіву дзіўную
　　Апраметна капаць глыбіну,
А ўсё так, ня, 'быяк, ня спыняючысь,
　　Верне брылы адну на адну.

Хто спытае: каму?—не адказвае,
　　Адно толькі ямчэй капане;
Аб нічым аб другім і ня ўздумае,
　　Думку зьвёў аб ядзе і аб сьне.

Рые тыдзень, другі: яма большыцца;
　　Ўжо кладзе за адкосам адкос;
Дол глыбок, і пясок над магілінай,
　　Як і глыб—гэтак высака ўзрос.

Ўжо к канцу далакоп падбліжаецца,
　　Ўжо работы ўсяго на паўдня;
Чуць-чуць схоў не гатоў недзе некаму...
　　Ня стрывала матуля-зямля:

Ў яму рухнула зьверху, хаваючы
　　Грабара і яго працу усю...
Але што-ж? Для каго-ж дол быў копаны?
　　. . . . . . . . . . . . . .
　　Грабар яму ўсяму рыў Жыцьцю!

# ЧАРАЎНІК

*(Забытая казка)*

## I

Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў,
Трох сыноў, што хаваў узаперці;
Шэпты-чары тварыў ён над імі на ўсходзе,—
Як жыць лепей, як лепей памерці.

Тры паказываў ім ён на сьвеце дарогі,
Тры пуціны іх долі-нядолі,
І даваў-насылаў ён сыном асьцярогі:
Што чакае у чыстым іх полі.

„А як пойдзе хто першай,—ён кажа ім гэтак,—
Што на ўсход шляхам чорным кладзецца,—
Напаткае чужацкі крывавы палетак,
І ў крывавай скупаецца рэчцы.

Той шлях першы і першая рэчка атрутай
Спояць так і за хатай і ў хаце,—
На другіх будзе строіці петлі і путы,
І сам гэтыя путы цягаці.

А як пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай,
Што на захад кладзецца вужакай,—
Свой палетак любіць стане горай чужога,
Прыпадзе к чужой рэчцы, як п‘яўка.

Той другі шлях і рэчка другая загладай
Атуманяць душу, зальлюць вочы;
Будзе сонца шукаці сабе, як прынады,—
Даць, знашоўшы, другім не захоча.

А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай,
Што сваёй ня мінае граніцы,
Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай,
Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.

Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою
Ласкай-крыўдай апутаюць грудзі...
Ён насыпе пяшчаны узгор нада мною,
І таптаці узгор гэты будзе“.

Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці—
Спадкі—цень свой на памяць аставіў...
А сыны сталі праўдзе-няпраўдзе служыці
У сваёй кожны долі і славе.

Спадабалася першаму першая сьцежка,
А другая—другому сыночку,
Ўзяўся трэці на трэцяй, як грыб-сыравежка,
Спатыкаці, праводзіці ночку.

II

Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца...
Ўжо збываюцца бацькавы словы:
Ад рукі сына першага вісельні гнуцца,
Ў зямлю йдуць маладыя галовы.

Захапіў яго похмур лядачны, крывавы,
Жалязнымі клешчамі сьціснуў;
Дзе ні ступіць—згібаюцца краскі і травы,
І пракляцьце шуміць бескарысна.

Ён і рад і ня рад, а пуцьця меней што-дзень
На тэй выбранай сьцежцы, і ные;
Ўжо адны ў вочы кідаюць—здраднік, звыродзень,
На пагібель, на звод шлюць другія.

Ня выходзіць са шляху свайго і другі сын—
Чуць ня йдзе сьледам першага брата:
Ўжо на згубу з зямлёю і з хатай запісан,
І ўсё-ж долі завідуе ката.

Засядаць, панаваць на хватаным багацьці
Ня кідае за дзьверы надзеі,
Хоць мінула даўно яго сьвята па сьвяце,
Хоць пасад свой на выдмах разьвеяў.

Загубіў сваю скуру, чужая-ж ня цешыць
Абадранай душы ў павуціне;
Проць сваіх, проць чужых крывадушыць і грэшыць,
І так вязьне, як камень у ціне.

Трэці, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны,
Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці:
Уздыхае, чакае збаўленчай дзяніны,
Не дае, што ня мае, раскрасьці.

З кволых ніў палыны быццам зводзіць, ня зводзіць,
Часам косьці зачэпіць нарогам;
Дома дрэме, сьцікаецца стульна, як злодзей;
Б'е падданчы паклон за парогам.

А сваяк і чужак строіць петлі і сеці,
Аплятае ўсё віднае ночай;
Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці,
На браточкаў зубамі скрыгоча.

Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея—
У іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце;
З ходу-выхаду выйсьці адна ў іх надзея:
Каб саміх адалеці і сьвет адалеці.

III

Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе
Важны ўзносіўся хорам-сталіца,
Чорнабожнік над ім непрагляды завесіў,
Каб нялёгка было прыступіцца.

Стуль выходзілі ветры—і шум падымалі,
Туды з неба валіліся зоры,
Там адны уставалі, другія драмалі,
Сьмерць, жыцьцё свае мелі запоры.

З зор сатканы былі недасяжныя сьцены,
Росы ўнізе ірдзелі яскрава,
А на вышках, як сон на зямлі, пераменны
Залаты месяц радасна плаваў.

Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы,
Зіхацела ў ім кожна часьціна,—

На пасадзе сядзела цьвет-ночка—царыца...
Звалі тыя і сія судзьбінай.

Векавечна ў руцэ аднэй сонца трымала,
Пяруны у другой руцэ мела:
Іншы раз ціхім сонцам зямлю абнімала,
Іншы раз пярунамі шумела.

Патрасала пасады, скідала кароны;
Тым, другім была каменем-хлебам,
Выдавала народам старыя законы,
Кіравала зямлёю і небам.

Не адзін аб ёй ведаў і разам ня ведаў,
Чуў—ня чуў аб ёй, бачыў—ня бачыў,
Кожны толькі яе падпільновываў сьледу,
Плакаў, выў, як было што іначай.

Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі
Ў самасейным паходзе сталецьцяў,
Што пранікнуць яна можа ў тайныя далі
І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.

Гэткай паняй ясьнела у хараме зорным
Цараўладнай і разам няўладнай;
Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным
К царству, к рабству вяла беспраглядна.

Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў,
Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў,—
Захацелі ў судзьбіны даведацца меры,
Як жыць лепей, памерці як лепей.

IV

Трох братоў, сваёй кожны дарогай-пуцінай
Наблудзіўшыся, выхад спаткалі:
Ім парады далі назаўсёды ў судзьбіны,
Як трымацца тых радаў, сказалі.

Першы брат ад яе меў наказ незабыты:
— Не здарма быць хацеў царам ночы,
І сваіх і чужых расьпінаў на крыжы ты;
Крыўдай праўдзе сьмяяўся у вочы.

Бачыш зоры сонца, вяселае бачыш?
З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца,
А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш,—
За табой кінуць зморы ганяцца.

Хочаш цішы прытульнай і ласкі патольнай,
Збудаваць божы быт на пакутах,—
Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны,
Не дасі—з сьвету зыдзеш у путах.

Брат другі яе мудрыя выслухаў рэчы:
— Ня туды цэлы век пёрся здуру;
На быдлячы мяняў воблік свой чалавечы,
Каб напяці гладзейшую скуру.

Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам,
Дом чужы таму будзе астрогам;
Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам,
Свой пасад таму стане бярлогам.

Вызнай, кім цябе бацька на сьвеце пакінуў,—
Стаńься тым, ды йдзі к меншаму брату...
Ня прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына,
Будзь праклящьцем яму—свайму кату.

Трэці брат ад судзьбіны наказ праслухаў:
— Сну-траве ты занадта даў веры,
І ў сябе шанаваць чалавечага духу
Не патрапіў навучыць брата-зьвера.

Ўспомні, выклічы родныя ўсе загаворы
І зводзь імі прыблудаў заломы,
Што ляглі на твае крывасейна разоры,
Што страчаеш за домам і дома.

Схову новую ладзь, больш твае скуль прыпасы-б
Не валок зводны зьмей і начніцы;
Разбудзі сам сябе і той бацькавы насып,
Што паганіць нага чужаніцы.

V

Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна,
Йдуць суважна за зьменамі зьмены,
Перамены ў сябе засявае брат кажны,
Шчасьцю ўзносяць свайму новы сьцены.

Асьвяціў сваё чорнае першы сўмленьне
Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю,
Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне,
Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.

Як сам цар-грамавік, чуе ў жылах пажары,
Сонцы-б новыя сеяў па небе,
Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары,
І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.

Гэткіх думаў сягнуць недасягнутых чынаў...
Аж сябе сам сабою распражыў:
Сонца сэрца яго растапіла, як льдзіну,
А душу спапяліла на сажу.

Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай,
Воблік крадзены кідаў загубам,
Акрыляў сам самога асілкавай славай,
Паўставаў проць хапанага клубам.

Як двўрог-маладзік, маладзеў сярод зломаў,
Вызіраў непакорай, пакорай,
На мінуўшым мінуўшыя ўзводзіў харомы,
Падпіраў кастылямі падпоры.

Прыпадаў к мёртвым краскам грудзьмі і душою,
Саграваў сэрцам лозы і шышкі,
Выцьвітаў, аж і стаў—чым быў—чорнай зямлёю,—
Зьвесьць ня зьвёў недахваткі і лішкі.

Трэці брат загаворы здымаў з папялішча,
Знаць даваў моц іх сьпячым народам;
На вялікае новых прыпеваў ігрышча
Выступаў-адступаў чараводам.

Зводам брас-сунімаў крыўдадзейнага зьмея,
Трос заломам, як сівер мятліцай;
Сховы новыя ўзносіў паміж сухавеяў
І пускаў к ім старыя крыніцы.

Ґнаў крыніцы, піў з іх і у іх затапіўся...
На былым даў былому ўзрастаці:
Склеп нямы, дзе ляжаў чараўнік, адчыніўся,—
Сьвет нанова стаў новых чакаці.

## VI

Уставаў чараўнік, што сыноў трох выводзіў
    І паказываў тры ім дарогі:
Віцца ў захадзе стаў, віўся ў чорным усходзе;
    Стаў сачыць скрозь глухія парогі.

Ў хвалях мутных шукае, к каму дзе падсесьці,
    Нагаворміі сваімі абвеяць;
Трох сыноў ён шукае, што ў чэсьці, ня ў чэсьці
    На яго месцы пошасьці сеюць.

Азірае сыноўнія спадкі ў пустошы,
    Ў быт глядзіць ад канца да пачатку;
Засыпае, ўстае на адцьвіўшай пакошы,
    Аджыўляецца ласкай прыпадку.

Барадой яго пошум, як лесам, калыша,
    Хмары звонам кладуцца на плечы,
Грамавік на грудзёх яго гібелі піша,
    Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.

Ён ідзе... Сям і там набіваецца ў госьці,
    Упіваецца ў сэрцы нямыя,
І сьцібрае на путы струхлеўшыя косьці,
    І пляцёнкі з асьлепленых шые.

За сабою валочыць патухшыя душы,
    Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы;
Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць,
    Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.

І свае і чужыя выцягвае звадай,
    Жылы белыя чорным патрэбам,
Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду
    Быць усім—і зямлёю, і небам.

Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека,
    Даць папас на магільным папасе,
І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў
    Расьцьвісьці, растапіцца ў бясчасьсі.

Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік,
Што сыноў навучаў трох калісьці,
А за ім сучыць сьледам, цянюючы, зводнік
І гайдае зялёнае лісьце.

Шапаціць тое лісьце заснуўшым палянам,—
Чуе ночка глухая, нямая:
Кожны край, што дачэсна завецца забраным,
Гэткіх казак забытых шмат знае.

## З КОНРАДА ВАЛЬЛЕНРОДА

*А. Міцкевіча*

Сто лет мінала Крыжацкай навале,
Як кроў з паўночных смактала паганаў.
Прусы ўжо шыі ў аковы згіналі
Або ўцякалі з радзімых палянаў;
Немец за ўцёкшым пускаўся ўдагонкі,
Нішчыў да самай літоўскай старонкі.

Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
З аднаго боку льсьняць стрэхі сьвятыняў,
І лесу—схову багоў—чуваць гоман;
З другога—ўбіты на ўзгорку пустыні
Крыж, знак нямецкі, рад к небу сягнуці,
Грозна пільнуе літоўскіх загонаў,
Як-бы ўсю чыста зямлю Палямона
Хацеў-бы зьверху здушыць, загарнуці.

Гэтта літоўскай сям'я маладзежы
Ў шапках бабровых, у сьвітках мядзьвежых,
З лукам праз плечы, з страламі пры боку
Снуе і сочыць за немцам здалёку;
А там—няскратна, ў збраеньні каваным
Немец сядзіць на кані асядланым,
К землям уставіў нязабраным вочы,
Стрэльбу набіў і ружанцам ляскоча.

Пільнуюць тыя і гэтыя броду.
Так Нёман, з даўнай гасьціннасьці рупны,
Сялібы лучачы братніх народаў,
Стаўся граніцай для ўсіх недаступнай,
І той мог толькі прайсьці яе сьмела,
Каму на волі жыцьцё надаела.
Адно галінка літоўскага хмелю,

Наджана топалю прускага красай,
Пнецца па вербах і цінавым зельлі,
К любаму пнецца, як з даўнага часу:
Сьлед кіне ў рэчцы вяночкам нявілым,
І на чужыне ўжо лучыцца з мілым.
Ды салавейкі пад Коўняй з дубровы
Са сваякамі гары запушчанскай
Свае літоўскія баюць размовы,
Дзеляцца спольна і дружбай і ласкай,
Як-бы граніцы ня знаючы новай.

А людзі?.. Людзі ўпіліся бітвою;
Даўная Прусаў з Літвою зажыласьць
Пашла ў няпамяць; падчас толькі міласьць
І людзей годзіць... Я знаў людзей двое...

Гэй, Нёман! Хутка к тваім сумным водам
Рынуць навалы нясьці зьніштажэньне,
І ў бераг, з вечных галоцячы ценяў,
Тапор чужынца бязьлітасна ўесца;
Стрэл салавейкаў разгоне ў гародах.
Што быту лепшага выснуюць сплёты
Парве ўсё чыста нянавісьць народаў,
Парве ўсё чыста... Каханкаў-жа сэрцы
Злучацца ў песьнях ізноў Вайдэлёты.

# ТРОХ БУДРЫСАЎ

*А. Міцкевіча*

Стары Будрыс трох сынаў, як сам ёмкіх літвінаў,
 На дзядзінец заве і гавора:
Коні з пашы вядзеце; зброю сёдлы браць з клеці!
 А спраўляцца мне жвава і скора.

З Вільні вестку мне далі, што ўжо там наказалі
 Тры вайны на тры сьвету староны:
Альгерд рускіх біць едзе, Скіргел—ляхаў-суседзяў,
 А князь Кейстут—заграбіць Тэўтоны.

Дзяцюкі вы ня зломкі, для радзімай старонкі
 На вайне пашукайце ўспамогі...
Ня йду сёлета з вамі,—знаю—трапіце самі;
 Трох вас ёсьць і тры ёсьць вам дарогі.

Вось адзін хай пасьпее за Альгердам ў Расею
 Па-над Ільмень, пад мур Навагроду;
Там—саболі і лісы, і злацістыя місы,
 І ў баяраў там грошы—як лёду.

Едзь другі да Кейстута, а ўвіхайся там крута,
 Крыжаком дай як сьледна па пятах;
Мерацъ там на асьміны брыліянты, бурштыны,
 Дарагіх шмат ксяндзоўскіх арнатаў.

Скіргел з трэцім памчыцца там, дзе Вісла бурліцца;
 Беднату там убачыш ліхую,
Але возьмеш затое узбраеньне стальное,
 І мне стуль прывязеш сынавую.

Бо дзе я ні быў толькі, спадабаў адны полькі,—
 Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы, як смоль—чорныя бровы,
 Як дзьве зоркі, так сьвецяцца вочы.

Маладым чалавекам я адтуль прад поўвекам
 Сабе вывез палячку за жонку;
Хоць яна ўжо ў магіле, я ўбываю на сіле,
 А ўсё-ж міла гляджу ў ту старонку.

Даўшы так асьцярогу, блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.
Сходзіць восень, зіма йдзе, сыны ўсё там—вайна дзе;
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.

Па сьняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Кубел—гэта, знаць,—ноша, а ў ім рускія грошы..
Не!.. Палячка—твая сынавая.

Па сьняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Мусіць, з Прусаў, мой сыну, цягнеш кубел бурштыну...
Не!.. Палячка—твая сынавая.

Па сьняжыстай дарожцы трэці нехта прэ к вёсцы,
А пад буркай вяліка здабыча.
Будрыс—што?—ня пытае, толькі госьці склікае,
На вясельле іх трэцяе кліча.

## ПАНІ ТВАРДОЎСКАЯ

*А. Міцкевіча*

П'юць, ядуць і люлькі смаляць,
Таўкатня вакол, сваволя,
Ледзь карчмы тэй не разваляць...
Хі-хі, ха-ха, гэй-жа, го-ля!

На канцы стала Твардоўскі
Сеў, падпёрся, выпнуў бруха,
І крычыць на чым сьвет боскі,
І усяк туманіць юха.

Салдату, ўдаваў што зуха,
Ўсіх ён лае, разганяе,—
Сьвіснуў шабляй каля вуха,
Ўжо з салдата зайца мае.

Старшыні, што місу з мясам
Паражніў з вялікім смакам,
Пырснуў квасам—і тымчасам
Старшыню зрабіў сабакам.

Пстрык! шаўца у нос кароткі,
Тры да лба прыткнуў краночкі,
Цмокнуў цмок, і гданьскай водкі
Са лба вытачыў поўбочкі.

Тут, як водку піў з кяліха,
У кяліху сьвіст зрабіўся;
Зірк на дно:—Гэй, што за ліха!
Ты чаго, кум, сюды ўбіўся?

На дне ў чарцы бачыць—чорцік:
Істы немец, знае ўвагу;
Пакланіўся і, як хорцік,
На падлогу дае цягу.

Скочыў, вырас на два локці,
Нос, як гачык—знаць, што нелюдзь,
І савіныя пазногці
На худых нагах віднеюць.

— А! Твардоўскі... як дуж, браце?!—
Так гаворыць і падходзе:
Ці-ж ня хочаш на‘т пазнаці
Мэфістофаля, дабродзей?

Там пад Лысаю Гарою,
Што душу нам адступаеш,
Падпісаўся ты крывёю,
А цяпер і ані дбаеш!

Надало-ж табе забыцца,
Што, як два мінуць гадочкі,
Меўся ў Рыме ты зьявіцца,
Каб цябе ўзяць за грахочкі.

Ўжо зыходзіць год і сёмы,
І кантракт далей ня служа,
А за чары ой даўно мы
Жджэм цябе у пекле, дружа.

Але хоць чакаў я леты,
Помста ўрэшце дакanaна:
Рым завецца шынок гэты...
Кладу арышт на васпана.—

Даць хацеў Твардоўскі цягу
На сказ гэтакі чартовы,
Але той злавіў за дзягу:
—А дзе, кажа, гонар слова?—

Што рабіць? чорта насьпела,
Схопе ў пекла тут, і годзе.
Дый Твардоўскі знае дзела,
І таму мазгі заводзе.

— Гэй ты, чорце! глянь ты толькі
У кантракт, дзе пункты ўвідзіш,
Што як лет мінецца столькі,
Па маю душу як прыдзеш,—

Буду права мець тры разы
Запрагчы цябе ў работу,—
Ты-ж найгоршыя прыказы
Мусіш споўніць што да-ёты.

Глянь, над карчмай маляваньне:
Конь грывясты, хвост, як вехаць;
Тут жывым няхай ён стане,
Мушу я на ім праехаць.

Біч з пяску скруці мне, бесе,
Каб каня меў чым пагнаці;
Хорам выбудуй у лесе,
Каб было дзе папасаці.

Зруб стаўляй з зярнят арэху,
Прыкажы знасіць іх раку,
Жыда пэйсамі лаць стрэху,
Места гонт—крый зернем маку.

Глянь, цьвічок такі прымерне:
Ў цаль—таўсты, даўгі—тры цалі;
Бі у кожна маку зерне
Па тры гэткія ганталі.—

Мэфістофаль духам скочыць,
Каня корміць, поіць, чысьціць,
Біч даўгі са жвіру точыць,
А ўсё жыва і агнісьце.

Сеў Твардоўскі, выпнуў жылы,
Ўзяў за повад, конь здаровы,
Знай, трымайся што ёсьць сілы,
Аж тут зірк—палац гатовы.

Так, так! выйграў, пане бісе;
Ды работа жджэ другая:
Ты скупайся ў гэтай місе—
Толькі ў ёй вада сьвятая.—

Чорт спужаўся, ўвесь сагнуўся,
Пот яго сьцюдзёны крые;
Ўсё-ж, пан кажа--слуга мусіць,—
Чорт скупаўся аж па шыю.

Потым выскачыў, як з жару,
І Твардоўскага зноў страша:
— Я цяжкую вынес кару,
Але й ты у моцы нашай.

Раз яшчэ—і будзе квіта—
Па кантракту ёсьць нагонка...
Глянь, вунь баба каля сіта,
Гэта, чорце, мая жонка.

Я на год у Бэльзабуба
За цябе жыць застануся,
А праз той час мая люба
Жыць з табой, як з мужам, мусіць.

Службу, любасьць, шанаваньне
Хай ёй вашаць прысягае,
Зломіш хоць адно заданьне—
Ўся умова прападае.—

Што той кажа, чорт пільнуе,
Вокам кідае на самку,
Быццам бачыць, быццам чуе,
І збліжаецца пад клямку.

А Твардоўскі пры ім суча,
Быццам гнецца, а ўсё бача,
Скочыў дзюркай чорт ад ключа
І дагэтуль недзе скача.

## УДАГОНКУ

(Czaty)

*А. Міцкевіча*

З-пад прысад агароду бледны ўбег ваявода
У палац свой са злосьцю й трывогай;
Дзе ў бакоўку ўход—стануў, у пасьцель жонкі глянуў,
Глянуў там—і ня ўбачыў нікога.

Ў дол патупіўшы вочы, увесь дрыжыць, штось мармоча,
Вусы тузае, думае дзіка;
Адышоў ад пасьцелі, жудка зрэнкамі стрэліў,
Казака ту-ж Навума паклікаў.

„Гэй, казача, ты, хаме! Што у садзе пры браме
Ні сабакі няма, ані стражы?!
БрацЬ мне торбу барсучу і янчарку гайдучу,
З цьвека стрэльбу цягні мне ураз-жа!"

Ўзялі зброю—і ходу!.. Падцякліся к гароду,
Дзе шпалеры альтану абселі...
На дзярновым пасадзе штось бялее у садзе:
Там сядзела кабеціна ў белі.

Броўкі ручкай адною закрывала касою,
Грудзі крыла рубком кашуліны,
А другою—памалу ад сябе адпіхала,
Што ў калень яе кленчыў, мужчыну.

Той, прыпаўшы к каленям, гаварыў ёй з цярпеньнем:
„Дык усё, што было, ўжо далёка...
Ї твае уздыханьне і тваё прывітаньне
Адкупіў ваявода гатоўкай.

Я, хоць верным быў гэтак табе столькі ўжо летак,
Ї любіць, і цярпець мушу здаля,
А ён з сэрцам каменным бразнуў золатам зьменным,—
Ты яму прадалася бяз жалю.

Ён што-вечара будзе песьціць белыя грудзі,
З табой цешыцца ў пуху лябяжым;
На маю на загубу цалаваць шчочкі, губы
Твае будзе цалункам уражым.

Я на коніку верным гэтым полем бязьмерным
Мкну сюды, за мной—холад і слоты,
Мкну вітаці ўздыханьнем—і ад'ехаць з жаданьнем:
Добрай ночкі і доўгай пяшчоты".

Усё яна йшчэ як глуха; ён ёй шэпча на вуха
Тыя жальбы ці новы закляцьці;
Аж прымлеўшы, бяз сілы ручкай грудзі адкрыла
І ў яго патанула абняцьці.

Ваявода з слугою сталі ту-ж пад вярбою,
І з-за поясу бралі набоі,—
Адсякалі зубамі, прыбівалі штамплямі
Жмені пораху й шроту удвое.

— Пане!—так казак кліча,—нейкі чорт мною смыча,
Не магу я застрэліць тэй дзеўкі:
Як свой курак адводзіў, я ўздрыгнуў бы на лёдзе,
І зьляцела сьляза да панэўкі.

— Ціха!.. Кінь, хаме, кракаць, я навучу цябе плакаць...
На, тут з порахам гданскім сакеўку;
Усып падпалу—а жыва, ногцем счысьці красіва,
Ды ў свой лоб стрэль ці ў гэтую дзеўку.

Управа... вышай... памалу... жджы майго самапалу:
Жаніха перш зьмяту назаўсёды!..—
Узьвёў казак курак, сцэліў, не чакаючы, стрэліў,
І ўгадзіў ў самы лоб ваяводы.

## ТРЫ ДАРОГІ

*М. Канапніцкай*

Ідуць тры сьцежкі з хаты
На долю і нядолю:
Ідзе адна, дзе пану
Людцы пахаюць поле;

Налева ад хаціны
Ідзе ў карчму другая,
А трэцяя—к магілкам,
Дзе брат наш спачывае...

Ад цяжкай працы, поту
Адна расіцай сьвеціць;
Хто па другой праходзіць,—
З бацькоў сьмяюцца дзеці;

Палын расьце на трэцяй,
І наспы вышай, ніжай,
І плача там бярозка,
І крыж стаіць на крыжы...

Па сьцежках гэтых ходзяць
У лапцях нашы людзі.
Гэй! хто ім сьцежку ўскажа,
Што весьці к шчасьцю будзе?..

# ВАРАЖБІТКА

*М. Канапніцкай*

Вецер коціцца па полі,
Жытні колас гнецца прытка;
Гэй, цыганка-варажбітка,
Варажы мне маю долю.

Варажы яе з чырвонай
Зоркі, што над хатай льсьніцца,
З таго шуму, што так мчыцца
Ад дубровы ад зялёнай.

Варажы з рукі яе мне
З рукі правай, мазалістай,
І з крынічкі таей чыстай,
Што бурліць так па каменьні.

Варажы мне добрым словам
З тэй вясёлкі многакветнай,
І з тэй кнігі, з тэй прасьветнай,
Што аб шчасьці кажа новым.

... Тваёй долі няма ў кнізе,
Ні ў вадзіцы, ні на небе,
Толькі ў чорным тваім хлебе,
Толькі ў сьвітцы, рванай рызе.

Ні на зорку залатую,
Ні з крыніцы шумнай, чыстай,
А з рукі тэй мазалістай
Мужыку тут варажу я.

Ой, ты будзеш, будзеш панам,
Ні то князем, ні гэтманам:
Тваё царства ўецца кругам,
Дзе ні пройдзеш толькі плугам.

Бачны будзеш ты ў чырвені,
Што з крывавым потам льлецца,
І ў тым золаце-праменьні,
Што ад коскі адаб'ецца.

Скарб ты выараш багаты
З нівы гэтай заараной:
Ĭ таляры, і дукаты,
Толькі-ж не сабе, а пану.

А шлюб возьмеш ты з царыцай,
Што жыцьцё усё з табою
Не захоча разлучыцца...
Ой, шлюб возьмеш ты з бядою.

Днём нашле сон, ночкай збудзе,
Сьцерагчы будзе парогу;
Ані з ёй табе у людзі,
Ані з ёй табе да бога!

Як вясною ўсходзяць кветкі,
Падымаюцца хмурліва,—
Укалыша твае дзеткі
Песьняй голаду сьлязьлівай.

Жджэ цябе дарога з ёю,
Ўдоўж і ўшыр зусім малая,
А ў зямлю глыбей затое,
А ў гару—аж зор хапае.

Па ёй будуць цябе везьці
Твае волікі сівыя
Ĭ званы аж вежай трэсьці—
На магілкі на старыя.

## РОДНЫ ДОМ

*М. Канапніцкай*

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў ночку—летавай парой—
Шаптаньнем ліп варожыць сном,
Сьлязу салодзіць цішынёй.

Ці любіш дом? сваю страху?
Што многа лет гняце ў маху
Крывых варот нізкі парог,
Што ласкай сьцелецца да ног.

Ці любіш дом? аджыўчы пах
Пракосных зёл, насьпелых ніў
І ружы цьвет, што ў кальчуках
Сваю прыгожасьць засяліў.

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што гул жывых сасон вярхоў,
І духаў стогн, і віхраў хор
Пералівае ў тваю кроў.

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў часе бур, плакучых хмар,
Калі ў душу ударыць гром,
Нясе прытульны думкам чар.

Раз любіш ты, і ўсё душой
Пад гэтай хочаш жыць страхой,—
Кут бацькаў сэрцам сьцеражы,
І сэрца ў ім на век злажы.

# ТРЫ ПАРЫ ДНЯ

*М. Канапніцкай*

Прыдзе сьвітаньне да маёй хаткі
І разбуджаць мяне стане:
„Гэй! бяры коску; глянь! там на ўсходзе
Сонейка скора прагляне“.

Дзе ты, сярмяга? Пот яшчэ значан:
Ночкай ня высах пятровай.
Дзе мая коска? дзе ваяўніца:
Час нам на луг за дуброву.

Прыдзе палудне да маёй хаткі,
Ка мне падсядзе на лаву,
І так глядзіць там, як мае дзеткі
Жывяцца поснаю стравай.

І лусту хлеба чорнага ломіць,
Рукі чагосьці трасуцца,
А што кусочак возьме, адкусіць —
Сьлёзы цурком паліюцца.

А прыдзе ночка да маёй хаткі,
Стане ў куток, падапрэцца—
І ў думах-думках, стоячы гэтак,
Песьняй глухой адазьвецца.

А ў грудзёх сэрца птушкай заскача,
Хадыром хатка заходзіць,
Як ноч аб долі цяжкай мужычай
Нудна галосіць, заводзіць.

## ДОЛЯ

*В. Сыракомлі*

Ные сэрца без патолі,
Нудна льлюцца сьлёзы...
Выйду клікаць лепшай долі
Ў даль, пад шум бярозаў.
Дзе ты лепшая, дзе, доля?
Прыбудзь,—хай пазнаем!
Прымем хлебам, прымем соляй,
Шчыра прывітаем.
Дарма плачу, заклікаю
І ў жалі малю я:
Вецер словы абівае,—
Доля ані чуе...
Ой ты, песенька, маўчы ты!
Ня нам вецер зьбіці:
Хадзі з сэрцайкам разьбітым
Па долі тужыці.

## КАРАЛІ

(Пацеркі)

*В. Сыракомлі*

Як ішоў я ў бой кіпячы,
Як прашчаўся з хаткай,
Тут Ганулля мая з плачам:
„Пойдзеш гінуць, братка!
Але буду я маліцца
Па табе з трывогі,
Ты-ж прынось за то гасьцінца—
Шнур караляў доўгі“.

З ласкай божай паручыла
Грамадзе радзімай:
Палі ворагавы сілы,
Горад здабылі мы.
Як прыціхнулі гарматы,
Як браму зламалі,
Хто саетаў, хто дукатаў—
Я шукаў караляў.

Хоць і ў шчасьці не радзіўся,
А шукаю сьмела...
Шнур караляў замігціўся,
Як-бы вішань сьпелых.
Тут здабычыну схапіўшы,
Не чакаю далей,
Чым хутчэй сьпяшу к наймільшай—
Даць ёй шнур караляў.

Па гасьцінцы, па дарожцы
Кульгаю дадому...
Загудзелі званы ў вёсцы,
Як па няжывому.

Прыбліжаюся к хаціне,
Аж тут людзі здаля:
„Твая Ганна ў дамавіне,—
Ня трэба караляў!“

Ой заплакаў, ой заенчыў
Цяжэй цяжкай хмары,
Перад цэркаўкай укленчыў,
Дый сьпяшу к аўтару:
Да сьвяцейшай да Марыі
Збліжаюся ў жалі,
І завесіў ёй на шыі
Тых я шнур караляў.

## ГРУГАН

*В. Сыракомлі*

З па-над лесаў, з па-над хмараў
 Груган вылятае,
Сеў пад вёскай на папары,
 Груганят склікае,
На вялікай, знаць, быў згубе
 Ў далёкіх старонках:
Рука правая у дзюбе
 З залатым пярсьцёнкам.

— Эй, скажы, груган нязнаны,
 Скуль ты прыбываеш?
Скуль пярсьцёнак пазлачаны
 І руку скуль маеш?
— За гарамі, ой, дзяўчына,
 Страшны бой вядзецца;
Кроў ліецца ручаінай,
 Труп на труп кладзецца.

Зарывае люд рабочы
 Сьсечаны галовы,
На малойцаў грудзі, вочы
 Сыплюць насьпы новы.
На курганах на бядачых
 Воўчы рык чуваці;
Не адна галосіць, плача
 Сірата і маці.

Сьлязьмі горка залілася
 Бедная дзяўчына:
Вось калі я дажылася
 Няшчаснай часіны!
Ой, руку я ўжо пазнала!
 Той, чыя,—ня ўстане:
Гэты персьцень даравала
 Міламу ў расстаньні...

## У СЬВЕТ*)

Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
Рые плуг, барана твае кветкі;
Ў табе сьпяць ураджайныя зёрны,
А мы—ў сьвет, твае родныя дзеткі.
Сьвісьне коска ў тваёй сенажаці,
Бразьне серп па загоне пасьпелым,—
А прад намі прасьвіту ня знаці,
Непагодай спавіты сьвет цэлы.
О вы, зёрны, о сноп умалотны,
О ты, жніў залатая мінута!
Жаль, нуда з намі ўсьлед плыве слотна,
А прад намі—маркотнасьць, пакута.
Жаль, нуда заляглі, як туманы
Хмар над нашай зямелькаю-маткай,
А загон яе ў скібы з'араны,
А ў самой у ёй дрэмлюць зярняткі.
Хто пасьмее зямельку вініці,
Наракаць на цябе хто пасьмее,
Што ў бадзяньні нам страшна так жыці,
Што ў жалобе мы гэткай марнеем.
Жаль, нуда хай ідуць перад намі,
І маркотнасьць, і любасьць бясконца,
А ты, маці, сваймі каласкамі
Шумі, цешся і сьмейся да сонца.
Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
І у нас яшчэ ўцеха загосьце;
Яшчэ будзем зьбіраць твае зёрны,
Яшчэ зложым свае ў табе косьці.

---

*) Аўта рыгінелу ня ведаю. Я. К.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

Стар.

---

## ПАПРАЎКА.

На старонцы 85 пад вершам памылкова надрукована 1919 г., а павінна быць 1912 г.

---

## ТВОРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

ЗБОР ТВОРАЎ, том І-шы („Жалейка“, „Гусьляр“). 280 стар. Менск, 1925 г.

ЗБОР ТВОРАЎ, том ІІ-гі („Шляхам жыцьця“). 354 стар. Менск, 1926 г.

СПАДЧЫНА, збор вершаў, 224 стар. Менск, 1922 г.

БЕЗНАЗОЎНАЕ, збор вершаў, 104 стар. Менск, 1925 г.

АПАВЯДАНЬНІ ВЕРШАМ, кніжка І-ая, 48 стар. Менск, 1926 г.

АПАВЯДАНЬНІ ВЕРШАМ, кніжка ІІ-ая, 48 стар. Менск, 1926 г.

ШЛЯХАМ ЖЫЦЬЦЯ, збор вершаў, выд. 1-ае, 264 стар. Пецярбург, 1913 г. Выд. 2-ое, Вільня, 1923 г.

ЖАЛЕЙКА, збор вершаў, 154 стар. Пецярбург, 1908 г.

АДВЕЧНАЯ ПЕСЬНЯ, сцэнічная поэма ў XII зьявах, 32 стар. Пецярбург 1910 г.

HUŚLAR, збор вершаў, 80 стар. Пецярбург, 1910 г.

СОН НА КУРГАНЕ, сцэнічная поэма ў 4-х абразох, 100 стар. Пецярбург, 1913 г.

РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО, драма ў 5 актах. 74 стар. Вільня. 1919 г.

ТУТЭЙШЫЯ. трагічна-сьмяшлівыя сцэны з Менскага нядаўняга жыцьця. у 4 дзеях. У „Полымі“ №№ 2 (10) і 3 (11). Менск, 1924 г.

ПАЎЛІНКА, сцэны з шляхоцкага жыцьця, у 2-х актах. У „Зборніку сцэнічных твораў“. сшытак І-шы. Менск, 1918 г.

ПРЫМАКІ. сцэнічны жарт у 1-ым акце. У часопісі „Рунь“ №№ 5-6 і 7-8. Менск. 1920 г. І ў „Сцэнічных творах“, кніжка першая. Менск. 1923 г.

ПЕСЬНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРА, поэма ў часопісі „Вольны Сьцяг“ №№ 5 і 6. Менск. 1921 г.

ЭРОС І ПСЫХА, сцэнічная аповесьць у 7-мі разьдзелах Ю. Жулаўскага. *Пераклад* з польскае мовы *(Прыгатавана да друку)*.

ГАЛЬКА, опэра С. Монюшкі. *Пераклад* з польскае мовы *(Прыгатавана да друку)*.

**У перакладзе на расійскую мову:**

Янка Купала, белорусский поэт. ИЗБРАННЫЕ СТИХОТВОРЕНИЯ В ПЕРЕВОДАХ РУССКИХ ПОЭТОВ, 112 стр. Москва. 1919 г.

